Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

ЧЭРВЕНЬ

№ 8—9



ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК——1929

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

ЧЭРВЕНЬ

№ 8 (9)

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б

МЕНСК 1929

## Вынікі Ўсебеларускай нарады Агітпропаў.

Усебеларуская нарада агітпропаў распрацавала наступныя чатыры пытаньні: аб масавай агітпрапрабоце, партыйнай і комсамольскай палітасьвеце і антырэлігійнай рабоце. Усе гэтыя пытаньні разглядаліся з пункту погляду праверкі выкананьня папярэдніх партыйных дырэктыў, прыстасаваньня работы да асаблівасьцяй сучаснага пэрыяду соцыялістычнага будаўніцтва і намячэньня шэрагу новых мерапрыемстваў у зьвязку з выяўленымі недахопамі і перашкодамі ў рабоце.

Па масавай рабоце нарада канстатавала некаторае палепшаньне масавае работы за апошнія два гады, некаторыя колькасныя і якасныя дасягненьні і посьпехі ў выкананьні дырэктыў аб масавай рабоце сакавіковага Пленуму ЦК 1927 г. Але разам з гэтым нарада адзначыла, што масавая работа зьяўляецца найбольш слабым і забытым вучасткам культурнага будаўніцтва. Масавая работа, як важнейшы палітычны і культурны сродак організацыі і выхаваньня працоўных мас, недастаткова скарыстоўваецца дзеля мобілізацыі ўвагі і волі працоўных на актыўнае перамаганьне цяжкасьцяй соцыялістычнага будаўніцтва, дзеля палітычнага выхаваньня працоўных у напрамку ўвязкі пэўнай канкрэтнай работы з агульна-палітычнымі ўстаноўкамі, дзеля разьвіцьця рэволюцыйнай чуласьці і ўменьня весьці рашучую барацьбу з непролетарскімі ўплывамі і варожымі антысавецкімі думкамі і настроямі сярод працоўных.

Да ліку буйнейшых недахопаў у масавай рабоце, нарада аднесла тое, што чарговыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыя краіны, пад'ём сельскае гаспадаркі на базе колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня сялянскіх гаспадарак, рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты, культурная рэволюцыя і г. д.), знаходзіць недастатковы адбітак у масавай рабоце, што гэтыя задачы ў масавай рабоце праламляюцца з значным спазьненьнем і часамі з ідэолёгічным скажэньнем, асабліва на вёсцы, што ў рабоце клюбаў, нардомаў, хат-чытален, чырвоных куткоў і г. д. пераважае культурніцкі ўхіл, які часамі набывае апалітычны характар, што якасьць і ідэолёгічная вартасьць масавае работы часамі бывае нявысокай, што масавая работа яшчэ не ахапіла і не захапіла шырокія колы працоўных і не прыстасавалася

да бытавых, нацыянальных, узростных, палавых і соцыяльных асаблівасьцяй працоўных, што ў масавай рабоце ня вылучаны ўдарныя вучасткі работы, што дзе-ні-дзе адчуваецца недаацэнка значэньня ролі масавае работы і г. д.

У прапазыцыях на далейшы час нарада падкрэсьліла, што асноўнае і галоўнае ў масавай рабоце, па-першае—гэта *палепшаньне ідэёвага зьместу і ідэолёгічнай якасьці работы*, прыстасаваньне масавае работы да папулярызацыі і прапрацоўкі рашэньняў XII-га партзьезду і XVI-ай партконфэрэнцыі, у першую чаргу — шырокая прапрацоўка сярод працоўных усесаюзнай і ўсебеларускай пяцігодкі, організацыя і шырокае разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня, барацьбы з праявамі нацыянал-дэмократызма, шовінізмаў розных гатункаў і асабліва з антысэмітызмам, рашучае змаганьне з фактамі замазываньня клясавай пролетарскай лініі, асабліва на вёсцы; па-другое—гэта *перанясеньне цэнтру масавай работы ў цэх на прадпрыемстве*, прыстасаваньне яе да ўмоў зьменнай работы, а таксама перанясеньне масавай работы ў хатнія абставіны рабочых (рабочы пасёлак, казарма, інтэрнат, вёска), і на вёсцы—перанасеньне цэнтру масавае работы ў саўгас і калгас; па-трэцяе—*пастаноўка на належную вышыню работы сярод новых і сэзонных рабочых, батрацтва, калгасьнікаў і вясковае беднаты;* па-чацьвертае—дасягненьне належнага пералому ў ацэнцы значэньня і ролі масавай работы і *стварэньні неабходных культурных кадраў* (лепшае скарыстаньне тых, што маюцца, падрыхтоўка і перападрыхтоўка новых).

У адносінах да партасьветы, нарада адзначыла, як дадатныя бакі, гэта значнае павялічэньне тэорытычнага ўзроўню і актыўнага ўдзелу ў унутры-партыйным жыцьці ўсёй КПБ, што спрыяла правільнай орыентацыі партыі ў правядзеньні ленінскай лініі, у барацьбе з усялякімі ўхіламі ад гэтае лініі, што дапамагло партыі даць такі-ж рашучы адпор праваму ўхілу і прымірэнцтву да яго, як і раней трацкізму. Адначасова нарада адзначыла, што прынцып добраахвотнасьці партасьветы цалком сябе апраўдаў, што першапачатковае камплектаваньне партсеці значна ўзрасло ў параўнаньні з мінулым годам, асабліва за колькасьць беспартыйных і комсамольцаў (на 63%), што значна павялічыліся ў сыстэме партасьветы сярэднія ступені (у горадзе павялічылася колькасьць вячэрніх партшкол з двухгадовым курсам навучаньня і ўпяршыню былі організаваны савпартшколы ў большасьці вясковых раёнаў), значна пашырылася сетка завочнага навучаньня, павялічыліся кадры прапагандыстых (да 950 чалавек і г. д.).

Але, ня гледзячы на шэраг дасягненьняў у галіне партасьветы, нарада адзначыла і шэраг недахопаў. Нарада падкрэсьліла, што партвучоба яшчэ недастаткова ўвязана з прак-

тычнай работай, што партвучоба яшчэ недастаткова дапамагае ў вырашэньні практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва, што партвучоба яшчэ недастаткова задавальняе запатрабаваньні паасобных партыйцаў. Да ліку буйных недахопаў партасьветы трэба аднесьці, з аднаго боку, недастатковы нагляд і кіраўніцтва партасьветай з боку партворганаў, што прыводзіла да значнага адсеву жадаючых займацца (40—50%) і з другога боку—значную раскіданасьць у сыстэме ахопу партвучобай, адсутнасьць ударных вучасткаў у ахопе партвучобай, у выніку чаго значная колькасьць кандыдатаў партыі і нізавога партактыву засталася неахопленай партвучобай.

Нарада распрацавала шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньню партасьветы на будучы час. Нарада ўхваліла: каб камплектаваньне партсеці праводзіць на працягу ўсяго году, павялічыць сетку партасьветы з разьлікам на максымальны абхоп сеткай беспартыйных рабочых, батракоў, с.-г. рабочых, калгасьнікаў, вясковае беднаты і лепшай часткі серадняцтва, прыстасаваць работу партасьветы да ўмоў работы і быту партыйцаў, асаблівую ўвагу зьвярнуць на ахоп жанчын і раскіданых паасобку партыйцаў і комсамольцаў на вёсцы, дабіцца своечасовага снабжэньня школ падручнікамі і неабходнай літаратурай, палепшыць пастаноўку консультацыі і рэцэнзаваньня завочным навучаньнем, дабіцца таго, каб АПА-габінэты сапраўды ператварыліся ў навуковадасьледчыя лябараторыі па мэтадычным кіраўніцтве і мэтадычнай апрацоўцы мясцовага матар'ялу для партсеткі, пакінуць у партсетцы агульна-адукацыйныя дысцыпліны, наладзіць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў прапагандыстых, у першую чаргу рабочых прапагандыстых і г. д.

У галіне комсамольскай палітадукацыі нарада адзначыла, што асноўнымі недахопамі яе зьяўляюцца недастатковая падрыхтоўка прапагандыстых, асабліва на вёсцы, няўменьне увязаць палітвучобу з практычнай работай, слабасьць кіраўніцтва вучобай з боку партыйных і камсамольскіх організацый, слабое задавальненьне цягі да агульнай асьветы, слабое разьвіцьцё такіх форм адукацыі, як прадметныя гурткі, слабое разьвіцьцё школьнай сеткі на вёсцы і г. д. Нарада вызначыла шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньні палітадукацыі як у горадзе, так і на вёсцы, па вучобе актыву і палепшаньню кіраўніцтва вучобай. Гэтыя мерапрыемствы ў асноўным зводзяцца да таго, каб прыстасаваць формы, мэтады і зьмест палітвучобы да запатрабаваньняў розных груп камсамольцаў. Для задавальненьня цягі рабочай моладзі да атрыманьня агульнае асьветы пашырыць сець ВШРМ, з уключэньнем агульна-адукацыйных дысцыплін у камсамольскую сетку партвучобы, павялічыць ахоп камсамольцаў і ў першую чаргу актыву сыстэмай партасьветы, палепшыць работу па падрыхтоўцы прапагандыстых, у пляны работы

партворганаў уключыць пытаньні праверкі камсамольскай палітадукацыі.

У адносінах да антырэлігійнае работы нарада адзначыла, што антырэлігійная прапаганда не знайшла яшчэ належнага адбітку і праламленьня ва ўсёй сыстэме культурна-асьветнае работы, што антырэлігійная прапаганда мае пераважна павярхоўны характар, праводзіцца ад кампаніі да кампаніі і толькі ў апошні час (2—3 м-цы) наглядаецца некаторы рух у гэтай працы, які прывёў да павялічэньня колькасьці сяброў саюзу „Бязбожнік“ з 10—15 тысяч да 50 тысяч.

Улічваючы, што ў зьвязку з абвастрэньнем клясавае барацьбы ў краіне, наглядаецца ажыўленьне дзейнасьці рэлігійных арганізацый, асабліва сэктантскіх груп, якая часамі набывае яскрава выяўлены контр-рэволюцыйны характар, што ў антырэлігійную работу ўцягнуты зусім нязначныя пласты працоўных, што антырэлігійная работа зусім слаба зьвязана з чарговымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, нарада распрацавала шэраг мерапрыемстваў па замацаваньні і пашырэньні дасягнутых вынікаў антырэлігійнае работы, па пераводу работы з кампанейскіх рэяк на рэйкі штодзённай сыстэматычнай работы, укараненьне антырэлігійнай прапаганды ўва ўсю палітасьветработу (клюбы, хаты-чытальні, радыё, кіно і г. д.), па перапрацоўцы праграмы навучальных устаноў з такім разьлікам, каб у школах праводзілася небезрэлігійнае, а антырэлігійнае выхаваньне па падрыхтоўцы неабходных прапагандысцкіх кадраў антырэлігійнікаў, па стварэньні нізавога антырэлігійнага актыву, па выданьні неабходных падручнікаў і папулярызацыі антырэлігійнай літаратуры і г. д.

Усе рашэньні агітпропнарады павінны быць вядомы шырокім колам парторганізацыі, і прыстасаваны да мясцовых умоў працы.

Б. Стасевіч.

---

## Аб працы дэлегацкіх сходаў у летні пэрыяд.

Прыблізна ў канцы мая заканчваецца праграмная праца дэлегацкіх сходаў як у горадзе, так і на вёсцы. Таму зараз ужо неабходна абмеркаваць плян працы дэлегацкіх сходаў да часу выпуску дэлегацкіх сходаў увосень.

Дэлегацкія сходы на вёсцы павінны скласьці свой плян працы, выходзячы з практычных задач, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай.

Асноўнае месца ў працы дэлегацкіх сходаў павінна заняць практычная праца саміх дэлегатак і дэлегацкіх сходаў цалком.

У горадзе неабходна працу дэлегацкіх сходаў накіраваць у бок праламленьня тых задач, якія стаяць перад прамысловасьцю: падняцьце прадукцыйнасьці працы, працоўнай дысцыпліны, барацьба з прагуламі. Тут трэба скарыстаць ініцыятыву дэлегатак у гэтай галіне. Лепш за ўсё будзе наблізіць працу дэлегацкіх сходаў да працы вытворчых камісій і нарад. Праверыць, які ўдзел прымаюць прымацаваныя дэлегаткі ў вытворчых нарадах, як выконваюцца прапановы работніц аб паляпшэньні арганізацыі вытворчасьці, якасьці прадукцыі, патаненьні прадукцыі і г. д.

Вялікае месца ў працы дэлегацкіх сходаў на прадпрыемстве павінна заняць уцягненьне работніц у справу сацыялістычнага спаборніцтва. Дэлегацкі сход павінен быць ініцыятарам гэтай справы з тым, каб работніцы прынялі актыўны ўдзел у практычным правядзеньні мерапрыемстваў, зьвязаных з сацыялістычным спаборніцтвам, у жыцьцё.

Побач з гэтым за летні пэрыяд неабходна прапрацаваць на дэлегацкіх сходах пытаньні бытавога характару: арганізацыя летніх пляцовак, правядзеньне ў жыцьцё мерапрыемстваў, вызначаных культ-бытавым паходам да 8 сакавіка, галоўным чынам, па працы сталовак, лікпунктаў, школ малапісьменных і г. д.

Ужо зараз неабходна адабраць групы работніц дэлегатак, жадаючых уступіць у партыю, з тым, каб прыцягваць іх на адкрытыя сходы парт'ячэек і наблізіць да партыі.

Па прыкладу мінулых год добра будзе для азнаямленьня работніц з жыцьцём іншых фабрык і заводаў, а таксама з жыцьцём вёскі, правесьці экскурсіі (на вёску праз шэфтаварыства), скарыстоўваючы вопыт прыняцьця шэфства гарадзкіх дэлегацкіх сходаў над дэлегацкімі сходамі сялянак.

Асноўным зьместам працы дэлегацкіх сходаў на вёсцы на летні пэрыяд павінны быць пытаньні ўздыму ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, калектывізацыі і каапэраваньня яе.

Улічваючы гаспадарчыя асаблівасьці кожнага раёну, сельсавету, неабходна прыцягнуць дэлегацкія сходы да ажыцьцяўленьня практычных мерапрыемстваў па перабудове сельскай гаспадаркі, арганізацыі калгасаў.

Закон аб агранамічным мінімуме трэба канкрэтна прапрацаваць з дэлегаткамі, увязаўшы гэту працу з плянамі сельсаветаў і з аграўпаўнаважанымі па вёсках. Неабходна, каб дэлегацкі сход цалком і кожная дэлегатка паасобку былі ініцыятарамі, падштурхальшчыкамі ў справе правядзеньня ў жыцьцё агрnative мінімуму. Неабходна замацаваць тую працу, якая была праароблена дэлегацкімі сходамі ў веснавы пэрыяд па закладцы паказальных агародаў, па ачыстцы насеньня і г. д. і тым паглыбіць і пашырыць мерапрыемствы па ажыцьцяўленьні агрaмінімуму. Скарыстайце для абгаварэньня на

дэлегацкіх сходах лістоўкі Наркамземляробства аб ужываньні торпу і інш., якія дасылаюцца ўсім дэлегацкім сходам на вёсцы.

Практычныя заданьні дэлегацкім сходам неабходна даваць улічваючы вытворчы плян мясцовага савету, каапэрацыі, зямельных органаў на вясеньне-летні пэрыяд. Перад складаньнем пляну працы—неабходна азнаёміцца з плянам працы савету, с.-г. каапэрацыі, земорганаў. Для ўвязкі працы дэлегацкіх сходаў з гаспадарчай працай мясцовых арганізацый трэба ўводзіць прадстаўнікоў ад дэлегацкіх сходаў сялянак у склад камісіі па разьмеркаваньню фондаў крэдытаваньня, каапэраваньня беднаты, падатковыя камісіі, па выпрацоўцы пляна асеньняй пасяўной кампаніі, па земляўпарадкаваньню, у вытворчыя нарады пры сельсаветах і г. д.

Асобна неабходна прапрацаваць закон аб сельска-гаспадарчым падатку на 1928-29 г. Трэба добра азнаёміць праз дэлегацкі сход усю масу сялянак аб тых ільготах, якія прадстаўляюцца па с.-г. падатку беднаце і серадняцкай масе.

Работа дэлегацкага сходу ў справе дапамогі савецкім каапэрацыйным арганізацыям па калектывізацыі і каапэраваньні сялянскай гаспадаркі і па правядзеньні асноўных кампаній павінна быць накіравана на падняцьце маламоцных колаў вёскі, пагэтаму неабходна цясьней увязваць работу дэлегацкіх сходаў з работай сярод беднаты: прыцягваць усіх дэлегатак бяднячак і батрачак на сходы беднаты, прымацаваных дэлегатак-бяднячак і батрачак да розных арганізацый прыцягваць да практычнай працы груп беднаты, даючы ім асобныя даручэньні па выкананьню пастаноў груп беднаты, прыцягваючы іх на нарады і канфэрэнцыі груп беднаты.

Пытаньні каапэраваньня сялянак і дапамогі бяднячкам і батрачкам (пры земляўпарадкаваньні, у пасеўнай кампаніі, пры крэдытаваньні) трэба ставіць на сходах і групах беднаты, забясьпечваючы гэтым дапамогу з боку беднаты пры правядзеньні мерапрыемстваў па калектывізацыі сялянак і вытворчаму каапэраваньню галін сельскай гаспадаркі з пераважнай у іх жаночай працай.

У час перавыбараў сельсаветаў у 1928-29 г. шмат сялянак было абрана ў склад сельсаветаў. Неабходна скарыстаць працу дэлегацкіх сходаў летам, каб замацаваць і наладзіць сапраўдны ўдзел сялянак у практычнай працы саветаў. Пагэтаму трэба каб дэлегацкія сходы зараз-жа праверылі як прыцягнуты да практычнага ўдзелу дэлегаткі-сябры с-с., а таксама і прымацаваныя дэлегаткі з тым, каб дэлегацкі сход быў дапамогай с-с. у справе падняцьця прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, калектывізацыі і каапэраваньні яе. Дэлегацкі сход павінен быць апорай с-с. у барацьбе з кулацкім уплывам на вёску, дапамагаючы ў правядзеньні правільнай клясавай лініі на вёсцы. Мэтазгодна для гэтага заслу-

хаць даклады дэлегатак-сяброў с-с., а таксама прымацаваных дэлегатак аб іх працы ў с-с. і яго камісіях.

Вялікае значэньне ва ўсей практычнай працы дэлегацкіх сходаў мае сапраўднае правядзеньне ў жыцьцё вызначанага пляну. Трэба сачыць за тым, каб дэлегацкія сходы выносілі такія прапановы, якія маглі-б быць праведзены ў жыцьцё і дабіваліся-бы самі іх правядзеньня ў жыцьцё. Для гэтага групам і асобным дэлегаткам даручаецца высьвятленьне пытаньняў у адпаведных арганізацыях, а таксама прыняцьця канкрэтных мер па выкананьню пастаноў дэл. сходаў. Неабходна ставіць на дэл. сходах пэрыядычна даклады аб ходзе выкананьня пастаноў дэл. сходаў у цэлым і паасобных дэлегатак.

І. С. Браварнік.

---

# Арганізацыя і мэтодыка партасьветы.

## З блёкноту прапагандыстага.

Галоўным у працы партшколы зьяўляецца кіраўнік. Калі ён зацікавіць слухачоў на сваіх занятках, то можна быць упэўненым у выніках працы. Чым-жа можна зацікавіць слухачоў?

Ёсьць такія кіраўнікі, якія адносяцца да заняткаў нядбайна, абы прайсьці гутарку, усе гутаркі падрад „каб плян не парушыўся“, каб пасьля сказаць „праграму мы цалкам і поўнасьцю выканалі“. Але трэба адзначыць, што на занятках у такіх кіраўнікоў словы не заходзяць у мазгавую скрынку слухачоў і сыплюцца як гарох аб сьценку. Заўсёды ў такіх групах наглядаецца найбольшы адсеў і слухачы будуць знаходзіць якія-небудзь прычыны, каб не наведваць заняткі, а кіраўнік увесь час будзе скардзіцца, што партыйныя ячэйкі ня прымаюць рэпрэсыйных мер да таварышоў, якія не наведваюць заняткі школы.

Ёсьць другі тып кіраўніка. Ён добра азнаёміцца з сваімі слухачамі—як кажуць, з аўдыторыяй—з іх ведамі, з правадзімай імі практычнай працай і ў адпаведнасьці з гэтым прыстасоўвае мэтад выкладаньня. Кожную гутарку ён працізвае сучаснасьцю, тэарэтычнымі вывадамі, асьвятляе шлях і мэтад выкананьня практычных мерапрыемстваў на прадпрыемстве, вельмі ўважлівы да запатрабаваньняў слухачоў, выклікае іх актыўнасьць, штурхае іх думку, актыўна дапамагае іх самастойнай працы над кніжкай і газэтай. І калі ў такіх групах і сапраўды будуць перашкоды, дзеля наведваньня слухачоў, мы будзем наглядаць зусім нязначны адсеў.

Можна прывесьці шэраг прыкладаў, якія сьцьвердзяць гэта.

У аднэй групе прапрацоўваецца гутарка аб індустрыялізацыі краіны. Разглядаецца пытаньне аб рацыяналізацыі і працоўнай дысцыпліне. У тлумачэньні кіраўніком прыводзіцца ўсё, што вы толькі хочаце, але ўся гэта рацыяналізацыя, дрэннае становішча з працоўнай дысцыплінай, адбываецца на іншых прадпрыемствах у іншым месцы. А вось якое становішча на *гэтым* заводзе, што практычна ўжо зроблена і што трэба зрабіць, на гэты шлях думка слухача не накіроўваецца. Бо гэта-ж патрабуе ад прапагандыстага значнай падрыхтоўкі, азнаямленьня з усімі матар'яламі і дэталёвага азнаямленьня з данай вытворчасьцю (заводам, фабрыкай і г. д.)

і ня было чаму зьдзіўляцца, калі частка слухачоў у часе заняткаў сядзела на вытворчай нарадзе і прымала актыўны ўдзел у абгаварэньні высунутых пытаньняў.

Або прапрацоўваецца гутарка аб статуце нашай партыі і палажэньне аб задачах ячэйкі нескарыстоўваецца, каб на падставе гэтага разглядзець працу партячэйкі на гэтым прадпрыемстве. (Праўду кажучы, у прапагандыстага няма ні хвілінкі, каб гэтак падрыхтавацца да заняткаў, і яшчэ ня зроблены патрэбныя ўмовы, якія спрыялі-б працы прапагандыстага, але гэта ніколькі не памяншае нашых недахопаў).

---

На ўскраіне Менску знаходзіцца завод „Беларусь“. Ужо некалькі год заўсёды на заводзе існуе адзін і той-жа тып школы. Ёсьць слухачы, якія ўсе гады праходзяць іх, дзякуючы таму, што вышэйшыя школы знаходзяцца ад іх на далёкай адлегласьці. І ў гэтым годзе працавала група адзінай партыйнай школы. У ёй лічыцца 19 чалавек. Усе члены або кандыдаты КП(б)Б. Найбольш дарослы склад. Большасьць слухачоў мае канкрэтныя абавязкі (цэхоргі, упаўнаважаныя ЦРК, сябры бюро ячэйкі МОПР'у і г. д.). У групе зусім няпісьменных няма, але пераважная колькасьць малапісьменныя. Значная частка з іх займалася ў мінулым годзе ў групах „А“ і „Б“. Завод працуе па зьменах. Сярэдняе наведваемасьць хістаецца ад 6—9 чалавек.

У групе прапрацоўвалася тэма „Партыя ў эпоху рэакцыі і імпэрыялістычнай вайны“. Вызначаныя 6 вучэбных гадзін скарыстаны—для чыткі 4 гадзіны, і прызначаны 2 гадзіны для гутаркі. Гэткае разьмеркаваньне часу выклікае заўсёды спрэчкі сярод слухачоў, частка якіх стаіць на пункце гледжаньня неабходнасьці павялічэньня гадзін дзеля гутаркі.

Кіраўнік страціў 25 хвілін на мэханічнае запісваньне слухачамі наступных пытаньняў:

Да II-га параграфу:

1. Якія адзнакі рэвалюцыйнага ўздыму.
2. Лёзунгі бальшавікоў і меншавікоў у гады ўздыму.
3. Значэньне Праскай канфэрэнцыі ў гісторыі нашай партыі.
4. Роля Троцкага ў гады ўздыму.

Да III-га параграфу:

5. Ацэнка вайны бальшавікамі.
6. Лёзунгі бальшавікоў і меншавікоў у час вайны.
7. Якую пазыцыю занялі бальшавікі ў часе вайны.
8. Чаму бальшавікі сталі на пункт погляду паражэнчаства.
9. Пазыцыя Троцкага ў часе вайны.

Акрамя гэтых пытаньняў, на мінулых занятках, былі яшчэ заданы пытаньні, на якія слухачы павінны даць пісьмовыя

адказы. Мы лічым, што такую колькасьць часу для запісваньня пытаньняў немэтазгодна траціць (яшчэ і таму, што надрукаваць загадзя іх не зьяўляецца цяжкасьцю ў заводзкіх умовах) гэта папершае, а падругое, немэтазгодна задаваць такую колькасьць пытаньняў для пісьмовых адказаў. Для многіх гэта зьяўляецца вялікай цяжкасьцю, таму і ня выконваецца імі, што выклікае заўсёды спрэчкі паміж кіраўніком і слухачамі аб ня выкананых заданьнях.

Пасьля гэтага група прыступіла да чытаньня „Азбукі Ленінізму“, а кіраўнік да чытаньня журнала „Пад знаменем Марксизма“. Кіраўнік слаба дае мэтадычную дапамогу, не дапамагае ў іх самастойнай працы, ня сочыць за прапрацоўкай імі заданьняў, а падходзіць да слухачоў пасьля таго, калі да яго зьвернуцца з пытаньнем.

Гутарка пачалася 5½ і скончылася 6½. Пасьля пяціхвіліннага перапынку кіраўнік тлумачыў аб прапрацоўцы наступнай гутаркі. Мы запісалі дакладна пытаньні, якія ставіліся кіраўніком, адказы слухачоў, галоўныя думкі—вывады кіраўніка, якія ім аргумэнтаваліся, і пасьлядоўнасьць у пастаноўцы пытаньняў [1]).

Уступнае слова пачалося з высьвятленьня пытаньня аб прычынах паражэньня рэвалюцыі 1905 году. Пасьля таго, як выказаўся адзін слухач, кіраўнік заключыў, што сялянства не падтрымала рабочую клясу, буржуазія перайшла на другі бок, дапамога сусьветнай буржуазіі і неарганізаванасьць рабочае клясы зьяўляецца прычынамі паражэньня рэвалюцыі 1905 году.

Ну, а што пачынае праводзіць царскі ўрад праз Сталыпіна?

Адказ слухача—аграрную рэформу.

А што такое аграрная рэформа?

Выказаўся адзін слухач—разбурэньне абшчыны.

А што такое абшчына?—ідзе тлумачэньне кіраўніка.

Абшчыннае землякарыстаньне тармазіць разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ці не?

Слухачы—тармазіць.

Такім чынам з аднаго боку стваралася апора ў вёсцы, а з другога адкрыліся некаторыя магчымасьці дзеля разьвіцьця капіталізму, адсюль апора на буржуазію.

Ці разьвязвае Сталыпінская рэформа аграрныя задачы, якія стаялі ў 1905 годзе?

Слухачы і кіраўнік—не.

А характар улады зьмяніўся?

Слухачы—не.

Рэвалюцыя 1905 году ня выканала пастаўленых задач, гэта прызнавалі і бальшавікі. А якія погляды адсюль выказваліся і бальшавікамі і меншавікамі?

Бальшавікі—рэвалюцыя павінна быць нямінуча.

---

[1]) Там, дзе няма абумовы, словы належаць кіраўніку.

Меншавікі—рэвалюцыя не перамагла, адсюль прыстасаваньне да легальных магчымасьцяй і пасоўваньня ўперад праз рэформы.

З гэтага выплывае дзьве тактыкі:

Бальшавікі—скарыстаць легальныя магчымасьці.

Меншавікі—стварэньне лібэральна-рабочай партыі.

Ну, а канфіскацыю зямлі меншавікі ставілі?

Слухачы—не.

Яны гаварылі аб пераглядзе зямельных законаў.

Ці доўга існавала рэакцыя?—з 1905 па 1910 год

А як бальшавікі і меншавікі лічылі патрэбным зьвязвацца ў Думе?

Бальшавікі—з сялянствам.

Меншавікі—з лібэральнай буржуазіяй.

Прайшлі годы рэакцыі, па якім адзнакам мы можам меркаваць аб уздыме?

Слухачы—забастоўкі.

А якія забастоўкі былі ў пераважнасьці?

Слухачы—эканамічныя.

Не, палітычныя.

А што штырхнула да большага ўздыму?

Слухачы—Ленскі расстрэл.

А што такое Ленскі расстрэл?

Слухач—там нейдзе вельмі эксплёатавалі і вось пайшлі здаецца да пракурора, а ім выставілі салдат.

Зусім верна—і забілі 400 чалавек.

Адзін слухач дадаў, што там былі дрэнныя жыльлёвыя ўмовы.

Верна. Там былі дрэнныя жыльлёвыя і эканамічныя ўмовы.—Наогул усё было дрэнна. І Ленскі расстрэл адыграў такую ж ролю, як 9-е студзеня 1905 г.

Ну, а цяпер нам усе пытаньні зразумелы. У гэты час адбываецца Праская канфэрэнцыя (нечакана задалі пытаньне—а што лепей эканамічная ці палітычная забастоўка? Адказ быў—вельмі абшырным, але ня зусім зразумелым. Тут было і палітычная сьпеласьць рабочае клясы і эканамістыя 90-х гадоў і гістарычныя факты, а вось канкрэтна зьмест эканамічнай і палітычнай барацьбы і іх узаемаадносіны, дакладна ня было сфармулёвана. Ангельская забастоўка гарнякоў не ўпамянута).

Якую ролю адыграла ў гісторыі нашай партыі Праская канфэрэнцыя?

Слухач:—Канчаткова раскалоліся з меншавікамі.

А што такое жніўеньскі блёк?

Слухач—Гэта Троцкі сабраў усіх і вёў барацьбу з бальшавікамі.

Зусім верна—значыцца жніўеньскі блёк быў накіроваи супроць бальшавікоў (а сувязь з сучаснасьцю дзе?).

Хто можа сказаць што-небудзь аб ролі легальнага друку. Ну вось такое пытаньне: Ці варта траціць сутнасьць газэты за кошт легальнасьці?

Слухач — Рабочы забыў пра існаваньне бальшавікоў, „Іскра"—патухла і вось, легальны друк пачаў васпламеняць рабочыя сэрца.

Зусім верна. Афяраваць зьмест дзеля легальнасьці нельга. Мы прасоўваліся праз рэакцыю, уздым да вайны. Пачалася вайна. Як расцэньвалі вайну бальшавікі і меншавікі?

Бальшавікі—супроць вайны і ператварэньне яе ў грамадзянскую.

Меншавікі—за вайну.

А можа быць вайна абарончая? Можа. Прыклад—Кітай.

А па чым мы можам меркаваць, што гэта была імпэрыялістычная вайна?

Усе краіны ўступілі ў вайну за рынкі збыту і вось меншавікі гаварылі, што патрэбна абараняць бацькаўшчыну, а бальшавікі стаялі на пункце погляду паражэнчаства.

Жыў быў дедушка Інтэрнацыянал. Што гэта Інтэрнацыянал за істота такая?

Ён аб'яднаў рабочых Эўропы. Самымі буйнымі сэкцыямі зьяўляліся—Нямеччына, Ангельшчына, Францыя, Расія, а другая—Італія, Гішпанія і г. д. А раз пайшлі друг супроць друга, то парушылася міжнародная пралетарская салідарнасьць.

А якое становішча займаў Троцкі ў час вайны?

Займаў цэнтрысцкую пазыцыю. Наогул быў заўсёды (?) цэнтрыстам (Бярэсьце).

У часе вайны рабочы рух быў? Слухачы—быў.

Больш-менш мы ахапілі ўсе пытаньні, кардынальныя пытаньні ад рэвалюцыі 1905 г. да Лютаўскай рэвалюцыі.

Якія адсюль магчыма зрабіць вынікі?

1. Зусім невыстарчальная актыўнасьць слухачоў. 2) Вялікая награмаджанасьць матар'ялу. Большую частку пытаньняў магчыма было прапрацаваць шляхам актыўнай кансультацыі ў час чытаньня. Патрэбна было абраць максымум 5—6 галоўных пытаньняў, вакол якіх сканцэнтраваць увагу слухачоў і весьці разгорнутую гутарку. 3) Скарыстаць поўнасьцю адведзеныя вучэбныя гадзіны для гутаркі і не праяўляць сьпешнасьці ў выкладаньні матар'ялаў. 4) Некаторае ўпрашчэньне пытаньняў. Адсутнасьць сувязі з сучаснасьцю (барацьба на 2 фронты, упушчана пытаньне аб „адзавізму"), недакладнасьць асноўных фармулёвак (прычыны паражэньня рэвалюцыі 1905 г., легальнасьць друку, жнівенскі блёк, дзедушка Інтэрнацыянал), карацей гэта можна выразіць так:—Гаворыць больш кіраўнік, а слухачы падцьвярджаюць толькі. Гэта хутчэй ня гутарка, а ход думак самога кіраўніка, адарваны ад думак слухачоў і ня штурхаючы іх да самастойнага мышленьня.

**В. Левін.**

---

## Нашы прапановы.

Кожны год склікаюцца курсы па перападрыхтоўцы прапагандыстых, але курсы мінулых гадоў не далі амаль ніякіх вынікаў. Курсы прапагандыстых павінны мець пэўную мэту, нават вузка-спэцыяльную мэту падрыхтоўкі працаўнікоў у пэўных галінах прапаганды. Запатрабаваньні партыйнай масы так узрасьлі, што прапагандысты ня можа быць адначасова і гісторыкам эканамістым, і філёзафам, і выкладчыкам ленінізму, а на нашых курсах перападрыхтоўкі амаль заўсёды лекцыі чытаюцца дзеля ўсіх аднолькавыя, а на курсы зьбіраюцца працаўнікі ніжэйшай школы палітграматы, сярэдніх зьвеньняў партасьветы, заг. АПА РК, працаўнікі камсамольскіх школ і дэлегацкіх сходаў.

Мы лічым, што ў гэтым годзе курсы павінны ўзяць такую ўстаноўку.

На перападрыхтоўку трэба ўзяць сапраўдных прапагандыстаў, працаваўшых ня менш аднаго навучальнага году ў адным з зьвеньняў партасьветы. Курсы не павінны зьявіцца месцам падрыхтоўкі новых прапагандыстых; практыка паказвае, што тых, якіх думаюць праз курсы па перападрыхтоўцы зрабіць прапагандыстымі, прапагандыстамі ніколі ня робяцца. Курсы павінны будавацца па наступнаму прынцыпу:

1) Асобна працуюць прапагандыстыя, якія працавалі ў ніжэйшых зьвеньнях партсеці, па асобных пытаньнях яны могуць падзяляцца на 2 часткі, гарадзкую і вясковую.

2) Асобна працуюць прапагандыстыя, якія працавалі і будуць працаваць у сярэдніх зьвеньнях партсеці (Вяч. саўпартшкола, прадметныя гурткі). Кожны прапагандысты сярэдняй сеткі партасьветы павінен мець магчымасьць працаваць ня больш, як па 2-х прадметах.

3) Працаўнікі камсамольскіх палітшкол і дэлегацкіх сходаў павінны працаваць у асобных сэкцыях.

Больш часу, як у мінулых гадох, трэба зьвярнуць мэтодыцы партасьветы, толькі ў гэтым выпадку курсы могуць дасягнуць сваей мэты; арганізаваць такія курсы значна цяжэй, чым курсы мінулых гадоў, але-ж гэты адзіны сапраўдны сродак павысіць мэтадычную і тэарытычную падрыхтоўку прапагандыстых.

Курсы павінны працаваць у працягу $1^1/_2$—2 м-цы.

**Сярэбраны, Нехамкін.**

---

На 12 гадз. працы.

# ЗАВОЧНАЯ САВПАРТШКОЛА.

## Гісторыя клясавай барацьбы.

## ЗАДАНЬНЕ 4-е.

**Тэма: Чартысцкі рух у Англіі.**

Мэта заданьня.

1. Высьветліць на базісе заканчэньня прамысловага перавароту і сацыяльна-палітычныя ўмовы Англіі ў першай палове XIX сталецьця. Узьнікненьне арганізаванага рабочага руху.
2. Клясавы зьмест і мэтадычнае значэньне чартызму.
3. Прычыны заняпаду чартызму.

Плян заданьня.

### I. Эканамічнае і палітычнае становішча Англіі ў першай палове XIX сталецьця.

1. Эканамічнае становішча Англіі.
2. Палітычны лад.
3. Выбарчая рэформа 1832 году.
4. Барацьба за скасаваньне хлебных законаў.
5. Становішча рабочае клясы (закон аб бедных).
6. Рабочы рух да чартызму.

Літаратура:

Бачараў, Іонісіані і інш. Падручнік гісторыі клясавай барацьбы. Стар. 104—112 ад пачатку артыкула да слоў— „Чартизм“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя. Выд. 1926 г., стар. 226—227, дакум. № 1.

У каго няма падручніка гісторыі клясавай барацьбы.— Бачарова і Іонісіані, то замест гэтага падручніка можна карыстацца:

Моносов. Гісторыя рэвал. руху на Захадзе. Выд. 5-е, 1927 г., стар. 75—82 ад пачатку артыкула да слоў—„Возникновение чартизма, его характер“.

(Фрыдлянд і Слуцкі абавязковы і пры Бачараве і пры Моносове).

### II. Чартысцкі рух.

1. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя прычыны чартызму.
2. Узьнікненьне і характар руху.
3. Сацыяльны склад яго.

4. Тактычныя і праграмныя рознагалосьсі сярод чартыстых.

5. Тры пэрыяды ў яго разьвіцьці.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіоні і інш., стар. 112—115 ад слоў—„Чартизм“ да слоў—„Неудачы чартизму“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Выд. 1926 г. стар. 243. Дакум. № 11 Б, стар. 246—248 дакум. № 13, стар. 252—256 дакум. №№ 19, 25 або

Моносов замест Бачарава, стар. 82—92, ад слоў—„Возникновение чартизма, его характер“ да слоў—„Причины неудачи чартизма“.

## III. Прычыны паражэньня і гістарычнае значэньне чартызму.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіані. Стар. 115—116 ад слоў—„Неудачи чартизма“ да канца артыкулу.

Фрыдлянд і Слуцкі. Выд. 1926 г., стар. 258, дакум. № 23, стар. 12, 261—262, дакум. № 26.

У каго няма Бачарава той можа па Моносову, выд. тое-ж, стар. 92—94, ад слоў—„Причины неудачи движения“ да канца артыкулу.

Кантрольныя пытаньні:

1. Як уплывалі буржуазныя рэформы на разьвіцьцё клясавай самасьвядомасьці рабочых?
2. Чаму палітычныя патрабаваньні займаюць такое вялікае месца ў партыі?
3. Якая існуе сувязь між праграмамі і тактычнымі рознагалосьсямі і сацыяльным складам чартысцкага руху?
4. Як адбіўся на далейшым ходзе чартысцкага руху адыход дробна-буржуазных пластоў?
5. Чаму з чартызмам закончыўся рэвалюцыйны пэрыяд ангельскага рабочага руху?

На 12 гадзін.

## ЗАДАНЬНЕ 5-е.

### Тэма: Рэвалюцыя 1848 году ў Францыі.

Мэта заданьня—высьвятліць:

1. Няўхільныя клясавыя супярэчнасьці ў Францыі, якія выклікалі рэвалюцыю 1848 году.
2. Контр-рэвалюцыйная роля буржуазіі і сялянства.

3. Адзначыць значэньне рэвалюцыі 1848 году, як пераломнага пункту ў клясавай барацьбе пралетарыяту Францыі, які выкрыў зіяючае бяздоньне між пралетарыятам і буржуазіяй.

4. Роля чэрвеньскага паўстаньня, як першага адкрытага выступленьня пралетарыяту капіталістычнага грамадзтва.

План заданьня:

## I. Францыя напярэдадні рэвалюцыі 1848 году.

1. Эканамічнае становішча Францыі.
2. Становішча кляс і іх узаемаадносіны.
3. Стыхійны рабочы рух.
4. Рост апазыцыі да панаваньня фінансавай буржуазіі.
5. Луі-Бланаўшчына і Пруданізм, як ідэалёгія пралетарыяту.

Літаратура:

Бачараў, Іонісіані і інш. Падручнік Гісторыі клясавай барацьбы. Стар. 128—135.

У каго няма Бачарава, то можна замяніць Моносавым, выд. 5-е, стар. 94—102, ад пачатку артыкулу да слоў—„Кризис 1847-48 года“.

Паміма з адной паказаных неабходна прачытаць у Хрыстаматыі Фрыдлянда і Слуцкага, выд. 3-е, стар. 292—294, дак. № 6 Б, Луі-Блан, стар. 392—393, дак. № 33 А Луі-Бланаўшчына.

## II. Лютаўская рэвалюцыя.

1. Непасрэдныя прычыны рэвалюцыі.
2. Перамога рэвалюцыі і ўтварэньне Часовага ўраду.
3. Барацьба рабочых па пытаньням рэспублікі, сьцягу і інш.
4. Сацыяльна-эканамічныя мерапрыемствы Часовага ўраду і Ўстаноўчага Збору.

Літаратура:

1. Бачараў, Іонісіані і інш. стар. 135—144 ад пачатку артыкулу да слоў—„Июньский разгром“ або Монасаў старонка 102—108 ад слоў — „Кризис 1847-48 г.“ да слоў—„Июньские дни“.

## III. Чэрвеньскія дні 1848 году.

1. Чэрвеньскае паўстаньне.
2. Сялянства ў чэрвеньскія дні.
3. Перамога над пралетарыятам і прычыны.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіані і інш. стар. 144—145 ад слоў—„Июньский разгром“ да слоў—„Создание буржуазной республики“, калі ў каго няма гэтага падручніка, то Монасаў стар. 108—110 ад слоў—„Июньские дни“ да слоў—„Революция после разгрома рабочих“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 3-е, стар. 316—317, дакум. №№ 26, 27 і 28, стар. 393—394, дакум. № 33 Б „Из какого класса приходят Кавеньяки“.

## IV. Ад парлямэнцкай рэспублікі да імпэрыі Луі Бонапарта.

1. Узмацненьне рэакцыі пасьля чэрвеньскіх дзён.
2. Канстытуцыя і заканадаўчае сабраньне.
3. Паражэньне дробнае буржуазіі.
4. Пераварот 2-га сьнежня 1851 году.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіані і інш. стар. 151—153 ад слоў—„Маркс о рэволюции 1848 г.“ да канца стар. 148, ці Монасаў, стар. 110—113 ад слоў—„Реакция после разгрома рабочих“ да слоў—„Оценка революции 1848 г.“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 3-е, стар. 327—329, дакум. № 37 А, Б, В; стар. 394—395, дакум. № 33 В.

## V. Характар і ўрокі рэвалюцыі 1848 году.

1. Гістарычнае значэньне рэвалюцыі.
2. Урокі рэвалюцыі.

Літаратура:

Бачараў, Іонісіані і інш. стар. 151—153 ад слоў—„Маркс о революции 1848 г.“ да канца артыкулу, ці Монасаў, стар. 113—115 ад слоў—„Оценка революции 1848 г.“ да канца артыкулу.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 3-е, стар.398—399, дакум. № 35.

Кантрольныя пытаньні:

1. Якою была роля парыскай масы і якія былі прычыны нерашучасьці парлямэнцкіх апазыцыянэраў?
2. Якую ролю і чаму адыграла сялянства ў рэвалюцыі 1848 году?
3. Якія сацыяльныя карэньні бонапартызму?
4. Які быў уплыў рэвалюцыі 1848 г. на пасьледуючае разьвіцьцё капіталізму ў Францыі?

5. Які ўплыў зрабіла рэвалюцыя 1848 году на далейшы ход рэвалюцыйнага руху пралетарыяту?

6. Як адбіліся на ходзе рэвалюцыі дробна-буржуазныя сацыялістычныя вучэньні?

Для прапрацоўкі трэба 14 гадз.

ЗАДАНЬНЕ 6-е.

**Тэма: Рэвалюцыя 1848 году ў Нямеччыне.**

Мэта заданьня.

**I. Сацыяльна-эканамічнае становішча Нямеччыны напярэдадні 1848 году.**

1. Становішча народнае гаспадаркі.
2. Дзяржаўны лад (палітычная раздробленасьць краіны).
3. Саслоўна-клясавыя ўзаемаадносіны.

Літаратура:

Моносов. История революционных движений. Выд. 5-е, стар. 115—121 ад пачатку артыкулу да—„Февральская революция в Германии“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 3-е, стар. 353, дак. № 3.

**II. Сакавіковая рэвалюцыя 1848 г.**

1. Непасрэдныя прычыны рэвалюцыі.
2. Сакавіковы дні ў Бэрліне і Вене.
3. Роля ў ёй пралетарыяту, сялянства і адносіны да іх буржуазіі.
4. Нацыянальнае сабраньне ва Франкфурце і яго дзейнасьць.
5. Адыход буржуазіі ад рэвалюцыі.
6. Захоп Вены.
7. Разгон Прускага Сабраньня і Франкфурцкага парлямэнту.
8. Прыдушэньне Вэнгерскай рэвалюцыі.

Літаратура:

Моносов—тое-ж выд., стар. 120—128 ад слоў—„Февральская революция в Германии“ да—„Рабочие братства и Ст. Борн“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Тое-ж выд., стар. 352—354, дак. № 2; стар. 377—378, дакум. № 24; стар. 378—379, дакум. № 30.

### III. Рабочы рух 1848—1852 г.г.

1. Стэфан Борн і ўсеагульная роўнасьць.
2. Марло і яго погляды.
3. Саюз камуністых і Кельнскі працэс камуністых.

Літаратура:

Моносов. Тое-ж выд. Стар. 128—132 ад слоў—„Рабочие братства и Стефан Борн" да слоў—„Раскол в Союзе Коммунистов".

### IV. Прычыны паражэньня рэвалюцыі 1848 году і яе ўрокі.

1. Эканамічныя прычыны паражэньня.
2. Значэньне рэвалюцыі 1848:
а) для разьвіцьця буржуазнага ладу ў Нямеччыне.
б) для самавызначэньня рабочага руху ў Нямеччыне.

Літаратура:

Моносов. Тое-ж выд. Стар. 132—135 ад слоў—„Распад в Союзе Коммунистов"—да канца артыкулу.

Фрыдлянд і Слуцкі. Тое-ж выд. Стар. 386—392, дак. № 32.

Кантрольныя пытаньні:

1. Якія былі рухаючыя сілы рэвалюцыі 1848 году ў Нямеччыне?
2. Чаму буржуазія ня была ў 1848 годзе рэвалюцыйнай клясай?
3. Чаму нямецкі пралетарыят ня мог стаць гегемонам рэвалюцыі 1848 году.
4. Чаму нацыянальныя супярэчнасьці палегчылі перамогу контр-рэвалюцыі ў Аўстрыі і Вэнгрыі, між тым, як Кастрычнікавая рэвалюцыя здолела справіцца з нацыянальнымі супярэчнасьцямі?
5. Значэньне рэвалюцыі 1848 году для эканамічнага разьвіцьця Нямеччыны і тым самым для рабочага руху?

Для прапрацоўкі трэба 12 гадз.

## ЗАДАНЬНЕ 7-е.

### Тэма. І-шы Інтэрнацыянал.

Мэта заданьня—высьвятліць:

1. Асноўныя рысы эканамічнага разьвіцьця Заходняй Эўропы, клясавыя групоўкі і, у прыватнасьці, рост кансалідацыі буржуазіі па асобных краінах, што прывяло да абвастрэньня барацьбы кляс.

2. Асноўныя факты рабочага руху Заходняй Эўропы і няўхільнасьць на базе росту капіталізму і клясавай барацьбы, узьнікненьне І-га Інтэрнацыяналу.

3. Агульны характар чыннасьці І-га Інтэрнацыяналу.

4. Барацьба плыняй у І-м Інтэрнацыянале па праграмна-тактычных пытаньнях і сацыяльная аснова данай барацьбы.

5. Прычыны раскіданьня І-га Інтэрнацыяналу і яго гістарычнае значэньне.

Плян заданьня:

### I. Прадпасылкі першага Інтэрнацыяналу.

1. Рост і ўзмацненьне капіталізму ў галоўнейшых краінах Эўропы ў 50—70' г. г.

2. Ажыўленьне рабочага руху ў Англіі, Францыі і Нямеччыне і рост сувязяй між рабочымі гэтых краін.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіані. Падручнік па Гісторыі клясавай барацьбы, стар. 237—240 ад слоў—„І-ый Интернационал“ да—„Манифест и устав Интернационала“.

Бачарава і Іонісіані можна замяніць Моносавым. История революционного движения на Западе. Выд. 1927 г. (у папярэдніх выданьнях гэтае тэмы няма), стар. 135—140 ад пачатку артыкулу да „Войны в Америке и польское восстание“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 1926 г.; разьдз. VII, дакум. №№ 2 і 3, стар. 421—431; дакум. № 9 стар. 436—437; або выд. IV 1927 г., стар. 421—431; дак. № 3 стар. 437—441 і 445—452; дакум. № 9 стар. 402.

### II. Арганізацыя І-га Інтэрнацыяналу.

1. Заснаваньне І-га Інтэрнацыяналу.
2. Устаноўчы маніфэст і статут І-га Інтэрнацыяналу.
3. Арганізацыйная структура і задачы І-га Інтэрнацыяналу.

Літаратура:

Бачараў і Іонісіані і інш. стар. 240—242 ад слоў—„Манифест и Устав І-го Интернационала“ да—„Марксизм“.

Або Моносаў, выд. 1927 г. стар. 141—146 ад слоў—„Война в Америке и польское восстание“—да „Конференция в Лондоне и І-ый Конгресс (в Женеве)“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя, выд. 1926 г. дак. № 12, стар. 441—443; або па выд. 4-му, разьдз. VIII дакум. № 13, стар. 473—475.

## III. Дзейнасьць Першага Інтэрнацыяналу і ідэёвая барацьба ўнутры яго.

1. Барацьба марксызму з пруданізмам.
2. Перамога марксызму, рост і ўзмацненьне Інтэрнацыяналу.
3. Барацьба марксызму з пруданізмам.
4. Першы Інтэрнацыянал і Парыская Камуна.
5. Выключэньне Бакуніна і яго прыхільнікаў з Інтэрнацыяналу.

Літаратура:

Бачараў, Іонісіані і інш. стар. 242—254 ад слоў—„Марксизм“ да—„Конец І-го Интернационала“.

Або Монасаў, выд. 1927 г. стар. 146—163 ад слоў—„Конференция в Лондоне и первый конгресс“ да—„Конгресс в Гааге“.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя. Выд. 1926 г., дакум. № 14 стар. 444; дакум. № 15 стар. 445—446 або выд. 4-е, 1927 г. дакум. №№ 15 і 16 на стар. 477—478; дакум. № 22 стар. 485—486; дакум. № 24 стар. 487—488.

## IV. Раскіданьне і гістарычнае значэньне Першага Інтэрнацыяналу.

1. Узмацненьне разыходзін унутры Інтэрнацыяналу пасьля Гаагскага Конгрэсу.
2. Анархічны (Бакунінскі) Інтэрнацыянал.
3. Прычыны раскіданьня І-га Інтэрнацыяналу.
4. Гістарычнае значэньне І-га Інтэрнацыяналу і роля Марксу ў ім.

Літаратура:

Бачараў, Іонісіані і інш. стар. 254—256 ад слоў—„Конец І-го Интернационала“ да—„Парижская Коммуна“.

Або Монасаў, выд. 1927 г. стар. 163—166 ад слоў—„Конгресс в Гааге“ да канца артыкулу.

Фрыдлянд і Слуцкі. Хрыстаматыя. Выд. 1926 г. дак. № 13 стар. 443—444; дакум. № 24 стар. 455; дакум. № 28 старонка 458—459 ці выд. 4-е 1927 г. дакум. № 14 стар. 475—477; дакум. № 23 стар. 486—487; дакум. № 27 стар. 490—491.

Кантрольныя пытаньні:

1. Якія эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя ўмовы паслужылі непасрэднай прычынай стварэньня Інтэрнацыяналу?
2. У чым сутнасьць прынцыпаў, выкладзеных у ўстаноўчым адрасе І-га Інтэрнацыяналу?

3. У чым сутнасьць статуту і арганізацыйнага пабудаваньня І-га Інтэрнацыяналу?

4. Які пункт погляду марксызму і бакунізму ў адносінах да прынцыпаў арганізацыі і палітычнай барацьбы і дыктатуры?

5. Якое гістарычнае значэньне І-га Інтэрнацыяналу?

---

# ПРАГРАМЫ ПА ПРАПРАЦОЎЦЫ XVI ПАРТКОНФЭРЭНЦЫІ І XII ЗЬЕЗДУ КП(б)Б.

## Пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі.

### Агульныя заўвагі да распрацоўкі тэмы.

Тэма павінна даваць ня толькі ўсебаковае знаньне і разуменьне пяцёхгадовага гаспадарчага пляну, але і павінна зрабіцца арудзьдзем мабілізацыі мас вакол агульных ідэй і канкрэтных задач гэтага пляна, выклікаючы цьвярозы дзелавы энтузіазм па непасрэднаму выкананьню яго. Дзеля гэтага трэба імкнуцца зрабіць тэму блізкай масам, як па асноўнай і агульным ідэям яго, так і па канкрэтным яго задачам, выходзячы з становішча сёнешняга дню. Асноўная ідэя пляна—вялікае наступленьне пролетарыята на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі ў мэтах выкараненьня гэтых элемэнтаў праз індустрыялізацыю, праз соцыялістычнае перабудаваньне вёскі—гэта ідэя павінна прасякаць усе часткі тэмы. Таксама ўсе часткі тэмы ў адпаведных мясцох павінны быць прасякнуты момантамі адпора і разаблачэньня правага ўхілу. Карыстаючыся агульным і мясцовым матар‘ялам, трэба прыурочыць распрацоўку тэмы да 8—12 гадзін. Абавязкова пяцігодку Саюзу зьвязваць з пяцігодкай БССР, маючы на ўвазе набліжэньне выкананьня канкрэтных задач пяцёхгодкі да слухачоў. Усе прыводзімыя лічбы трэба асьвятляць у выніках іх для канкрэтнага штодзённага жыцьця, быту і працы.

Мэты тэмы:

Высьвятліць:

а) Абставіны, зрабіўшыя неабходным стварэньне пяцёхгадовага пляну, як пляну—праз індустрыялізацыю—здоленьня дыспропорцый нашай гаспадаркі, адсталасьці яе наогул і рашучага ўзмацненьня соцыялістычнага сэктару ў горадзе і на вёсцы.

б) Нямінучасьць і рэальную ажыцьцявімасьць тэмпа пяцёхгодкі, зусім забясьпечваючага ажыцьцяўленьне задачы дагнаць і перагнаць найбольш перадавыя капіталістычныя краіны; значна ўзмацняючага абароназдольнасьць краіны і позыцыі комунізма ва ўсім сьвеце.

в) Што пяцігадовы плян значна ўзмацняе кіраўнічую ролю рабочае клясы адносна асноўных мас сялянства праз разьвіцьцё новых, вытворчых форм змычкі, пры адначасовым узмацненьні позыцыі дыктатуры пролетарыяту ўнутры і ўне краіны.

г) Што пяцігадовы плян забясьпечвае значны ўздым матар'яльнага і культурнага ўзроўня нацыянальных рэспублік і паасобных раёнаў, раўно як працоўных гораду і вёскі наогул.

д) Умовы пасьпяховага выкананьня пяцёхгадовага пляну.

## Плян тэмы.

### I. Абставіны, якія выклікалі стварэньне пяцёхгадовага пляну і задачы будаўніцтва соцыялізму.

а) Задачы, якія пасьля вастанавіцельнага пэрыяду ставіць перад партыяй пэрыяд соцыялістычна-рэконструкцыйны (па новаму дагнаць і перагнаць найбольш перадавыя капіталістычныя краіны); цяжкасьці, якія належыць здолець на гэтым шляху (гістарычныя дыспропорцыі, раздробленасьць сялянскай гаспадаркі, бязупынна параджаючая капіталізм, капіталістычнае акружэньне, абвастрэньне клясавай барацьбы ўнутры краіны; сучасныя цяжкасьці і прычыны іх, мэтады здоленьня цяжкасьцяй, рэкамендуемыя правымі панікёрамі, і ленінскі мэтад, абраны партыяй.

б) Пяцёхгодка, як нямінучае праяўленьне маштаба нашага будаўніцтва, нашага імкненьня захоўваць мір з капіталістычным акружэньнем; як пэўнай вышыні нашых гаспадарчых дасягненьняў; як пляна яшчэ большага вытворчага замацаваньня змычкі з асноўнымі масамі сялянства; як пляна, усебакова адпавядаючага дырэктывам XV-га зьезду.

Літаратура:

1. Итоги XVI всесоюзной конференции ВКП(б).

2. „Трудности социалистического строительства и правый уклон"—Поспелов и Шлихтер.

3. Рэзолюцыя XII зьезду КП(б)Б па дакладу аб кантрольных лічбах пяцёхгадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі.

*Заўвага:* Моманты абвастрэньня клясавай барацьбы трэба ілюстраваць ня толькі матар'ялам агульным, але і, па магчымасьці, мясцовым. Таксама мэтады, прапануемыя правымі па здоленьню цяжкасьцяй нашых трэба падцьвердзіць і ўсебеларускім матар'ялам: Лабаноўскі (гл. Зьвязда № 119 ад 29 мая—„Шлях правага ўкланістага").

## II. Проблема тэмпу ў пяцёхгодцы.

а) Колькасная і якасная адсталасьць наша ў параўнаньні з перадавымі капіталістычнымі краінамі (Амэрыка, Нямеччына); іх посьпехі ў пасьляваенны пэрыяд; 70-цігадовы тэрмін нашага ўраўненьня з П.-А. Зл. Шт. пры тэмпе нават у 10% прыроста ў год.

б) Рэальная ажыцьцявімасьць для нас значна большых тэмпаў, чым для краін капіталістычных з-за пераваг, якія мы маем ад нацыяналізацыі прамысловасьці і зямель, з-за найвялікшай сканцэнтраванасьці, плянавасьці вядзеньня гаспадаркі, з-за знаходжаньня ўлады ў рабочае клясы, з-за адсутнасьці ў нас непродукцыйных выдаткаў і г. д.; з-за магчымасьці ўвядзеньня ў нас вышэйшай тэхнікі адразу; з-за таго, што ўжо на працягу пяцёхгодкі вялікі лік новых прадпрыемств пачне ў нас даваць продукцыю сваю і паскорыць тэмп соцыялістычнага накапленьня.

в) Падцьвярджаючы перавагі нашыя, вопыт мінулых гадоў у 1926-27 г. праэктаваўся рост у 17%, а фактычна дасягнута 19%; у 1927-28 г. праэктавалася 12%, дасягнута 23%; у 1928-29—9%—звыш 20%.

г) Адрозьніваньне магчымых у будучым тэмпаў для капіталістычных краін ад тэмпаў зафіксаваных нашай пяцёхгодкай, адрозьніваньне якое робіць задачы „дагнаць і перагнаць“ зусім ажыцьцявімымі ў тэрмін 10—15 год.

д) БССР, удзельная вага асноўных паказчыкаў становішча яе ў СССР; параўнаньне тэмпаў пяцёхгодкі БССР з тэмпам пяцёхгодкі СССР, па асноўным момантам; рэальнасьць і ажыцьцявімасьць тэмпаў БССР з-за таго, што яна пачынае з нізкага ўзроўня і будзе карыстацца дапамогай Саюзу. (Глядзі: 1) № 107 газэты „Савецкая Беларусь“ — даклад тав. Каркліна, частка VII-я, „Проблема фінансаў“, 2) табліцу, зьмешчаную ў дакладзе т. Галадзеда ў № 106 газэты „Савецкая Беларусь“ ад 14 мая г. г., старонка 2; суадносіны ўкладаньняў у прамысловасьць і сельскую гаспадарку СССР і БССР: СССР—16 і 23 млрд. руб.; БССР—306.900 тысяч і 386.200 тыс. руб.; суадносіны росту продукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі СССР і БССР: СССР—163,3% і 54%; БССР 322% і 61%. Суадносіны роста выпрацоўкі электроэнэргіі: СССР — 340%, БССР — 570,3%. Суадносіны роста рабочых у цэнзавой прамысловасьці: СССР — 32% і БССР—165,9% і г. д.).

е) Права-опортуністыя і іх адносіны да зафіксаваных у нашай пяцёхгодцы тэмпаў.

Літаратура:

1. Прамовы т. т. Рыкава, Куйбышава, і Кржыжаноўскага на XVI партконфэрэнцыі.
2. Пасьпелаў і Шліхтэр.

3. Эвентов: „Пятилетний план народного хозяйства в свете развития мирового хозяйства“—„Большевик“ № 8.

4. Речь Сталина на ноябрьском пленуме ЦК в 1928 г.

5. Итоги XVI всесоюзной конференции ВКП(б) издание „Прибой“.

6. Глядзі № 106 і 107 газэты „Савецкая Беларусь“ даклады Галадзеда і Каркліна на V зьезьдзе саветаў.

7. Рэзолюцыі XII зьезду КП(б)Б па дакладу Галадзеда.

## III. Рост прамысловасьці ў разрэзе пяцёхгодкі.

а) Капітальныя ўкладаньні ва ўсю народную гаспадарку і ўкладаньні ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку СССР і БССР.

б) Агульны рост продукцыі народнай гаспадаркі і рост продукцыі прамысловасьці Саюзу і Беларусі.

в) Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць і ўклады ў прамысловасьць цяжкую (вытвараючую сродкі вытворчасьці) і лёгкую; па БССР—прамысловасьці цэнзавай і мясцовай. Рост 'продукцыі ўсёй прамысловасьці, прамысловасьці цяжкай і лёгкай і сельскай гаспадаркі СССР; агульны рост продукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі па БССР.

г) Проблема энэргетыкі, мэтала і хэміі і дасягненьні, якія пяцёхгодка дае ў гэтых галінах (42 электростанцыі, 22 млрд. кілёўат-гадзін, электракамбінаты Днепроўскі, Бобрыкаўскі і г. д.; чугуна—10 млн. тон, заводы Магнітагорскі, Керчэнскі, Тольбескі, Днепроўскі, Ліпецкі, Хаперскі, Крывароажскі і г. д.; хэмічныя камбінаты вакол Днепрастроя, у цэнтральнапрамысловай вобласьці, на Урале, у Паўночна-Заходняй вобласьці на торфе, лесе і вадзе; адпаведныя матар'ялы абавязкова даць і па БССР (Асінбуд, Гомель): магутнасьць усіх электростанцый узьнімаецца з 14.004 клвт. да 107 тыс. клвт.; магутнасьць гарадзкіх станцый расьце з 3,3 тыс. клвт. да 20,3 тыс. клвт.; лік фабрычна-заводзкіх станцый расьце з 97 да 122 і сельскіх з 18 да 86; лік электрафікаваных гаспадарак вёскі ўзьнімаецца да 60.000 і г. д.).

д) Проблема апалу ў пяцёхгодцы і запраэктаваныя ёю дасягненьні ў гэтай галіне па Саюзу і БССР (75 млн. тон замест 36 млн. тон, у 1927-28 г. каменага вугалю; дзесяткі шахт з гадавой продукцыяй у $1^1/_2$—2 млн. тон; поўнае пераабсталяваньне Донбаса, Кузбаса і г. д.; дабыча нафты павялічваецца ў 2 разы, апрацоўка яе ў 3 разы; дабыча торфу павялічваецца ў 5 раз; па вугалю становімся з 5 на 4 месца. Па БССР: выпрацоўка торфу ўзьнімаецца да 2 млн. тон у канцы пяцёхгодкі; спажываньне яго элекростанцыямі ўзьнімаецца з 118,5 тыс. тон да 955 тыс. тон; у сялянскіх гаспадарках з 49 тыс. тон да 750 тыс. тон і г. д.).

е) Машына - будаўніцтва ў пяцёхгодцы і што яно нам дасьць (павялічэньне продукцыі ў 3½ разы, трактарныя заводы, Сьвярдлоўскі завод; автобудаўніцтва, завод у Н-Ноўгарадзе, Яраслаўле і г. д., па БССР—значна пашырацца існуючыя заводы і будуюцца новыя; згатаўленьне плугоў узьнімаецца з 80 тыс. да 225 тыс.; сячкарак з 6.000 да 55.000; веялак з 18 тыс. да 80 тыс. і г. д.).

ж) Разьвіцьцё па пяцёхгодцы лёгкай індустрыі і што апошняя нам дасьць (павялічэньне продукцыі ў 2½ разы, амаль поўнае ізжыцьцё таварнага голаду; тэкстыль, кожа).

з) Месца транспарту ў пяцёхгодцы і што ён нам дасьць (Сібір - Туркестан, Сібір - Урал, Донбас - Масква - Ленінград, Волга-Дон і г. д.). Па БССР—поўнае пераабсталяваньне Бярэзінскай сыстэмы; грузазварот па водным шляхам расьце на 113,1%, а па чыгуначным на 54,9%; 150 мільёнаў укладаецца ў упарадкаваньне асноўных сельскіх дарог і г. д.).

і) Будаўнічая прамысловасьць у пяцёхгодцы і што яна нам дае па Саюзу і Беларусі (цэменту з 12 млн. бочак да 40 млн. бочак; цэглы з 1,8 млрд. штук да 7, 7 млрд. штук, асбесту 150 тыс. тон; пілаванага лесу 5 млн. кубамэтраў і г. д. Па БССР—выраб вапны з 6 тысяч тон да 45 тысяч тон; цэменту з 0 да 500 тыс. бочак; цэглы з 80 млн. да 314 млн. штук; шкла з 4 тыс. да 15 тыс. тон і г. д.).

к) Рост рабочых і работніц у вытворчасьці, павялічэньне ўдзельнай вагі работніц у вытворчасьці да канца пяцёхгодкі, зьніжэньне сабекошту, уздым прадукцыйнасьці працы па пяцёхгодцы (параўнаньне па СССР з БССР 32% і 165,9%; 35% і 32%; 110% і 100%, тлумачэньне адрозьніваньняў).

Літаратура:

1. Прамовы т.т. Рыкава, Кржыжаноўскага, і Куйбышава на XVI партконфэрэнцыі.

2. Итоги XVI партконференции, изд. „Прибой“.

Уздым прадукцыйнасьці працы на 110%, зьніжэньне сабекошту на 35%.

3. Даклады т. т. Галадзеда, Каркліна і Карпа на IX зьезьдзе саветаў.

4. Рэзалюцыя XII зьезду КП(б)Б па дакладу т. Галадзеда.

## IV. Пяцігадовы плян і сельская гаспадарка.

а) Агромністы рост прамысловасьці і ўзмоцненая індустрыялізацыя забясьпечваюць уздым ураджайнасьці бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, узмацненьня соцыялістычнага сэктара ў сельскай гаспадарцы, значную тэхнічную рэконструкцыю яе за кошт павялічэньня сельска-гаспадарчых машын і штучнага ўгнаеньня.

б) Рост машыназабесьпячэньня і машынаснабжэньня ў пяцёхгодцы па Саюзу і БССР (паміма пашырэньня існуючых

заводаў сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва і сканчэньня будуючыхся—Растоўскага, Сталінградзкага і іншых заводаў, будзе пабудован шэраг новых заводаў. Паміж іншым на Урале будзе пабудован другі трактарны завод, гэтакай-жа магутнасьці, як і Сталінградзкі. Прадукцыя ўсіх трактарных заводаў дасягне 60.000 шт. у год у 1931-32 г. У Растове будзе пабудован завод-камбінат, на Украіне—завод прычэпных арудзьдзяў і будуць пабудаваны заводы трыераў, складаных уборачных машын і г. д. Лік трактараў к канцу пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы дасягне 150.000. Усё сельска-гаспадарчае машынабудаўніцтва ўзьнімецца з 153 млн. руб. да 610 млн. руб. у год. Па БССР: пабудова ў Гомлі завода сельск. гасп. арудзьдзяў; рост трактараў з 144 да 2.300; рост выраба плугоў, сячкарак і веялак вышэй адзначан.).

в) Уклады на працягу пяцігодзьдзя ў прамысловасьць па апрацоўцы продуктаў сельскай гаспадаркі па Саюзу і БССР ($1\frac{1}{2}$ млрд. руб. па ўсяму Саюзу; па БССР будзе пабудована 700 прадпрыемств па апрацоўцы с-г. продуктаў).

г) Рост у пяцёхгодцы забясьпечанасьці сельскай гаспадаркі штучнымі ўгнаеньнямі па Саюзу і БССР (продукцыя хэмічнай прамысловасьці ўзьнімецца з 175 тыс. тон да 9 млн. тон; 30% усёй пасяўной плошчы будзе забясьпечана штучным угнаеньнем; па БССР—забясьпечанасьць штучным угнаеньнем узьнімаецца з 50 тыс. тон да 900 тыс. тон, будуецца шэраг заводаў штучнага ўгнаеньня).

д) Рост за пяцёхгодзьдзе машынатрактарных станцый і энэргетычных цэнтраў сельскай гаспадаркі па Саюзу і БССР.

е) Дасягненьні на працягу 5-годзьдзя ў галіне контрактацыі спажывецкай і сельска-гаспадарчай коопэрацыі па Саюзу і ў БССР (контрактацыя ахоплівае 85% зернавых культур і 100% культур тэхнічных; спажывецкая коопэрацыя ахоплівае замест 13,9 млн.—31,8 млн. душ; сельска-гаспадарчая коопэрацыя—замест цяперашніх 9,5 млн. душ ахоплівае 23,58 млн.; па БССР мэліорацыя ахоплівае 540 тыс. га; с.-г. і спажывецкай коопэрацыяй ахопліваецца 100% беднаты і 85—90% усіх сялянскіх двароў і г. д.).

ж) Дасягненьні калгаснага і саўгаснага будаўніцтва на працягу пяцёхгодзьдзя ў Саюзе і ў БССР (калгасамі будзе ахоплена 20 млн. душ, а саўгасамі 1 млн.; пасеўная плошча аграмаджанага сэктару дасягне 26 млн. гэктараў і будзе складаць 17,5% усей пасеўнай плошчы СССР. Індывідуальны сэктар свой рост спыняе. Саўгасы к канцу пяцігодзьдзя дадуць 34 млн. цэнтнэраў, а калгасы 50 млн. цэнтнэраў таварнага хлеба—каля $\frac{1}{2}$ млрд. пудоў, што складзе 43% усей таварнай масы краіны і дазволіць ужо з 3-га году пяцігодкі пачаць экспорт яго; па БССР—лік калгасаў узьнімаецца з 994 у 1928 г. да 4.556, ахопліваючы 79.400 двароў; плошча саўгасаў і калгасаў складае 12% усей пасеўнай плошчы і г. д.).

з) Асноўныя паказчыкі па сельскай гаспадарцы к канцу пяцігодзьдзя: пасеўная плошча ўзьнімецца на 22%, ураджайнасьць на 35% па Саюзу, а па БССР—плошча на 15 і ўраджайнасьць на 45%. Сярэдні душавы даход на 67%.

Літаратура:

1. Даклады Рыкава, Куйбышава і Калініна на XVI партконфэрэнцыі.
2. Ітогі XVI усесаюзнай партконфэрэнцыі, выд. „Прибой".
3. Даклады Галадзеда, Каркліна і Рачыцкага на IX зьезьдзе саветаў.
4. Рэзалюцыі XII зьезду КП(б)Б па дакладу Галадзеда.

### V. Узмацненьне ў пяцігодцы социялістычных элемэнтаў за кошт капіталістычных.

а) Зразумела, што індустрыялізацыя краіны будзе сapраваджацца ня толькі ростам, як мы гэта бачылі, соцыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, але і выцясьненьнем капіталістычных элемэнтаў ва ўсёй гаспадарцы нашай. Лічбы:

Структура асноўных фондаў СССР:
(гл. „Итоги 16 партконференции")

| | у 1927-28 г. | у 1932-33 г. |
|---|---|---|
| Дзяржаўны і коопэрацыйны | 52,7% | 68,9% |
| Прыватны . . . . . . . . | 47,3 „ | 31,1 „ |
| **Валавая продукцыя:** | | |
| Соц. сэктар прамысловасьці | 80,0% | 92,0% |
| Соц. сэктар сельск. гаспад. | 2,0 „ | 16,0 „ |
| Па розьнічнаму абароту . . | 75,0 „ | 91,0 „ |

Па БССР: Асноўныя фонды аграмаджанага сэктара ўзьнімаюцца з 11,1% да 29,6%; валавая продукцыя яго расьце з 25,9% да 52,6% ва ўсёй валавой продукцыі. У канцы пяцігодзьдзя ў прыватным сэктары па оптаваму гандлю—0, па розьніцы застаецца 12—13%.

Літаратура:

1. Итоги 16 всесоюзной партконференции, изд. „Прибой".
2. Рэзалюцыя XII зьезду КП(б)Б па дакладу Галадзеда.
3. Даклад Каркліна на IX зьезьдзе саветаў, „Сав. Бел." № 108, стар. 2.

### VI. Пяцігадовы плян у раённым разрэзе.

а) Індустрыялізацыя краіны будзе саправаджацца ростам новых індустрыяльных цэнтраў і ўзмацненьнем нацыянальных рэспублік пры значным перадвіжэньні прамысловасьці

на ўсход (калі асноўныя фонды цэнтральна-прамысловай вобласьці зараз займаюць 30%, то к канцу пяцігодзьдзя яны зоймуць 21,6% асноўных фондаў Саюзу; Урал займаў 4,2%, будзе займаць 9,5%; Ленінград займаў 10%, будзе займаць 7,6%; Украіна займала 26,7%—будзе займаць 26%. Значна ўзьнімецца індустрыяльнае значэньне Урала і Сібіры; адносная вага продукцыі БССР у гаспадарцы Саюзу ўзьнімаецца па цэнзавай прамысловасьці з 1,3% да 2,1%, па электроэнэргіі з 0,7 да 1,1%, па ліку рабочых з 1,6 да 3,2%.

Літаратура:

1. Даклады на XVI партконфэрэнцыі.
2. Даклад Галадзеда на IX зьезьдзе саветаў, „Сав. Бел.“ № 106, стар. 2.

## VII. Быт і культура ў пяцігодцы.

а) На падставе росту прамысловасьці і сельскай гаспадаркі і ўзмацненьня социялістычнага сэктару наогул, значна на працягу пяцігодзьдзя ўзьнімаецца матар'яльны і культурны ўзровень працоўных (ва ўсіх прадпрыемствах уводзіцца 7-гадзінны рабочы дзень, намінальная зарплата расьце на 47%, рэальная на 71%). К канцу пяцігодзьдзя мы па ўзроўню зарплаты абганяем рабочых Бэрліна і Парыжу. Жыльлёвая плошча гарадзкога пролетарыяту пашыраецца на 30%, а пражываючых у дамох прадпрыемств на 40%. На жыльлёвае будаўніцтва затрачваецца 5 млрд. руб. Бытавое абслугоўваньне работніц і сялянак у канцы пяцігодкі (лічбы). Беспрацоўе зьніжаецца на 500 тыс. чал. пры росьце занятых з 11.350 тыс. да 15.724 тыс. Соцстрах ахоплівае да 200 тыс. прэстарэлых рабочых. 18 млн. дарослых і падросткаў ліквідуюць сваю няпісьменнасьць. Контынгент навучаючыхся ў школах дасягае 22 млн. чалавек, перавышаючы ў 3 разы ахоп даваенны. 5 млн. актывістых сялян будзе ахоплена аграшколамі; перакваліфікацыі падвергнецца $1^1/_2$ млн. рабочых, лік інжынэраў узьнімецца з 20 тыс. да 54 тыс., лік тэхнікаў з 32 тыс. да 66 тыс., лік аграномаў з 11 тыс. да 34 тыс.

Літаратура:

1. Итоги XVI партконференции, изд. „Прибой“.
2. Па БССР гл. даклады Каркліна і Баліцкага на IX зьезьдзе саветаў, „Сав. Бел.“, № 106 ст. 3 і № 107 ст. 2 і 3.

## VIII. Пяцёхгадовы плян і клясавая барацьба.

а) Посьпехі ў социялістычным будаўніцтве ня могуць быць дасягнуты бяз самай жорсткай барацьбы, бо без барацьбы выціскаемая кляса ніколі не здавалася. Асабліва гэта адносіцца да вёскі, дзе социялістычныя пазыцыі нашы най-

больш слабы і дзе на працягу бліжэйшага пяцігодзьдзя мы прарабляем самую рашучую тэхнічную рэконструкцыю з найвялікшым выкарчаваньнем карэньняў капіталізму (гл. Ленін т. XVI, стар. 227). Лепш гэта таксама пацьвярджаецца зарэгістраванымі за 11 мес. 1928 г. 1027 антысавецкімі ўчынкамі, з якіх да 140 забойств; трэба таксама скарыстаць матар'ял, маючыйся на мясцох.

б) Абвастрэньне клясавай барацьбы, як вынік соцыялістычнага наступленьня.

в) Патрэбна самая жорсткая барацьба як з тымі, хто пераацэньвае рост капіталістычных элемэнтаў, так асабліва на даным этапе барацьбы—з тымі, хто недаацэньвае нямінучасьць абвастрэньня клясавай барацьбы, тым самым разбройваючы рабочую клясу ў барацьбе з клясавымі ворагамі.

Літаратура:

1. Поспелов и Шлихтер.
2. Итоги XVI партконференц. изд., „Прибой“.

## IX. Умовы пасьпяховага ажыцьцяўленьня пяцігодкі.

а) Пяцігадовы плян, наогул працякаючы ў напруджаных абставінах, паміж іншым запатрабуе зьніжэньне сабекошту на 35% і павышэньне прадукцыйнасьці працы на 110%, а па БССР на 100%. Кожны процант невыкананьня зьніжэньня сабекошту па Саюзу адзначае паменшаньне будаўнічага пляну на 400 млн. руб., а па БССР каля 4 млн. руб. Вось чаму асабліва абвастраецца праблема роста прадукцыйнасьці працы, узмацненьня працдысцыпліны, барацьба з прагуламі—за якасныя паказчыкі працы.

б) Задачы гэтыя змогуць пасьпяхова ажыцьцявіцца праз сыстэматычнае выхаваньне шырачайшых мас рабочых, асабліва зноў прыбыўшых з вёскі—праз разгортваньне актыўнасьці гэтых мас, неразрыўна зьвязанай з разгортваньнем самакрытыкі і соцыялістычнага спаборніцтва, як мэтада арганізацыі працы ў сацыялістычных прадпрыемствах.

в) Другой умовай, забясьпечваючай пасьпяховае выкананьне пяцігодкі, зьяўляецца адзінства і крэпасьць партыі нашай і неабмяжаванае падтрымліваньне яе з боку працоўных.

Літаратура:

1. Ленін—„Великий почин“ (о соревновании).
2. Адозва аб спаборніцтве XVI партконфэрэнцыі.

## X. Пяцігадовы плян і барацьба з правым ухілам.

а) Дзеля таго, каб забясьпечыць партыйнае адзінства, неабходна рашуча бароцца з правым ухілам і прымірэнчымі адносінамі да яго, як з галоўнай небясьпекай на даным этапе нашым.

б) Толькі пры прэадаленьні правага ўхілу, які прапануе замядленьне тэмпу індустрыялізацыі, які спужаўся часовых цяжкасьцяй і на гэтай падставе жадае ўстрымаць тэмп соц. будаўніцтва нашага, можна ажыцьцявіць пяцігадовы плян.

Літаратура:

1. Милютин—Правый уклон.
2. Поспелов и Шлихтер.
3. Игоги 16 партконференции, изд. „Прибой".

**Тэма: Палітыка партыі на вёсцы і пяцёхгадовы плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі.**

**Мэты тэмы.**

1. Высьвятліць лінію партыі на індустрыялізацыю і калектывізацыю сельскае гаспадаркі, як ленінскую лінію будаўніцтва сацыялізму і ўзьняцьце сельскае гаспадаркі наогул.

2. Высьвятліць, як канкрэтна пяцёхгадовы плян СССР і БССР праз індустрыялізацыю, галоўным чынам новую вытворчую форму змычкі ліквідуе надмернае адставаньне сельскай гаспадаркі, перарабляючы значную частку яе ў гаспадарку калектыўную і адначасова дапамагаючы ўзьняцьцю індывідуальнай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі.

3. Высьвятліць канкрэтныя практычныя задачы і ўмовы пасьпяховага выхаваньня гэтых задач.

**Плян:**

I. Праблема змычкі ў пэрыяд рэканструкцыі.

а) Этапы змычкі ў мінулым: Ленін аб вытворчых пэрспэктывах і сацыялістычна-рэарганізуючых задачах змычкі наогул (гл. том XVIII, ч. I стар. 370; т. XVIII ч. II стар. 138; Ленінскі зборнік IV стар. 373; т. XVI стар. 152 і 352).

Дырэктывы XV зьезду ЎсеКП(б), XI і XII зьездаў КП(б)Б аб узмоцненым наступленьні на кулацтва, аб узмоцненым разгортваньні вытворчых форм змычкі на базе індустрыялізацыі; посьпехі на падставе дырэктыў гэтых у разьвіцьці сельскай гаспадаркі (усебакова высьвятліць колькасны і якасны рост сельскай гаспадаркі за апошнія гады па СССР і БССР; рэканструкцыйныя ўзрухі ў тэхніцы спосабаў і ў сацыяльных формах земляробства; перавагі і ўплыў, якія саўгасы і калгасы выяўляюць адносна як гаспадаркі індывідуальнай наогул, так і асабліва адносна кулацкай і г. д.); нашы цяжкасьці ў сувязі з рэканструкцыйным пэрыядам і абвастрэньнем клясавай барацьбы.

б) Налічча значнага замаруджаньня тэмпа росту сельскай гаспадаркі ў пераходны пэрыяд ад аднаўленьня да рэканструкцыі, адставаньне гэтага тэмпу ад тэмпу росту інду-

стры, як лепшы доказ абмежаваных магчымасьцяй далейшага росту індывідуальнай гаспадаркі (асабліва таварнай часткі яе), запатрабаваньняў яе ў вытворчай дапамозе, у вытворчых формах змычкі.

в) Гэтыя запатрабаваньні сельскай гаспадаркі ажыцьцявімы толькі на падставе рашучай індустрыялізацыі краіны.

Адхіленьне партыяй трацкісцкага авантурызму аб надмерным перакачваньні сродкаў з сельскай гаспадаркі ў індустрыю; фактычны ўдзел вёскі ў індустрыялізацыі (па матар'ялах, зьмешчаных у „Итогах XVI всесоюзной партконференции—гл. стар. 97 да 101 уключна); кулацкае абвінавачаньне правымі партыі ў „ваенна-фэўдальнай эксплёатацыі“ сялянства, што аб'ектыўна прыкрывае тэорыю затрыманьня тэмпу індустрыялізацыі, тэорыю ўступак і г. д.

г) Ленін аб умовах уступак, аб саюзе з сялянствам і аб перамозе ўласьніцкай душы сялянства (гл. Ленін т. XVIII ч. I стар. 237 і 250; т. XVII ч. I стар. 177—178 і Ленінскі зборнік III стар. 494); рашучы курс XVI партконфэрэнцыі на аграмаджаньне сельскай гаспадаркі, (выняткі з рэзалюцыі па дакладу Калініна); роля буйнай аграмаджанай гаспадаркі ў адносінах індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (не капіталістычнае паглыненьне і г. д., а дапамога, прыклад і г. д.); курс правых на індывідуальную гаспадарку, іх прапанова „нармалізаваць“ НЭП, увесьці пакавартальныя і пураённыя цэны, скасаваць індывідуальнае абкладаньне і нажым на кулака,—іх тэорыя „уступак“ і тэорыя ўрастаньне кулака ў сацыялізм, Ленін аб пераходным этапе не як аб эпосе клясавага міру, а як аб эпосе жорсткай клясавай барацьбы. Таксама Ленін аб урастаньні кулака ў сацыялізм (гл. т. XVI стр. 215—216). Для праблемы змычкі ў рэконструкцыйным пэрыядзе найвялікшай небясьпекай зьяўляецца правы ўхіл.

Літаратура:

1. Итоги XVI всесоюзной партконференции, изд. „Прибой“.
2. Даклад т. Калініна.
3. Рэзалюцыя па дакладу т. Калініна.

II. Канкрэтныя шляхі і мерапрыемствы па ўздыму сельскае гаспадаркі і стварэньню буйнай аграмаджанай сельскагаспадарчай вытворчасьці.

а) Партыя пры разьвязваньні гэтых задач апіраецца: 1. На шпаркае разьвіцьцё прамысловасьці і ў прыватнасьці на шпаркі рост вытворчасьці сельска-гаспадарчых машын. 2. На плянавае рэгуляваньне народнай гаспадаркі, увязваючы разьвіцьцё сельскай гаспадаркі з шпаркім ростам прамысловасьці. 3. На нацыяналізацыю зямлі, што патаняе кошт сельскагаспадарчай вытворчасьці і дае магчымасьць укладаць у вы-

творчасьць тыя сродкі, якія пры прыватнай уласнасьці на зямлю ўкладаюцца ў пакупку зямлі. 4. На сыстэматычнае абмежаваньне росту капіталізму на вёсцы. 5. На рост вытворчага каапэраваньня, даючага магчымасьць дробнай гаспадарцы шляхам аб'яднаньня вытворчых працэсаў скарыстаць тыя перавагі буйнай гаспадаркі, якія ў капіталістычнай грамадзе даступны толькі кулаком. 6. На ўсямернае скарыстаньне нацыяналізаванай крэдытовай сыстэмы і дзяржаўнага бюджэту для ўздыму сельскае гаспадаркі. 7. На актыўны ўдзел з боку рабочай клясы і працоўных мас вёскі ў галіне ўздыму сельскае гаспадаркі.

б) Цяжкасьці, якія штодзенна сустракаюцца ў будаўніцтве і разгортваньні сельскае гаспадаркі з-за слабасьці асноўных фондаў яе (абсталяваньне, інвэнтар, шляхі і г. д.) і рост асноўных фондаў сельскае гаспадаркі па пяцёхгодцы (па СССР у 5-годзьдзе з 1923-24 г. па 1927-28 г.—15 млрд.; з 1928-29 г. па 1932-33 г.—23,2 млрд. Па БССР глядзі даклады Карнкліна і Галадзеда на IX зьезьдзе саветаў; укладаньні ў будаўніцтва вясковых шляхоў, глядзі распрацоўку „пяцёхгадовы плян народнае гаспадаркі“). Сацыяльна-палітычны напрамак разьмеркаваньня ўкладаньняў поўнасьцю забясьпечвае рост аграмаджанага сэктару: 32% на саўгасы і калгасы; 25,3% на індывідуальныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі і 42,7% на дзяржаўныя і каапэрацыйныя мерапрыемствы (мэліарацыя, земляўпарадкаваньне, агра-дапамога і г. д.).

в) Нізкая прадукцыйнасьць сельска-гаспадарчай працы, вытворча-бытавая і культурная адсталасьць вёскі, пяцёхгодка, паміж іншым, па спажываньню электроэнэргіі на вёсцы дае рост 45 млн. кілёват-гадзін да 208 млн. к-г.; вынікі гэтага для вясковага быту і культуры наогул, для росту прадукцыйнасьці працы, быта і культуры вясковай жанчыны—асабліва.

г) Эканамічная рэнтабельнасьць трактараў у сельскай гаспадарцы; максымальная прадукцыйнасьць працы трактароў у нашых умовах; роля трактару, як энэргетычнага фактару індустрыялізацыі і разьвіцьця апрацоўкі сельска-гаспадарчай прадукцыі, у электрыфікацыі вёскі; у зьнішчэньні наогул культурных „ножніц“ паміж горадам і вёскай і, галоўным чынам, як сацыяльна-эканамічны фактар дробнай індывідуальнай гаспадаркі ў аграмаджаную буйную гаспадарку (мары Ільліча аб 100 тысячах; наліччa зараз у нас 46 тысяч; рост трактарабудаўніцтва і трактаразабесьпячэньня ў нас, па СССР і БССР па пяцёхгадоваму пляну. Лічбовыя даныя глядзі ў распрацоўцы „пяцёхгадовы плян народнай гаспадаркі“ і вопыт працы трактарных калён у „Итогах XVI партконференции“). З агульнай лічбы ў 180 тыс. трактараў к канцу 5-годкі 170 тысяч працуюць у саўгасах і калгасах.

Трактар і праблемы ўзьняцьця жывёлагадоўлі, інтэнсыўных тэхнічных культур і вырашэньня зернавой проблемы (глядзі лічбы пяцёхгадовага пляну народнае гаспадаркі).

д) Прыкладу росту рэнтабельнасьці сельскай гаспадаркі на практыцы ўжываньня больш удасканаленых сельска-гаспадарчых машын (замена сахі плугам, драўлянай арфы—арфай зігзаг, увядзеньне трыернага зернаачышчэньня і г. д.); рост сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва і машыназабесьпячэньня на працягу пяцёхгодзьдзя па лічбах „пяцёхгадовага пляну народнай гаспадаркі СССР і БССР", рост пракатных станцый, машынных таварыстваў за пяцёхгодзьдзе.

е) Роля індустрыяльных прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельска-гаспадарчай продукцыі адносна больш рэнтабельнага скарыстаньня яе, адносна паглынеьньня лішкавай рабочай сілы, узьняцьця таварнасьці сельскай гаспадаркі, стымуляваньня росту яе і росту вытворчых сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў; укладаньні і будаўніцтва сельска-гаспадарчай індустрыі па пяцёхгодцы (глядзі лічбы 5-годкі).

ж) Рэнтабельнасьць ужываньня штучнага ўгнаеньня (адзін рубель затрачаны на штучнае ўгнаеньне ня толькі звароч-ваецца, але для зернавых культур дае дадатковага прыбытку 92 кап., для бульбы 1 р. 53 к., для цукровых буракоў 1 р. 40 к., для бавоўны 4 р. 33 к., для тытуню 14 р. 36 к. і г. д.); рост па пяцёхгодцы вытворчасьці штучных угнаеньняў (глядзі лічбы пяцёхгадовага пляну народнае гаспадаркі), ролю якую штучнае ўгнаеньне можа адыграць і адыграе ў справе ўздыму і калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

з) Магутным фактарам узьняцьця сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыі робіцца кантрактацыя ў сувязі з абумоўленьнем абавязковых агратэхнічных мерапрыемстваў і кантрактаваньня не паасобных гаспадарак, а іх аб'яднаньня; вопыт кантрактацыі 1928 г. і выкананьне пляну асеньняй кантрактацыі 1929 г.

і) У выніку ўсіх вышэйадзначаных мерапрыемстваў і прагрэсыўнага павялічэньня непадзяляемых у калектывах фондаў, колькасна і якасна расьце аграмаджаны сэктар сельскае гаспадаркі (лічбы глядзі ў прапрацоўцы „пяцёхгадовы плян народнае гаспадаркі").

Пяцёхгадовы плян прадугледжвае для бядняцкай і серадняцкай гаспадаркі шэраг мерапрыемстваў дапамогі,—як: паскарэньне земляўпарадкаваньня, забесьпячэньне машынамі і прыладамі, крэдытам, аградапамогай, што дапаможа павялічыць ураджайнасьць гэтых гаспадарак падатковые палёгкі серадняку.

л) Забесьпячэньне выкананьня задач пяцёхгодкі ў сельскай гаспадарцы культурнымі мерапрыемствамі: агратэхнічныя

кадры, аграшколы, агульныя школы і г. д. (лічбы глядзі ў 5-гадовым пляне народнае гаспадаркі).

м) У выніку ажыцьцяўленьня сельска-гаспадарчай пяцёхгодкі мы атрымліваем ня толькі рост аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі, але і рост агульных паказчыкаў становішча яе, значную ліквідацыю адсталасьці, асабліва ліквідацыю адсталасьці ў зернавой частцы і значнае выкарыстаньне капіталістычных элемэнтаў, значны ўздым дабрабыту працоўных (лічбы таксама ў пяцёхгодцы).

Літаратура:

1) Рэзалюцыя па дакладу т. Калініна.
2) Ітогі XVI партконфэрэнцыі.
3) Даклад т. Калініна на XVI партконфэрэнцыі.
4) Рэзалюцыя па дакладу т. Галадзеда, на XII зьезьдзе КПБ.
5) Даклад т. Каркліна, Галадзеда, Рачыцкага і Баліцкага на IX зьезьдзе саветаў.

III. Нашы задачы па выкананьню сельска-гаспадарчай пяцёхгодкі.

а) Сталае набліжэньне сельска-гаспадарчай пацёхгодкі да рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас.

б) Высьвятленьне мясцовых канкрэтных задач па пяцёхгодцы перад працоўнымі масамі ў галіне сельскай гаспадаркі ў данай мясцовасьці.

в) Сачыць за сваячасовым выкананьнем гэтых задач.

г) Максымальна разгарнуць самакрытыку і актыўнасьць рабочых і бядняцкіх мас вакол выкананьня задач пяцёхгодкі, штодзённа ўцягваючы гэтыя масы ў ажыцьцяўленьне іх, ухіляючы цяжкасьці, якія сустракаюцца.

д) Моцна разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва ў справе сельска-гаспадарчага будаўніцтва.

е) Штодзённа працаваць над узьняцьцем аграпісьменнасьці.

ж) Уцягнуць шырокія масы рабочых і сялян у справу чысткі савецкага апарату і партыі.

з) Усю працу канцэнтраваць вакол задач выкананьня пяцёхгодкі.

і) Уласным дзелавым прыкладам сьведчыць сваю аддананасьць справе калектывізацыі і выкарчаваньня карэньняў капіталізму.

к) Бязупынна весьці барацьбу з правым ухім, галоўным чынам ускрываючы практыку правага ўхілу.

## Культурная рэволюцыя і барацьба з бюрократызмам.

### I. Вучэньне аб дзяржаве.

Сутнасьць дзяржавы. Розьніца паміж пролетарскай і буржуазнай дзяржавай. Задачы зруйнаваньня буржуазнай дзяржавы і ўстанаўленьня дыктатуры пролетарыяту. Бюрократызм у буржуазнай дзяржаве і бюрократычныя скажэньні ў савецкай дзяржаве.

Бюрократызм, яго сутнасьць, клясавы характар, асноўнае супярэчаньне з сутнасьцю савецкае дзяржавы. Карэньні яго ў СССР, і ленінская пастаноўка пытаньня аб бюракратычных скажэньнях пры дыктатуры пролетарыяту і мэтадах барацьбы з імі.

Матар'ялы: 1. Праграма УсеКП(б). Аб бюрократызьме і савецкай організацыі дзяржавы, прачытаць у аддзеле „у галіне агульна-палітычнай“ пункт 8.

2. Ленін: Дзяржава і рэволюцыя, гл. I і IV.

3. Т. XVI даклад на VIII зьезьдзе „Партыйная праграма“, стар. 126—127, 128.

4. Т. XVIII, ч. I „Аб профсаюзах“, стар. 11 (унізе) і 12 (зьверху) і старонка 31. „Аб прод. падатку“ (брашура) стар. 205 ад слоў: „Вазьмеце пытаньне аб бюрократызьме“... да стар. 206 „Трэба ўмець прызнаць зло“.

5. Т. XVIII ч. II артыкула „Як нам рэарганізаваць Рабкрын“, „Лепш менш, ды лепш“.

### II. Тры чарговыя задачы партыі ў галіне палепшаньня дзярж. апарату і барацьбы з бюрократызмам.

1. Праверка фактычнага выкананьня, як галоўнейшая частка работы па палепшаньню дзярж. апарату:

а) застанаўленьне і правядзеньне точнай адказнасьці;

б) узаемны кантроль цэнтру і мейсц;

в) прыцягненьне мас да праверкі выкананьня організацыі органаў, спосабаў кантролю мас.

2. Палепшаньне асабовага складу дзярж. апарата:

а) чыстка старога складу;

б) замена новымі кадрамі вылучэнцаў і ўмовы правільнай організацыі такой замены.

3. Правядзеньне сыстэмы кіраўніцтва ў адпаведнасьці з сыстэмай нашай гаспадаркі і патрабаваньнямі соцыялістычнага будаўніцтва:

а) дэцэнтралізацыя опэрацыйных функцый пры цэнтралізацыі планіраваньня і кіраўніцтва;

б) узмацненьне гаспадарчай ініцыятывы нізавых зьвеньняў;

в) узмацненьне навуковага характару і навуковай абгрунтаванасьці гаспадарчага планіраваньня;

г) узмацненьне барацьбы за рэжым эканоміі;
д) перанясеньне цэнтру цяжкасьці работы па палепшаньню дзяржапарату ў раён, паколькі ён зьяўляецца вузлавым пунктам, дзе ажыцьцяўляюцца дырэктывы партыі і савецкае ўлады;
е) організацыя ўзорнай работы трэстаў, акруг, раёнаў, каб у выніку лепшыя ўзоры зрабіць прыкладам, абавязковым для ўсіх.

Матар'ялы для прапрацоўкі:

1. Рэзалюцыя XVI партконфэрэнцыі аб барацьбе з бюрократызмам, гл. I, II, III.
2. Даклад Якаўлева на XVI партконфэрэнцыі, адпаведныя разьдзелы.

## III. Барацьба з бюрократызмам, масавы ўдзел працоўных у гэтай барацьбе.

Прабуджэньне масавай рабочай ініцыятывы ў барацьбе з бюрократызмам. Уцягненьне шырокіх колаў рабочых мас у працу РСІ. Скарыстаньне ўсіх форм соцыялістычнага спаборніцтва, як новай формы ўцягненьня мас у будаўніцтва, масавага кантролю, масавыя рабочыя кантрольныя камісіі, абраньне ад рабочых у бюро скарг, стварэньне спэцыяльных груп садзейнічаньня, налёты рабочых, „лёгкая кавалерыя“, прыцягненьне рабкораў і г. д. Работа профсаюзаў у масах і элемэнты бюрократызму ў профсаюзах і як яны зьнішчаюцца профсаюзам. Падняцьце культурна-політычнага ўзроўню шырокіх колаў працоўных, як спосаб большага ўцягненьня іх у барацьбу з бюрократызмам. Крыніца бюрократызму ў партапараце і яго праявы. Унутрыпартыйная дэмократыя. Скарачэньне платнага апарату і шырокае ўцягненьне партактыву ў непасрэдную работу партапарату.
Значэньне самакрытыкі, як рашучага мэтада барацьбы з бюрократызмам.

Матар'ялы для прапрацоўкі:

1. Даклад Якаўлева на XVI партконфэрэнцыі.
2. Рэзолюцыя па дакладу Якаўлева, гл. 5.
3. Ліст ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы.

## IV. Барацьба з бюрократызмам у БССР.

1. Барацьба за разгортваньне самакрытыкі. Барацьба з попытамі сузіць і абмежаваць самакрытыку, з прасьледваньнем за самакрытыку і ігнарыраваньне рабочых прапаноў, як неабходная ўмова пасьпяховай барацьбы з бюрократызмам. XII зьезд КП(б)Б па гэтаму пытаньню.

2. Барацьба за палепшаньне і патаненьне дзярж. апарату і набліжэньне да мас. Чарговыя задачы, прынятыя XII зьездам па гэтаму пытаньню. Даклад т. Гамарніка п. IV „Дзярж. апарат“, рэзалюцыя па дакладу ЦКК.

3. Бюрократызм у профсаюзным апараце і задачы палепшаньня работы профсаюзных організацый і зьнішчэньня бюрократызму.

4. Пытаньні самакрытыкі і ўнутры-партыйнай дэмократыі ў КП(б)Б.

Матар‘ялы для прапрацоўкі:

1. Матар‘ялы па справаздачы ЦК і ЦКК КП(б)Б на XII зьезьдзе, стар. 191—208.
2. Рэзолюцыя XII зьезду па справаздачы ЦК і ЦКК.
3. Даклад т. Гамарніка, п. IV „Дзяржапарат“.
4. Даклад т. Калніна на XII зьезьдзе КП(б)Б.
5. Рэзалюцыя XII зьезду аб рабоце профсаюзаў.

## Унутры-партыйныя пытаньні.

Мэта тэмы высьвятліць:

1. Неабходнасьць барацьбы на два фронты—супроць троцкізму і прымірэнства да яго і асабліва супроць правага ўхілу і прымірэнства да яго, як найбольш небясьпечнага ў сучасны момант.

2. Неабходнасьць чысткі партыі ад чуждых, разлажыўшыхся элемэнтаў і вярбоўкі ў партыю ўсё новых мас рабочых і работніц гораду, с.-г. рабочых, батракоў і вясковай беднаты на вёсцы.

ПРАГРАМА:

Партыя ў барацьбе з ухіламі і скажэньнямі ад Ленінскай лініі (кароткі гістарычны абгляд). Сутнасьць трацкізму—адвяржэньне магчымасьці будаўніцтва соцыялізму на аснове саюзу рабочай клясы з асноўнымі масамі сялянства. Сутнасьць правага ўхілу—адвяржэньне кіруючай ролі рабочае клясы ў гэтым саюзе. Ператварэньне трацкізму цалкам у супроцьсавецкую, контр-рэволюцыйную організацыю і поўнае выкрыцьцё яго сутнасьці перад масамі. Наступленьне на капіталістычныя элемэнты нашай гаспадаркі, абвастрэньне клясавай барацьбы, асабліва на вёсцы, як прычына асаблівай небясьпекі правага ўхілу ў сучасны момант. Перамога над правым ухілам, як адна з прадпасылак ухіленьня цяжкасьцяй рэконструкцыйнага пэрыяду і пасьпяховага наступленьня на капіталістычныя элемэнты нашай гаспадаркі.

### 1. Правы ўхіл у пытаньнях пяцігодкі.

Адвяржэньне тэмпу індустрыялізацыі краіны і недаацэнка новых вытворчых форм змычкі. Зьвядзеньне задач змычкі да пытаньняў толькі тавараздвароту. Пераацэнка цяжкасьцяй ажыцьцяўленьня пяцігодкі. Незразуменьне нямінучасьці абвастрэньня клясавай барацьбы ў сувязі з разгорнутым соцыялістычным будаўніцтвам.

### 2. Правы ўхіл у пытаньнях сельскай гаспадаркі.

Тэорыя „дэградацыі" сельскай гаспадаркі. Адмова ад індывідуальнага абкладаньня найбольш моцных пластоў кулацтва, адмова ад узмоцненага націску на кулацтва. Адвяржэньне правымі нямінучасьці абвастрэньня клясавай барацьбы на вёсцы. Тэорыя ўрастаньня кулака ў соцыялізм. Правы ўхіл адзначае капітуляцыю перад кулаком і адмова ад соцыялістычнага шляху разьвіцьця.

### 3. Правы ўхіл у нацыянальным пытаньні.

Ухілы ад ленінскай лініі ў нацпытаньні і прымірэнства з гэтымі ўхіламі як адабражэньні ўхілаў ад агульнай лініі партыі наогул і прымірэнства з гэтымі ўхіламі. Недаацэнка і пераацэнка нацыянальных асаблівасьцяй, як выраз націску вялікадзяржаўнага шовінізму і нацыянал-дэмократызму, дробна-буржуазнага абкружэньня, як прычына гэтых ухілаў. Барацьба з нацыянал-дэмократызмам і ажыцьцяўленьне задач па будаўніцтву „культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме".

### 4. Генэральная лінія партыі і задачы яе чысткі.

Неабходнасьць „пэрыядычнай чысткі радоў комуністычных партый, працуючых у легальных умовах, каб сыстэматычна ачышчаць партыю ад нямінуча прымазываючыхся да яе дробна-буржуазных элемэнтаў" (Ленін).

Яшчэ большая неабходнасьць пэрыядычнай чысткі „адзінственна легальнай палітычнай партыі ў краі, куды ўстраміліся шукаючы прыкладаньня сваіх сіл гэткія групы і слаі, якія пры іншых умовах находзіліся-б не ў радох комуністычнай партыі, а ў радох соцыял-дэмократыі альбо інш. разнавіднасьці дробна-буржуазнага соцыялізму".—„Ачыстку партыі ад мазурыкаў, ад абюрократызаўшыхся, ад нячэсных, ад няцьвёрдых, няўстойлівых камуністых", ад кар'ерыстых, ад чуждых элемэнтаў, ад растратчыкаў, шкоднікаў, антысэмістых, шовіністых і інш.

Чыстка партыі ад дэзорганізатараў на прадпрыемстве (сыстэматычныя прагулы, п'янства і інш.), а таксама ад зросшыхся з кулацтвам на вёсцы.

Чыстка ад застаўшыхся ў партыі „ўсіх прадстаўнікоў опозыцыйных груп, якія асуджаны партыйнымі пастановамі, парваўшых з гэтымі групамі толькі на словах, на справе-ж працягваючых сваю антыпартыйную работу ў шэрагах партыі" (Яраслаўскі).

Чыстка партыі, як спосаб узмацненьня яе ленінскага адзінства і вытрыманасьці.

Чыстка партыі павінна зрабіць яе... „больш здольнай да змаганьня, больш мабілізаванай да барацьбы з бюрократызмам і іншымі скажэньнямі клясавага характару" (Яраслаўскі).

Соцыяльны склад УсеКП(б) і задачы чысткі. Асаблівасьці соцыяльнага складу КП(б)Б. Задачы чысткі ў вытворчых ячэйках. Асаблівае значэньне чысткі вясковых ячэек.

Чыстка савецкіх ячэек і значэньне чысткі для палепшаньня работы дзярж. апарату.

Прыцягненьне да работы па чыстцы партыі беспартыйных рабочых і ўсіх працоўных. Разгортваньне шырокай крытыкі і самакрытыкі, як залог пасьпяховага правядзеньня чысткі.

Чыстка партыі і вярбоўка ў партыю. „Трэба, каб усюды заняліся адначасова і стражайшай чысткай нашай партыі ад „прымазаўшыхся" і ўцягненьнем у партыю ўсіх лепшых элемэнтаў масы рабочых і сялян. Больш новых работнікаў з масы ў шэрагі партыі для самастойнага ўдзелу ў будаўніцтве новага жыцьця—гэтакі наш спосаб барацьбы з усімі цяжкасьцямі, гэтакі наш шлях да перамогі" (Ленін, т. XX, ч. II, ст. 347).

Разгортваньне культурна-масавай, партыйна-выхаваўчай працы сярод рабочых мас, як забясьпека посьпеху ў працы па „вярбоўцы лепшых, найбольш вытрыманых і сьвядомых, інтэрнацыянальна-выхаваных вытворчых рабочых і батракоў у партыю, паставіўшы задачу—да канца 1930 году мець ў радох КП(б)Б ня менш 50% вытворчых рабочых і батракоў" (з рэзалюцыі па справаздачы ЦК КП(б)Б).

Уцягненьне работніц і батрачак у грамадзка-палітычнае жыцьцё, складаньне адпаведных матар'яльных і бытавых умоў, як забясьпека для магчымасьці ўцягненьня лепшых жанчын у партыю.

Больш уважлівыя адносіны да росту комсамолу, чысткі КСМ ад прымазаўшыхся элемэнтаў, большае кіраўніцтва клясавым, палітычным выхаваньнем у КСМ, як забясьпека сапраўднага прэтварэньня КСМ у падрыхтоўчую школу да КП(б)Б.

Літаратура:

Даклады: Яраслаўскага, Якаўлева, Калініна, Куйбышава на XVI партконфэрэнцыі — адпаведныя месцы аб правым ухіле.

Сталін—Аб індустрыялізацыі краіны і правым ухіле.
Рэзалюцыі XVI парт. конфэрэнцыі.
Ленін т. XVI, стр. 352.
Итоги XVI партконференции, изд. „Прибой“ стар. 14—30.
Рэзалюцыя XII зьезду КП(б)Б аб чыстцы партыі.
Матар'ялы да справаздачы ЦК КП(б)Б, стар. 120—182.
Справаздача ЦК КП(б)Б, разьдз. „Партыя“ газ. Зьвязда № 31 ад 9/II—29 г.
Рэзалюцыя па дакладу ЦК КП(б)Б разьдзел „Задачы ўнутрыпартыйнай работы“ газ. Зьвязда № 38 ад 17/II—29 г.
Даклад тав. Васілевіча „Аб вярбоўцы рабочых у партыю, рэгуляваньне росту і чысткі КП(б)Б“ газ. Зьвязда № 40 ад 20/II—29 г.
Рэзалюцыя па справаздачы ЦКК КП(б)Б, газ. „Зьвязда“ № 39 ад 19/II—29 г.
Рэзалюцыя ЦК ВКП(б) аб вярбоўцы ў партыю і чыстцы яе радоў, „Известия“ ЦК ВКП № 4 за 1929 г. февраль.
Е. Ярославский: „Вчерашний и завтрашний день троцкизма“ журн. „Большевик“ № 2 за 1929 г. „Завершенный круг“ журн. „Большевик“ № 23-24 за 1928 г. „Как Ленин подходил к вопросу о чыстке“.

---

## Праграма па агра-грамаце і калектывізацыі сельскае гаспадаркі для акруговых курсаў парт. актыву (прапагандыстых, жанорганізатараў і сакратароў ячэек).

### I. Праблемы падвышэньня ўраджайнасьці (12 гадзін).

Кароткія зьвесткі аб харчаваньні с. г. расьлін. Хэмічны склад расьлін: вада, арганічаскае вешчаство і попел. Усваеньне $CO_2$. Будоўля арганічаскіх вешчэств. Харчэўныя вешчаства ў глебе. Усваеньне мінэральных вешчэств расьлінамі.

Мінэральныя ўгнаеньні: азотнакіслыя, фосфорнакіслыя, калійныя—іх уплыў на ўраджаў па матар'ялам дасьледчых станцый. Рэнтабельнасьць угнаеньняў. Вапнаваньне глебы. Попел, як угнаеньне. Захоўваньне попелу і спосабы яго скарыстаньня.

Гной. Сярэдні склад гною. Спосабы захаваньня гною. Скарыстоўваньне тарпяной падсьцілкі. Дзейнасьць гною. Колькасьць гною ў гаспадарцы ў сувязі з харчавым пытаньнем.

Скарыстаньне дамашніх адкідаў для ўгнаеньня глебы. Кампосты. Пабудова адхожых месц з торпам. Прымяненьне торпа-фэкальных компостаў.

Роля лубіну ў падвышэньні ўраджайнасьці палёў. Культура лубіну на зялёнае ўгнаеньне і насеньне. Лубінавыя севазвароты на бедных глебах. Апрацоўка глебы, як сродак падвышэньня ўраджайнасьці. Апрацоўка глебы пад озім. Недахопы позьняга сялянскага папару. Спосабы яго ліквідацыі ў сялянскай гаспадарцы. Раньнія чыстыя папары. Занятыя папары. Параўнаньне вікавага, канюшыннага і прапашнога папару. Апрацоўкі глебы пад ярыну. Значэньне лушчэньня жніўя і ворыва на зяб. Сьмецьцявыя травы, як яны шкодзяць пасевам. Барацьба з імі. Уплыў на ўраджай якасьці пасеўнага матар'ялу. Мэтады насеннаачысткі і сарціроўкі насеньня. Канструкцыя галоўнейшых насенна-ачышчальных сарціровачных машын і іх скарыстоўваньне. Арганізацыя насенна-ачышчальных пунктаў. Што такое сялекцыя с. г. расьлін. Арганізацыя дзяржаўнага гатунковага насеннага фонду ў БССР. Роля ў гэтай справе саўгасаў, калгасаў і с. г. коопэрацыі.

Кароткія зьвесткі аб культуры галоўнейшых с.-г. расьлін:

1. Збожжавыя культуры—зімовае жыта, авёс, ячмень.
2. Прапашныя—бульба, кармовы бурак, морква, бруква, турнэпс.
3. Кармавыя травы—канюшына, зімовая і яравая віка, сэрадэля.
4. Прадзільныя—лён і каноплі.

Што такое севазварот. Тыпы севазваротаў. Недахопы збожжавага трохпольля. Кармовае пытаньне і баланс гною ў сялянскай гаспадарцы. Прынцып пладазьмена. Тэхнічныя асновы шматпольных севазваротаў. Найбольш распаўсюджаныя тыпы севазваротаў у БССР. Значэньне закону аб аграмінімуме.

## II. Інтэнсыфікацыя жывёлагадоўлі (10 гадзін).

Значэньне жывёлагадоўлі ў с.-гаспадарцы БССР. Што такое багнянае і прадукцыйнае жывёлаводзтва. Спосабы палепшаньня малочнай жывёлы. Разьвядзеньне „ў сябе" і мэтызацыя.

Значэньне харчовага пытаньня. Спосабы яго вырашэньня ва ўмовах БССР. Штучныя лугі і выпасы. Палепшаньне натуральных лугоў. Палявое травасеяньне: увядзеньне ў севазварот канюшыны, вікі, сэрадэлі, кармавых буракоў. Організацыя прысядзібных харчовых севазваротаў. Сіласаваньне харчу. Башанныя сіласы ў буйных гаспадарках і значэньне іх, як сродка абагульваньня жывёлаводзтва ў сялянскай гаспадарцы.

Як гадаваць малочную жывёлу. Харч, падтрымліваючы і прадукцыйны. Як апрэдзеліць жывую вагу жывёлы ізьмярэньнем.

Састаўленьне харчовых дач па датскаму спосабу. Сувязь зімняга і летняга рэжыму гадоўлі. Арганізацыя летняга ўтрыманьня жывёлы. Тэхніка харчаваньня жывёлы зімою. Падрыхтоўка харчу машынамі. Мэханізаваныя памяшканьні для жывёлы ў буйных гаспадарках. Догляд за жывёлай і правілы даеньня. Прымяненьне электрычнасьці пры даеньні. Бракоўка жывёлы.

Масавае палепшаньне сялянскага жывёлаводзтва. Малочная жывёлаводная коопэрацыя. Організацыя злучных пунктаў. Кантрольныя саюзы. Саюзы жывёлаводчыкаў. Саўгасы і калгасы, як цэнтры распаўсюджваньня палепшанай малочнай жывёлы.

Сьвінагадоўля. Мясцовая і ангельская сьвіньня. Палепшаньне мясцовых сьвіней. Злучныя пункты. Гадоўля парасят. Гадоўля сьвіней на сала. Гадоўля на бэкон. Організацыйная сувязь масларобства і сьвінагадоўлі. Роля саўгасаў і калгасаў у палепшаньні сялянскага сьвінаводзтва. Контрактацыя сьвіней для бэконных фабрык.

## III. Індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі (4 гадзіны).

Сель-гасп. тэхнічнія заводзкія прадпрыемствы, як крыніцы энэргіі сельскай гаспадаркі. Організацыя мэханізаваных масларобных і сыраварных заводаў у калгасах і саўгасах. Картофеле-перапрацоўваючая прамысловасьць. Мукамольная справа. Алейні. Кансэрвіраваньне гародніны. Тэхнічная пераапрацоўка садовіны. Коопэраваньне первічнай апрацоўкі ільну. Бэконныя фабрыкі. Вытворчае коопэраваньне і колектывізацыя як фактары індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі.

## IV. Машынізацыя сельскае гаспадаркі (6 гадзін).

Галоўнейшыя зьвесткі аб пабудове трактара і ўхода за ім. Скарыстаньне яго ў сельскай гаспадарцы. Вытворчасьць трактара. Падлік каштоўнасьці працы трактара параўнальна з коннай упражкай. Значэньне велічыні апрацоўваемай плошчы. Трактар, як стымул колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Што такое локомобіль, нафтавы рухавік, электромотор. Роль электрычнасьці ў сельскай гаспадарцы. Організацыя энэрготэхнічнай базы ў сядзібе, згодна ўмоў Беларусі (вадзяныя крыніцы, торп, астаткі дрэваапрацовачных установак).

Электрыфікацыя сядзібных работ. Мэханізацыя апрацоўкі глебы. Тыпы прычэпных прылад да трактараў. Радкавыя і тукавыя сеялкі. Правілы ўстаноўкі іх на работу. Касілкі, жнейкі, снопавязалкі, конныя граблі і бульба-капацелі. Організацыя ўборкі хлеба з дапамогай трактараў. Прымяненьне яго пры культуры бульбы.

Конструкцыя складаных малатарань і ўстаноўка іх на работу. Організацыя колектыўнага карыстаньня малатарнымі гарнітурамі (куставыя аб'яднаньня саўгасаў, калгасаў, машынных таварыстваў). Значэньне машын і прылад у сельскай гаспадарцы. Умовы каштоўнасьці прымяненьня машын. Буйная абагуленая гаспадарка, як фактар увядзеньня мотокультуры ў сельскую гаспадарку.

## V. Асновы організацыі колектыўнай гаспадаркі (10 гадзін).

Галоўнейшыя недахопы дробнай сялянскай гаспадаркі. Мяжа, як выхавальнік сьмецьцявых расьлін і шкодных інсэктаў (кузурак). Страта пад межамі зямельнай тэрыторыі. Цераспалосіца, дальназямельле, вузкапалосіца і доўгазямельле у сялянскай гаспадарцы.

Характарыстыка хутарскай сыстэмы землякарыстаньня з організацыйнага і соцыяльна-політычнага боку. Ступень скарыстоўваньня цягавай сілы ў дробнай гаспадарцы. Вытворчасьць працы ў гэтай гаспадарцы.

Дробная гаспадарка, як тормаз мэханізацыі сельскае гаспадаркі. Выдаткі на капітал у будынках дробных і буйных гаспадарках. Вытворчая коопэрацыя, як пераходная ступень да калектыўнае гаспадаркі.

Формы калектыўнае гаспадаркі: таварыства па супольнай апрацоўцы глебы, сельска-гаспадарчыя арцелі і камуны. Іх асноўныя асаблівасьці ў залежнасьці ад сьцепені абагульненьня сродкаў вытворчасьці сельскае гаспадаркі ў гэтых калгасах.

Саўгасы і іх прызначэньне. Соцыяльная роля вытворчых нарад.

Організацыйныя тыпы буйных калектыўных гаспадарак: жывёлагадоўчыя гаспадаркі, тэхнічныя (бульбяныя, ільняныя), збожжавыя, садова-гародныя і г. д. Праблема спэцыялізацыі і дыверсіфікацыі (шматскладанасьці структуры) буйных абагуленых гаспадарак. Організацыя ўнутрыгаспадарчага транспарту буйнага сельска-гаспадарчага прадпрыемства. Выбар палявых культур. Організацыйная ўзаемазалежнасьць іх.

Эканамічныя падставы рацыянальнага севазвароту. Асаблівасьці організацыі палявой гаспадаркі ў калгасах. Прасьцейшыя разьлікі пры організацыі жывёлаводзтва. Сіласаваньне летняга і зімовага корму. Уцілізацыя прадуктаў жывёлаводзтва ў залежнасьці ад рынку. Апрадзяленьне рэнтабельнасьці жывёлаводзтва. Організацыя працы і яе аплаты ў калгасах. Організацыя сродкаў вытворчасьці ў калгасах. Падлік патрэбнай рабочай сілы і яе разьмеркаваньне. Аплата працы ў залежнасьці ад колькасьці і якасьці

працы. Меркаваньне капітала ў будынках, у інвентары, у матэрыялах і грошы. Складаньне фінансавага пляну калгасаў.

Кароткія зьвесткі аб сельска-гаспадарчым рахункаводзтве. Мэтады ацэнкі сродкаў вытворчасьці. Ня рынычныя прадукты. Кнігі па рахункаводзтву. Простае і двайное рахункаводзтва. Складаньне гадавой справаздачы.

## VI. Асноўныя моманты пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі Беларусі (6 г.).

Галоўнейшыя рысы сельскае гаспадаркі БССР. Зямельная плошча. Глеба. Землязабясьпека. Аграрная перанасялёнасьць. Ураджайнасьць аснаўных культур. Дынаміка сельскай гаспадаркі. Таварнасьць сялянскае гаспадаркі БССР. Асноўнае начала пабудовы сыстэмы мерапрыемстваў на палепшаньню сельскае гаспадаркі.

Арганізацыя зямельнае плошчы. Земляўпарадкаваньне, яго задачы і разьмеры. Перасяленьне і стварэньне ўнутранага каланізацыйнага фонду. Меліарацыя забалочаных зямель. Разьмеркаваньне іх па тэрыторыі БССР. Значэньне меліарацыі ў соцыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Тэмп меліарацыйных работ і фінансаваньне іх. Абагульненьне сельскае гаспадаркі. Тэмп вытворчага коопэраваньня. Мэханізацыя і індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі. Прынцыпы пабудовы плянаў машынаснабжэньня. Абагульненьне і сфэры машынакарыстаньня. Разьмеркаваньне капітала-ўкладаньняў па інвэнтару па сэктарам. Арганізацыя рамонт сель-гасп. інвэнтару.

Плян індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі: малочная прамысловасьць, бульбяная, первічная пераапрацоўка валакністых расьлін, пладова-гародная прамысловасьць і мясная. Мерапрыемствы па падвышэньню ўраджайнасьці. Васстанаўленьне пладародзьдзя глебы. Палепшаньне тэхнікі палядводзтва. Насеннаснабжэньне. Барацьба са шкоднікамі. Мерапрыемствы па жывёлаводзтву. Зьмяненьне ў складзе стада і кармовай базы. Мерапрыемствы па каняводзтву і сьвінаводзтву. Вэтдапамога. Мерапрыемствы па спэцыяльным галінам. Ільнаводзтва, садаводзтва, рыбная гаспадарка. Аграабслугоўваньне сельскай гаспадаркі і навукова-дасьледчая справа. Аграсець. Прапаганда сельска-гаспадарчых ведаў. Арганізацыя дасьледчае справы ў БССР. Фінансаваньне сельскае гаспадаркі і капітальнае ўкладаньне. Разгортваньне сель-гасп. вытворчасьці. Разьмеркаваньне зямельнай тэрыторыі па ўгодзьдзям (ужыткам) і формам землякарыстаньня. Дынаміка асноўных элемэнтаў. Рост валавой і таварнай продукцыі.

Літаратура для слухачоў:

I

1. Я. Якаўлеў—Барацьба за ўраджай.
2. Праф. Аляксееў—Люпінавае ўгнаеньне на Беларусі.
3. Харчанко—Занятые пары и пожнивные культуры.
4. Проф. Рыков, Р. И.—Севообороты в крестьянском хозяйстве север. полосы.
5. Проф. Кочетков—Порошки для удобрения полей.

II

1. Гаркави—Как правильно кормить коров.
2. Елпатевский—Выращивание телят и молодняка крупного рогатого скота.
3. Фридолин—Молочные и маслодельные артели.
4. Крот-Криваль—Контрольные союзы по скотоводству.
5. Проф. Колонтар—Общедоступное руководство по молочному хозяйству.

III.

1. Галиев—Машинные товарищества.
2. Бруновский—Семенные таварищества.
3. Яковлев—Практические задачи колхозного движения.
4. Лежнев-Финковский—Совхозы и колхозы.
5. Яковлев—„За колхозы“.
6. Киндеев—Как перейти к коллективному хозяйству. III изд.
7. Дьяков—Спутник организатора колхоза. (Справочник по основным вопросам законодательства о колхоз.).
8. Магницкий—Организация и работа агро-кооперативного кружка в деревне
9. Ищенко—Счетоводство в сельско-хозяйственных коллективах простой системы.
10. Магницкий— Агрограмота не черноземной полосы.
11. Пятилетний план народного хозяйства и культурнага строительства БССР 1928-29 г.—1932-33 г., разьдзел—„Сельское хозяйство“.

---

## Праграма па курсу „нац. асаблівасьці БССР і нацпалітыка партыі“ на курсах прапагандыстых, жанарганізатараў і сакратароў ячэек.

Прыгнечаньне нацыянальнасьцяй у царскай Расіі і ў абкружаючых нас капіталістычных краінах. Немагчымасьць пры капіталізьме, нават пры фармальнай свабодзе і роўнасьці ўсіх нацыянальнасьцяй, фактычнага іх вызваленьня. Раз'яднаньне рабочае клясы і працоўных мас розных нацыя-

нальнасьцяй, як спосаб утрыманьня ўлады ў руках пануючых кляс. Клясавая барацьба ўнутры нацый, разам з інтэрнацыянальнай пролетарскай салідарнасьцю,—аснова марксыцкаленінскай ідэолёгіі пралетарыяту. Не адзінства нацыі, а адзінства клясы. Дыктатура пролетарыяту, як адзіны шлях сапраўднага вызваленьня нацянальнасьцяй. СССР — саюз роўнапраўных Рэспублік бацькаўшчына пролетарыяту і працоўных мас усяго сьвету. БССР—саюз пролетарыяту і працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР. Асаблівасьці ў нацскладзе БССР. Асаблівасьці эканамічнага і культурнага становішча розных нацыянальнасьцяй ў БССР.

Задачы па павялічэньню беларускіх кадраў пролетарыяту, надзяленьню працоўных яўрэйскіх мас зямлёй і ўцягненьня іх у прамысловасьць.

Беларусізацыя, як спосаб узмацненьня саюзу пролетарыяту і асноўнае масы сялянства.

Беларусізацыя, як адзін з важнейшых спосабаў уцягненьня працоўных мас вёскі у соцыялістычнае будаўніцтва. Культасьветработа на мовах нацменшасьцяй, як спосаб узмацненьня ух удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Нац. саветы, нацсуды, і абслугоўваньне іншымі ўстановамі нац. меншасьцяй на іх мовах.

Правядзеньне нацполітыкі партыі па ўзмацненьню інформацыйнага адзінства рабочае клясы і працоўных мас сялянства для наступленьня на капіталістычныя элементы—струмент соцыялістычнага будаўніцтва.

Цкаваньне працоўных аднэй нацыі на другую і распальваньне нацыянальнай варожасьці, як спосаб раз'яднаньня рабочае клясы і працоўных мас розных нацыянальнасьцяй.

Сувязь нашай барацьбы з антысэмітызмам і шовінізмам з узмоцненым наступленьнем на кулака і капіталіста.

Антысэмітызм і шовінізм у БССР. Антысэмітызм і шовінізм, як вынік націску кулацтва буржуазных і дробна-буржуазных элементаў на пролетарыят.

Антысэмітызм і шовінізм, як пагроза сацыялістычнаму будаўніцтву і дыктатуры пролетарыяту.

Ухілы ад ленінскай лініі ў нацпытаньні і прымірэнцтва з гэтымі ўхіламі, як адбражэньне ўхілаў ад агульнай лініі партыі наогул і прымірэнцтва з гэтымі ўхіламі. Недаацэнка і пераацэнка нацыянальных асаблівасьцяй, як выраз націску вялікадзяржаўнага шовінізму і нацыянал-дэмократызму, дробна-буржуазнага абкружэньня, як прычына гэтых ухілаў. Барацьба з нацыянал-дэмократызмам і ажыцьцяўленьне задач па будаўніцтву „культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме“.

Задачы па разьвіцьцю марксыцка-ленінскай ідэолёгіі і стварэньня марксыцкіх кадраў, асабліва беларускіх у розных галінах культурнага будаўніцтва.

Літаратура:

Рэзалюцыя X зьезду РКП, разьдзел I „Капіталістычны лад і нацыянальны уціск“ і пункт другога разьдзелу, „Савецкі лад і нацыянальная свабода“, стар. 15-18, 15-25 зборніка пастаноў і рашэньняў УсеКП(б) і КП(б)Б на нацпытаньню.

Рэзалюцыя Кастрычнікаўскага Пленуму ЦК КПБ 1925 г.— 55—65, стар. 23 да 34, Менск, 1926 г.

Даклад і заключнае слова т. Сталіна на XII зьезьдзе партыі.

*Крыніцкі*—Даклад на менскім актыве. Выдана брашурай. Чарг. пытаньні нацполітыкі КПБ.

Рэзалюцыя Кастрычнікаўскага Пленуму ЦК КПБ 1925 г., 55—65, Аб нацполітыкі, таго-ж зборніка.

*Кнорын*—Аб рашучых „дробязях“ у вялікім пытаньні (артыкул зьмешчан у свой час у „Зьвязьдзе“) увайшоў таксама ў зборнік артыкулаў за „Культурную Рэволюцыю“, Менск, 1928 г., стар. 66—105.

*Гамарнік*—Даклад на Менскім актыве „Зьвязда“ ад 5 сьнежня № 279, разьдзел 5, пункт 1. Нацполітыка.

Пункт 4 рэзалюцыя аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па дакладу тав. Гамарніка. „Зьвязда“, № 276, ад 1 сьнежня.

*Сталевіч*—„Бальшавік Беларусі“ № 10 за 1928 г.

---

## Праграма па антырэлігійнай прапагандзе для акруговых курсаў перападрыхтоўкі прапагандыстых, сакратароў ячэек.

### I. Рэлігія і марксызм.

Сутнасьць рэлігіі па вучэньню Маркса, Энгельса, Леніна. Рэлігія, як фантастычны адбітак рэальнага сьвету. Рэлігія, як клясавая зброя буржуазіі, як зброя рэакцыі.

Прычыны існаваньня рэлігійных уяўленьняў: сацыяльныя карэньні: стыхійныя сілы грамады (таварная гаспадарка); уплыў пануючае клясы (школа, літаратура, тэатр і інш.) стыхійныя сілы прыроды. Адміраньне рэлігіі пры сацыялізьме.

Літаратура:

Падручнік для рабочых антырэлігійных гурткоў, гл. I.
Мысли Ленина о религии. Изд. „Атеист“.
Мысли Маркса и Энгельса о религии. Изд. „Атеист“.
Статья Плеханова о религии (собр. соч, т. XVII), или. Рожицин—„Плеханов о религии“, изд. „Моск. Рабочий“.

## II. Ленін аб рэлігіі.

Думкі Леніна аб рэлігіі і іх значэньне для правільнай пастаноўкі антырэлігійнае прапаганды.

Эксплёататарская роля рэлігіі. Сацыяльныя карэньні рэлігіі ў капіталістычнай грамадзе і пры дыктатуры пролетарыяту (НЭП'е).

Вызваленьне пролетарыяту ад рэлігіі праз клясавую барацьбу. Марксыцка-ленінская пастаноўка барацьбы з рэлігіяй. Неабходнасьць увязкі антырэлігійнае прапаганды з клясавай барацьбой пралетарыяту і сацыялістычным будаўніцтвам (абвастрэньне клясавае барацьбы). Ленін аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы. Адносіны пралетарскай партыі да рэлігіі. Мэтады антырэлігійнай прапаганды па Леніну. Барацьба Леніна з „богашукацельствам" і „богабудаўніцтвам". Ленін аб маральнасьці.

Літаратура:

Ленін—„Социализм и религия", т. VII, ч. I.
„ —„Об отношении рабочей партии к религии", т. IX, ч. I.
„ —„Классы и партия в их отношении к религии и к церкви", т. XI, ч. I.
Сборник—„Мысли Ленина о религии".
Учебник для рабочих антирелигиозных кружков. Гл. IX.

Пастановы XII і XIII зьездаў партыі.
„ партнарады па антырэлігійнай прапагандзе пры ЦК УсеКП(б)—(красавік).
Пастанова XII-га зьезду КП(б)Б па справаздачы ЦК.
} Для ўсіх лекцый.

## III. Рэлігія, сацыялістычнае будаўніцтва і культурная рэволюцыя.

Прасякненьне рэлігіяй усёй буржуазнай культуры: школ, літаратуры, тэатру, навукі (ідэалізм), быту. Роля рэлігіі ў справе адурманьваньня рабочай і сялянскай масы: ідэі сьвяшчэннай уласнасьці, вечнасьці капіталізму і патрыархальных сямейных парадкаў (устаноўленых самім богам), аб грахох, гвалту і інш.

Буржуазная культура дае „нізам" толькі мізэрныя астачы.

Разгортваньне соцыялістычнае гаспадаркі і культурная рэволюцыя. Рэлігія і рэлігійныя організацыі—ворагі соцыялістычнага будаўніцтва і культурнае рэволюцыі. Эксплёататарскі, консэрватыўны характар рэлігійных устаноў. Адхіленьне рэлігіяй клясавае барацьбы. Сэктанскі пацыфізм. Рэлігія і сям'я. Засваеньне буржуазіяй культуры і яе крытычная перапрацоўка ў працэсе засваеньня зьяўляецца асноўным

элементам культурнай рэволюцыі. Стварэньне новага чалавека, новых форм жыцьця, замена ідэалістычнага сьветапогляду матэрыялістычным, насычваньне ім усіх галін навукі і мастацтва,—такія задачы культурнае рэволюцыі.

Літаратура:

Ленин—„Задачи Союза Молодежи", т. XVI.
„ —„О кооперации", странички из дневника о нашей революции. Лучше меньше, да лучше (т. XVII, стр. 135—139).
Учебник для рабочих антирелигиозных кружков, гл. VI.
Олещук—„Решения XV с'езда и вопросы антирелигиозной пропаганды". „Антирелигиозник" № 2 за 1928 г.
Ем. Ярославский—„Культурная революция и антирелигиозная пропаганда" „Антирелигиозник" № 3 за 1928 г.—Для кіраўніка: часопісь „Революция и Культура".

## IV. Рэлігія ў СССР.

Адносіны рэлігійных організацый да Лютаўскае рэволюцыі (офіцйная праваслаўная царква сустрэла рэволюцыю адкрытым бунтам духавенства). Каталіцкая, лютаранская і іўдзейская—стрымана-варожа. Кастрычнікаўская рэволюцыя і царкоўнікі. Прававое становішча рэлігійных організацый у СССР. Контр-рэволюцыйная дзейнасьць царкоўнікаў. Паволжскі голад і царкоўнікі. Пасланьне Ціхана. Раскол царквы, сацыяльныя прадпасылкі ўзьнікненьня абнаўленцаў (зьмена вех з мэтаю захаваць уплыў на працоўныя масы). Аўтакефальныя і аўтаномныя цэркві. Іншаверчаскія рэлігійныя організацыі ў барацьбе з нацыянальным прыгнечаньнем самаўладзтвам. Каталіцкае духавенства, як агентура польскага фашызму. Асаблівасьць антырэлігійнае працы сярод каталікаў-беларусаў. Рабіны і іх філантрапічна-клерыкальная дзейнасьць. Сувязь рэлігійных організацый з-за кардоннай буржуазіяй. Неабходнасьць барацьбы з клерыкалізмам. Аднолькавая варожасьць справе сац. будаўніцтва рэлігій усіх гатункаў і адцэньняў. Рост бязбожжа ў сувязі з посьпехамі сац. будаўніцтва, уплыў рэлігіі на сялянства, адсталыя і новыя слаі рабочых, саматужнікаў, жанчын. Рэлігійныя організацыі на вёсцы перашкаджаюць калектывізацыі гаспадаркі і абараняюць інтарэсы кулацтва. У гарадох яны служаць мейсцамі дзейнасьці антысавецкіх элементаў. Ажыўленьне дзейнасьці рэлігійных організацый у сувязі з абвастрэньнем клясавае барацьбы. Сацыяльны склад кіруючых царкоўных організацый. Неабходнасьць вядзеньня ўзмоцненай антырэлігійнай прапаганды.

## Літаратура:

Учебник для рабочего антирелигиозного кружка, гл. „Церковь и Октябрьская революция“ и „Религия и церковь в СССР“.
Степанов—Религия, духовенство, его доходы, его проклятия и благословение, гл. 7—10.
Его-же—Живая церковь.
Лукин—Церковь и октябрьская революция.
Бонч-Бруевич В.—Живая церковь и пролетариат.
Брихничев—Патриарх Тихон и его церковь.
Красиков—На церковном фронте, аддз. III и IV.
Рожицин—Тихоновцы, обновленцы и контр-рэволюция.
Пастанова Ўсебеларускай АПА-нарады пры ЦК КП(б)Б.
Лукин—Революция и церквь.

## Папоўская літаратура:

Веденский—За что мы лишили сана бывшего патриарха Тихона.
„ —Церковь патриарха Тихона.
„ —Церковь и государство.
Типлинов Б.—Церковь во время революции.

## V. Сэктанцтва.

Дарэволюцыйныя і сучасныя прычыны сэктанцкага руху. Кіруючая роля ў сэктантаў ліберальна настроеных капіталістых (да рэволюцыі 1917 г.) кулакоў і нэпманаў (пры НЭП'е). Згодніцтва сэктанцкіх кіраўнікоў у 1905 г. Таўстой і таўстоўцы. Адмоўныя адносіны да Кастрычнікавае рэволюцыі. Адмаўленьне ад вайсковай службы ў Чырвонай арміі і затушаваньне імі клясавае барацьбы з эксплёататарамі. Рэакцыйны, дробна-буржуазны характар сэктанцтва. Прычыны роста сэктанцтва ў пасьля-кастрычнікавы пэрыяд (развал старое царквы, дыскрэдытацыя царкоўнікаў, адмаўленьне ад службы ў Чырвонай арміі, матар'яльная дапамога і інш.). Рэакцыйная сутнасьць сэктанцкіх тэорый і іх практыка. Формы і мэтады дзейнасьці сэкт. Віды сэкт (бабтыстыя, евангелістыя, адвенцістыя, іаяністы, богамолы і інш.). Супроцьстаўленьне сэктантамі сваіх організацый савецкім. Абшчына, яе пабудова: жаночая, юнацкая організацыі, індывідуальная агітацыя, эканамічная ўзаемадапамога. Стварэньне паралельна савецкім эканамічных організацый—коопэратывы, арцелі, таварыствы, іх абмежаванасьць і замкнутасьць. Міжнародная сувязь сэктанцтва, недапусьцімасьць якой-бы та нібыла ідэалізацыі сэктанцтва і агульнага падыходу да

яго, як пагалоўна контр-рэвалюцыйнай масы. Маса і кіруючая частка. Змаганьне за адваёву працоўнай масы з-пад уплыву сэктантаў праз мерапрыемствы культурна-гаспадарчага значэньня і вядзеньне антырэлігійнай працы.

Літаратура:

Путинцев—„Политическая роль сектантства“.
Учебник для рабочих антирелигиозных кружков, гл. VI.
„Правда о сектантах“ под редакцией Степанова, А., изд. Пензенского Губсовета Безбожников.
Тихомиров—„Баптизм и его политическая роль“, изд. ГИЗ, 1929 г.

## VI. Мэтады і формы антырэлігійнай прапаганды.

Замест антырэлігійнае прапаганды і барацьбы за матэрыялістычны сьветапогляд, разаблачэньне клясавае сутнасьці рэлігіі, асьвятленьне тых шляхоў і сродкаў, якімі падтрымліваецца ўся рэлігійная сыстэма. Разаблачэньне рэакцыйнай ролі рэлігіі, як тормазу соцыялістычнага будаўніцтва. Увязка зьместу антырэлігійнае прапаганды з задачамі соц. будаўніцтва і бягучым момантам. Антырэлігійная работа і барацьба за ўзьняцьцё ўраджайнасьці, калектывізацыю вёскі, новыя формы вядзеньня сельскае гаспадаркі. Барацьба з прагуламі, п'янствам, узьняцьцё прадукцыйнасьці працы і інш., уняд рэньне новых форм быту, рэв. сьвят. Масавая (кампаніі) паглыбленая сыстэматычная антырэлігійная праца. Неабходнасьць усебаковай крытыкі рэлігійнае ідэолёгіі. Ня безрэлігійнае, а антырэлігійнае выхаваньне ў школах.

Уключэньне Жанаддзеламі пытаньняў антырэлігійнай прапаганды ў работу з дэлегаткамі, сялянкамі і хатнімі гаспадынямі. Антырэлігійная работа па лініі профсаюзаў і палітасьветы, клюбы, хаты-чітальні, работа ў калгасах, казармах і г. д. Антырэлігійная праца павінна адзначацца разнавіднасьцю мэтадаў і форм, яна не павінна замыкацца ў якуюнебудзь адну форму антырэлігійнай прапаганды (гурткавую, альбо ў форме дакладаў), пры выбары гэтых форм трэба браць пад увагу асаблівасьць умоў жыцьця, быту, псыхолёгіі таго пласта, тае групы насельніцтва, сярод якое мяркуецца праводзіць антырэлігійную працу. Для работніц, сялянак, рабочых і сялян, комсамолу, дзяцей і інш. павінны ўжывацца асобныя прыёмы. Патрэбна падыходзіць з фактамі вядомымі данай групе, і шляхам аналізу іх падыходзіць да вывучэньня розных пытаньняў, маючых сувязь з рэлігіяй.

Лекцыі, гурткі, сэмінарыі, кіно, тэатр, экскурсіі ў музэі, на заводы, фабрыкі, у поле—формы антырэлігійнае работы.

У антырэлігійнай прапагандзе належыць ужываць усе мэтады палітасьветпрацы. Аналіз рэлігійных зьяў, шырокія

гістарычныя паралелі, гумар, працівапастаўленьне навуковых вывадаў і рэлігійных міфаў, ускрыцьце супярэчнасьцяй і незразуменьняў у біблії, каране, у кнігах „сьвят. пісаньня“, ускрыцьцё клясавае сутнасьці рэлігійнай маралі і г. д.—усё павінна прымяняцца ў антырэлігійнай прапагандзе.

Асабліва карысна паказаць сілу тэхнікі, уладу чалавека над прыродай і значэньне плянавасьці у народнай гаспадарцы ў справе зьнішчэньня рэлігійных вераваньняў. Саюз „Бязбожнікаў“, яго статут, формы і мэтады працы.

Літаратура:


Учебник для рабочего антирелигиозного кружка, гл. VIII.

Ярославский Ем.—Религия и ВКП(б), стр. 43—47.

Рэзалюцыя III Пленуму МК у 1927 г. аб антырэлігійнай прапагандзе.

Рэзалюцыя МК УсеЛКСМ аб антырэлігійнай прапагандзе.

Пастановы партнарады па антырэлігійнай прапагандзе пры ЦК УсеКП (красавік, 1926 г.).

Пастанова Ўсебеларускай АПА-нарады аб задачах антырэлігійнае працы (май 1929 г.).

Б. С. Э.—Антирелигиозная пропаганда.


---

# На мясцох

## Да выпуску менскай ВСПШ.

### Аб выніках працы менскай ВСПШ.

(*Год працы школы*).

У працы ВСПШ у гэтым годзе быў унесены цэлы шэраг новых момантаў: 1) школа з аднагадовай стала двухгадовай, 2) уведзены агульна-адукацыйныя дысцыпліны для тых таварышоў, якія ня маюць надрыхтоўкі, неабходнай для пасьпяховай работы па палітдысцыплінам праграмы школы, 3) побач з вячэрнімі групамі было 3 зьменныя групы, для тых рабочых, якія працуюць пазьменна, акрамя таго мы, 4) мелі 3 групы на прадпрыемствах.

Усяго ў школе спачатку вучэбнага году было 618 чал., якія былі падзелены на 21 групу, з якіх 4 групы другога курсу і 17 груп першага. К канцу вучобы 412 чал., з іх 64% партыйцаў, 18% камсамольцаў і 18% беспартыйных. Адсеў 33,35%. Пры чым, большы процант адсеву адбыўся за першае паўгодзьдзе і больш за ўсё за лік першага курсу, што тлумачыцца, па-першае—тым, што ў зьвязку з дабраахвотнасьцю і недастатковай праверкай камплектаваньня ў школу папаў шэраг таварышоў, недастаткова падрыхтаваных, па-другое,—выпадак адсеву таварышоў—перагружанасьць рознай грамадзкай працай. З 9-ці сакратароў ячэек, якія спачатку вучэбнага году наведвалі школу—2 чал. Прыблізна такое самае становішча адносна ўсяго ячэйковага актыву, які навучаўся ў школе.

Трэцяя прычына, што ў сярэдзіне навучальнага году арганізаваны былі шэраг курсаў, гурткоў на прадпрыемствах, у профсаюзах, большай часткай тэхнічных, і чацьвёртая—перагружанасьць нашай праграмы, аб'ём якой не адпавядае часу, які мы можам аддаць вучобе.

Школа працавала 3 дні ў тыдзень, усяго 9 гадзін, але нельга казаць, каб ў гэтыя дні былі вызвалены ад усякае працы. Асабліва цяжка было ў сераду, якая зусім ня лічылася ўзаконеным днём вучобы.

Да недахопаў нашай работы трэба аднесьці зрывы заняткаў у групах, дзе кіраунік па ўмовах сваёй працы выязджаў у камандыроўкі або на асабліва важныя пасяджэньні.

Склад выкладчыкаў (а іх было 36), у масе сваёй сябе апраўдалі, але былі і такія, якіх у працэсе працы прышлося зьмяніць.

Мэтад работы школы паўлябараторны. Яшчэ не ва ўсіх групах (асабліва там, дзе былі зрывы) удалося навучыць слухачоў самаму працаваць над матар'яламі, умець узяць з кнігі патрэбнае і аднатаваць на паперы.—Дрэнна было з падручнікамі: асабліва не падходзіў Леонцьеў па палітэканоміі і Кержанцаў па ленінізму.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы ўсё-жа можна падкрэсьліць значнае падвышэньне агульнага палітузроўню скончыўшых школу, чаму асабліва садзейнічала вялікая ўвязка ў гэтым годзе ўсёй нашай вучобы з пытаньнямі сучаснасьці, з галоўнымі пастановамі нашай партыі.

У выніку нашай работы 55 рэкамендуюцца ў Камвуз. 15 асоб на партыйна-прапагандысцкую працу, 14 на камсам' пропаганд. працу, 247 пераводзяцца на другі курс ВСПШ

Эранбург.

---

## Аб'яднаньне працы з навукаю.

Цэлы 1928—29 навучальны год рабочыя заводаў „Мэталь", „Меншвэю" і „Эльвод" вучыліся ў соўпартшколе, працуючы ў варштатаў. Рабочыя гэтых прадпрыемстваў добра зразумелі неабходнасьць аб'яднаньня працы з навукаю для нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Упартая праца за сваімі варштатамі нікольні не перашкаджала пасьпяховаму ўсваеньню палітычных і агульна-адукацыйных ведаў, якія выкладаліся ў партшколе. Асабліва трэба адзначыць прыхільныя і ўважлівыя адносіны да нацпытаньня і беларусізацыі. Ня гледзячы на нязначны лік тыднёвых лекцый па беларускай мове рабочыя ўвесь час вучобы надта цікавіліся беларусізацыяй, працуючы заўсёды над набыцьцем фармальных і практычных ведаў. Падручнікам нам служыла газэта „Зьвязда". Былі выпадкі вывучэньня рабочымі газэты на памяць. Ня дзіва, што рабочыя ў дзень спыненьня заняткаў у Саўпартшколе 8 мая зазначылі: Я ўжо паслаў па-беларуску допіс у газэту.

Я ўжо вяду сход на вытворчасьці толькі на беларускай мове.

Вось у гэтых дзьвюх заўвагах рабочых ёсьць нашы посьпехі і дасягненьні саўпартшколы.

Міхась Ватман.

---

## Вучоба саўпартшкольцаў чыгуначнікаў ст. Менск таварная.

Запісалася спачатку 52 тав. Нават баяліся, што кіраўнікам будзе цяжка займацца з намі. Наведвалі школу спачатку досыць добра і склад слухачоў быў падабраны добра, гэта відна з таго, што пытаньні абгаварваліся пры актыўным удзеле слухачоў, але прашоў месяц-другі і школа ў значнай меры апусьцела. Распачалася паміма вучобы яшчэ грамадзкая праца і хоць пісалі шмат газэты, каб партыйцы слухачы былі вызвалены ад надмернай нагрузкі, але на долю кожнага слухача знайшлося досыць працы: хто на сход мясцкому, хто ў якой-небудзь камісіі, той у другой зьмене працуе, а хто а 7-й гадзіне толькі вызваліцца ад працы ды сьпяшаецца да дому, ды каго не спаткаеш ідучы ў школу або посьля пытаеш чаму сябра ня быў—адказ адзін,—няма часу.

Трэба адзначыць, што саюз наш як наўмысьля, усякія сходы прызначае ў дні заняткаў у школе і кожнаму хочацца ды і мясцком кажа ісьці на сход. Такім чынам, у школе з кожным разам усё менш ды менш вучняў, бо раз другі, трэці прапусьціў, глядзіш ужо адстаў. Мэтад выкладаньня быў самы лепшы, бо вучні дома ня маюць часу чытаць, але трэба заўважыць, заданьні былі, асабліва па гісторыі партыі, доўгія і вучням цяжка пасьля дню працы абхапіць за $1^1/_2$—2 гадзіны матар'ялу старонак 20 з кніжкі. Яшчэ трэба адзначыць, год вучобы паказаў, што займацца 3 разы па 3 гадзіны ў тыдзень добра, але з другой паловы зімы адчуваецца ўжо зморанасьць, апрача заняткаў па беларускай мове, якія адбываліся добра. Прычым тое, што некаторыя вучні былі добра падрыхтаваны і па матэматыцы і па беларускай мове.-Такіх было больш і яны лічылі, што няма сэнсу марна час траціць і ня прыходзілі. Былі два таварышы, якія зусім матэматыкі ня ведалі і ім было за ўсімі ня ўгнацца, але, дзякуючы яч. службы цягі, арганізаваўся гурток па падрыхтоўцы па матэматыцы і калі захочуць, то змогуць падвучыцца. Аб падручніках трэба сказаць, што Леонцьеў быў для нас самы зразумелы падручнік, чаго ня можна сказаць пра „Папова".

На рэшце трэба сказаць, што хоць і было змаганьне за свабодны час, каб пайсьці ў школу, але таварышы, якія хадзілі акуратна, кажуць, што нібы вочы нанова адкрыліся. Гэта кажа, што дасягненьні ў працы школы ёсьць і іх трэба аднесьці на конт выкладчыкаў, якія праз увесь год падтрымоўвалі энэргію ў вучняў і інтарэс да вучобы.

Аляшкэвіч.

---

## Аб нашых недахопах.

У працы школы было шмат дасягненьняў, але буду гаварыць аб недахопах.

Першае, што трэба адзначыць, гэта кепскае ўсваеньне ленінізму, гістар. матэрыялізму і эканомпалітыкі. Прычыны гэтага наступныя:

1) У час заняткаў адбываліся перамяшчэньні з групы ў групу, што перашкаджала нармальнай вучобе. 2) Старастат быў падабраны няўдалы і адсутнічала навучальная дысцыпліна. 3) Амаль што палова курсу ў нашай групе нескарыстоўвала чамусьці 3-ю гадзіну. 4) Матар'ял слухачамі не чытаўся. 5) Частка выкладчыкаў адсутнічала. 6) Заданьні даваліcь вялікія і нерэгулярна, якія дагэтага яшчэ слаба прапрацоўваліся (з-за адсутнасьці часу). 7) Былі адзначаны выпадкі нэрвознасьці ў вучобе некаторых слухачоў перагружаных па партійнай рабоце (як сакратар бюро камс. калектыву, старшыня мясцкому і г. д.) 8). Большасьць слухачоў не вялі запісу і нават яшчэ горш ня мелі патрэбных падручнікаў, лічучы сваім абавязкам „адсядзець 2 гадзіны толькі". 9) Спачатку навучальнага году гаварылася аб пакоях для індывідуальнай прапрацоўкі, але гэтага ня было.

Выходзячы з вышэйсказанага, неабходна у будучым навучальным годзе зьвярнуць ўвагу на наступнае: 1) па-першае,— каб старастат быў падабраны з лепшых і паважных таварышоў і патрабаваў вучэбнай дысцыпліны ў наведваньні ў час заняткаў і г. д. 2) Спачатку навучальнага году цьвёрдае ўстанаўленьне складу груп. 3) Зьвярнуць увагу на непрадбачныя нагрузкі выкладчыкаў, што перашкаджала плянамернай вучобе. 4) Ад лекцый усё-ж так і пераходзіць да лябараторнага мэтаду праработкі (за апошні час слухачы „разьвіціліся" і ня чыталі матар'ялу дома) і выкладчык праваdзіў у поўным сэнсе слова-лекцыі (на якіх напэўна спалі). 5) Прапрацаваць пытаньне аб рэгулярнай праработцы пытаньняў сыстэмна-рэгулярнага запісу ў сшытках слухачамі. 6) Заданьні трэба каб даваліся загадзя і рэгулярна. 7) На 2-й курс неабходна падбіраць слухачоў, якія больш-менш добра ўсвоілі праграму за 1-шы курс і разьбіваць на групы паводле ведаў і агульнай падрыхтоўкі, бо слаба падрыхтаваныя таварышы тармазілі наогул вучобу. Слухач **Круглік**.

---

## Некаторыя моманты нашай вучобы.

Спачатку навучальнага году былі запоўнены ўсе клясы слухачамі і здавалася, што гэты год дасьць шмат палітычна „падкованых людзей", якія непасрэдна працуюць на нашых фабрыках, заводах, у каапэрацыйных і савецкіх установах, але трэба адзначыць з вялікім жалем, што к канцу наву-

чальнага году, мы маем у нашай групе амаль што палову адсеву. Вінаваты ў гэтым і слухачы, якія ня сур'ёзна адносяцца да сваёй вучобы і школа, якая не рэагавала на такога роду ненармальнае зьявішча.

Мэтад вучобы, расклад праграмы, абхоп матар'ялам, на мой погляд здавальняючы. Толькі ня сваячасова забясьпечваліся заданьнямі па праграмам к канцу года, што таксама адбілася на якасьці прапрацоўкі матар'ялу. Склад кіраўнікоў здавальняючы, але трэба было практыкаваць сыстэматычнае падагульваньне прапрацованага матар'ялу.

Усе паказаныя недахопы ў будучым навучальным годзе трэба зьнішчыць, тады вучоба сябе поўнасьцю апраўдае.

Слухач **А. Мароз.**

Ад школы: Школа сыстэматычна накіроўвала ў ячэйкі весткі аб наведваньні слухачамі школы, выклікала апоргаў для высьвятленьня прычын, якія перашкаджалі таварышам у наведваньні школы, але апрача ячэйкі Меншвэю, дрэваапрацоўнікаў амаль ніхто сыстэматычна ня цікавіўся гэтым пытаньнем.

## Чым тлумачыцца добрае наведваньне ў нашай групе.

Калі шмат з груп скардзяцца на слабае наведваньне, то нельга гэтага сказаць аб першай групе 2-га курсу. У нас наведваньне да апошняга часу было добрае, што можна ў першую чаргу тлумачыць вельмі добрым падборам кіраўнікоў, якія прылажылі шмат сіл для таго, каб нашыя заняткі ў школе па гістарычн. матэрыялізьме і ленінізму зрабілі нас сьвядомымі марксыстымі-ленінцамі.

Па агульна-адукацыйным прадметам мы парадачна шагнулі ўперад, асабліва па матэматыцы і эканомгеографіі.

У шмат горшым здаходзіцца становішча з беларускай мовай. Хоць ёсьць посьпехі, але маглі быць і большыя, калі-б кіраўнік зьвяртаў увагу таварышоў, якія дрэнна ведаюць беларускую мову. У нашай пасьпяховай рабоце быў і тормаз. Школа ня ў выстарчальнай меры забясьпечвала слухачоў усімі матар'яламі, якія рэкамэндаваліся да падрыхтоўкі кіраўнікамі. Гэты недахоп у наступным годзе неабходна зьнішчыць.

Слухач 1-й групы 2-га курсу,
рабочы **Розенберг.**

## Чаму не здавальняла нас выкладаньне эканомпалітыкі.

Мне асабіста год вучобы даў шмат чаго па гістарычнаму матарыялізму, дзякуючы добрым кіраўнікам па гэтай дысцыпліне. Значна менш атрымаў па эканомпалітыцы ня гле-

дзячы на тое, што гэтая дысцыпліна і лягчэйшая і больш знаёмая. Тлумачыць гэтае можна толькі ня ўмелым падходам кіраўніка па гэтаму пытаньню. Не гледзячы на асаблівую зацікаўленасьць эканомпалітыкай у часы заняткаў па гэтаму прадмету, слухачы паступова выходзілі з групы, так што к канцу заняткаў заставалася вельмі мала таварышоў.

Гэта трэба ўлічыць у наступным навучальным годзе.

Слухач **Рыўкін**.

---

## Што мне дала школа.

Школа мне дала зразуменьне сутнасьці капіталістычнага ладу, чаму рабочы няўхільна павінен змагацца супроць яго, і няўхільна пераможа.

Па гісторыі партыі я зразумеў як павінна весьціся барацьба супроць капіталізму за дыктатуру пралетарыяту. У сучасны момант зразумеў таксама, чаму мы павінны дапамагчы пралетарыяту іншых краін, які змагаецца з капіталізмам.

Я лепш як раней зразумеў, якая ад нас патрабуецца аддданасьць і высілкі, каб замацаваць атрыманую перамогу. Я лічу, што ўсе рабочыя не вывучыўшы гэтыя прадметы павінныісьці ў школу і тады кожнаму з нас будзе ўсё зразумела і лёгка ва ўсёй нашай працы.

Слухач **Казлоў**.

---

## Аб прычынах адсеву.

Спачатку навучальнага году быў вялікі наплыў у школу. Ня тое мы маем у сучасны момант. Калі я меў гутарку з некаторымі таварышамі аб прычынах непаведваньня, дык яны тлумачаць гэта тым, што школа дае вельмі мала агульнаадукацыйных ведау. Праграма наша па палітдысцыплінах была занадта абшырнай, у выніку чаго павярхоўная прапрацоўка. Акрамя таго я лічу, што апошнія пытаньні важнейшых рашэньняў партыі трэба была прапрацоўваць не кіраўніку па гісторыі партыі, а кіраўніку па палітэканоміі, бо праграма папалітэканоміі амаль была закончана.

Усе-ж па аканчаньні курсу мы можам пасадзіць любога „ухіліста“ ў калёшу, ня выключаючы прымірэнца. Лічу, што лепш грунтоўна прайсьці менш матар‘ялаў, чым сьпяшаючыся ды нічога ня ведаць; бягучую-ж політыку таксама не закідваць у бок.

Канкрэтна прапаную пашырыць курс да 3-х год з увядзеньнем больш агульна-адукацыйных прадметаў, навучыць, як самастойна карыстацца падручнікамі і матар‘ яламі, тады заняткі будуць прадукцыйнымі і з школы выйдуць добрыя прапагандыстыя.

Курсантка **Шапіра Д.**

---

## Трэба ўлічыць нашы недахопы.

Прычына адсеву крыецца ў ня зусім добрым падборы слухачоў з боку палітычнай і агульна-адукацыйнай падрыхтоўкі. У слухачоў мала было энергіі, настойлівасьці, самадзейнасьці. Выбар падручнікаў таксама быў нездавальняючы.

Так, курс палітэкономіі Ляонцьева мае замнога лішніх прыладаў і тых-жа месц і пры ўсім гэтым вывады ў яго нагэтулькі нязграбныя, а зазначэньне самых тэорый так дрэнна формуляваны, што мала спакушанаму ў кніжнай „мудрасьці" вучню, вельмі трудна вывучыць што-небудзь з такога падручніка. А ў выніку за 2 гадзіны чытаньня ў школе не пасьпяваем рабіць „раскопак", і гутарка заставала яго непадрыхтаваным.

Кіраўніку трэба было-б улічыць гэты недахоп і ў караценька пераказаць сваімі словамі асноўныя моманты гутаркі. Матар'ял лепш усвойваўся-б, калі-б менш сьпяшаліся, а больш-б прыводзілі прыкладаў, сапастаўленьня пры вырашэньні таго ці іншага пытаньня ў нас і ў нашых ворагаў, ужываючы пры гэтым адрыўкі мастацкіх твораў. Наступны недахоп гэта тое, што кіраўнікі недастаткова настойліва дабіваліся атрымаць адказ на тое, ці іншае пытаньне ад самой аудыторыі, а гэта заўсёды бывае магчыма, калі ў патрэбных выпадках дапамагчы адпаведным растлумачэньнем, а калі—і наводзячым пытаньнем.

На нарадах групаводаў школы абгаварвалася пытаньне аб неабходнасьці навучыць слухача працаваць над кнігай. Для гэтага к пачатку навучальнага году трэба было прачытаць хоць-бы адну лекцыю даць узорны разбор матар'ялу з растлумачэньнем, як чытаць, як і што падкрэсьліваць і як складаць тэзісы. Такога разбору пад кіраўніцтвам выкладчыка ня было.

У заключэньне трэба сказаць, што, ня гледзячы на недахопы, якія былі ў гэтым годзе ў пастаноўцы вучобы, наша школа ўсё-ж такі шмат павялічыла палітычны ўзровень і граматнасьць сваіх слухачоў. Шмат слухачоў зацікавіліся вучобай, а некаторыя вучні жадаюць і далей працаваць сыстэматычна над сабой.

Слухач **Васіль Шэмпель.**

---

## Прапановы курсавых канфэрэнцый.

1. Навучальны год пачаць з 1 кастрычніка і закончыць да 1 мая, папярэдне правёўшы камплектаваньне школы.

2. Школу камплектаваць у асноўным за лік рабочага ад варштату і служачага партыйца і камсамольца, не маючага магчымасьці займацца самаадукацыяй.

3. Да пачатку навучальнага году пераглядзець нагрузку слухачоў школы, лічучы вучобу як адну з асноўных нагрузак.

4. Камплектаваньне праводзіць па ўзроўню, як палітычнай, так і агульна-адукацыйнай падрыхтоўцы.

5. Пры камплектаваньні патрабаваць неабходны мінімум агульна-адукацыйных ведаў.

6. Дабіцца ўстанаўленьня трох дзён партвучобы, вызваляючы курсантаў на гэтыя дні ад усякай іншай партыйна-профэсыянальнай работы.

7. Усю работу школы перавесьці на беларускую мову.

8. Да пачатку навучальнага году мець асноўныя падручнікі па ўсіх дысцыплінах прыстасаваныя да працы школы на беларускай мове.

9. Зараз-жа падабраць кадр прапагандыстых, працу ў школе залічыць ім як асноўную партыйную нагрузку.

10. Павялічыць час для прапрацоўкі важнейшых рашэньняў партыі, уносячы ў іх асабліва важныя пытаньні міжнароднага рэволюцыйнага руху.

11. Пераглядзець праграму і скласьці навучальны плян, выходзячы з наяўнага часу навучальнага году ВСПШ.

12. Лічыць, што мэтад лябараторнай працы сябе поўнасьцю апраўдаў, што патрабуе далейшага правядзеньня яго ў працы школы.

13. З пачатку навучальнага году ўстанавіць нармальную работу прадметных камісій, прыцягваючы да іх работы, акрамя стараст, слухачоў, маючых здольнасьць да прапагандысцкай работы.

---

## Як працуе Бабруйскі АПА-Габінэт.

Габінэт займае ўсяго адзін пакой, тут зьмяшчаецца бібліотэка габінэту, і часам прымушаны тут-жа праводзіць індывідуальную кансультацыю. Гэтыя ўмовы, вядома, ня могуць не перашкаджаць разгортваньню нармальнай працы. Наступныя лічбы гавораць, што габінэт пры належных матэрыяльных умовах можа стаць сапраўднай лябараторыяй партыйнай агітацыі і прапаганды. Лік наведвацеляў за час з 16/IV—28 г. па 16/IV—1929 году—3343, да гэтых лічбаў трэба яшчэ дабавіць шмат таварышоў, якія, прыходзячы ў габінэт працаваць, не рэгіструюцца, і таварышоў, якія атрымліваюць матэрыялы і ўказаньні да даклада. У сярэднім (па ліку працоўных дзён) маем па 15 чал. у дзень. Па групах ячэек разьмяркоўваюцца наступным чынам: з вытворчых 1260, савецкіх 1125, вайсковых 660, студэнтаў і прафшкольскіх—298; па асобных формах вучобы: займаючыхся ў партшколах 253, саўпартшколе—236, вячэрніх школах рабочай

моладзі—353, прафшколах—278, займаючыхся самаадукацыяй і нідзе не займаючыхся—2068.

З гэтага агульнага ліку таварышоў, займалася на паасобных прадпрыемствах 1214, рэшта па пытаньнях бягучай політыкі. Кіраўніцтва габінэту самаадукацыяй выразілася ў наступным: спачатку году былі ўлічаны таварышы жадаючыя займацца самаадукацыяй, для іх габінэтам былі выпісаны заданьні па розных прадметах, устаноўлены дзяжурствы кансультантаў, праведзена конфэрэнцыя. Арганізована дапамога займаючымся на курсах партактыву, завочных камвузах і Гомельскай партшколе. Але ня гледзячы на створаныя ўмовы для абслугоўваньня займаючыхся самаадукацыяй з узятых на вучот 148 таварышоў устанавіла сувязь з габінэтам чалавек 40, а больш-менш стала займаецца 20 чалавек. Дзе прычыны таго, што рэшта таварышоў з 148 не займаюцца за выключэньнем некаторай часткі з гэтых таварышоў, якія ў працягу году ўліліся ў школы і гурткі. Частыя выезды на раёны, перагрузка штодзённай працай, але таксама трэба адзначыць, што ў часткі таварышоў існуе недаацэнка неабходнасьці павышэньня свайго тэорэтычнага ўзроўню. Партыйныя ячэйкі яшчэ да гэтага часу не ўдзяляюць належнае ўвагі самаадукацыйнай форме вучобы. За самаадукацыяй моцна клічка „самаабман“. Чамусьці замацаваныя дні вучобы для партсеці не распаўсюджваюцца на займаючыхся самаадукацыяй.

Сэмінар для прапагандыстых адзінай школы працаваў не рэгулярна. Вельмі цяжка было склікаць кіраўнікоў, галоўным чынам па прычыне іх вялікай нагрузкі іншымі партыйнымі абавязкамі акрамя кіраўніцтва школай, альбо гуртком, а часткова і дзякуючы пераацэнцы некаторымі кіраўнікамі сваіх тэорэтычных і мэтадычных ведаў. У гэтым годзе ўдалося наладзіць працу сэмінара кіраўнікоў дэлегацкіх сходаў. Сэмінару камсамольскіх школ нельга было арганізаваць, бо кіраўнікоў было ўсяго трое, дапамога праводзілася шляхам індывідуальных гутарак з кіраўнікамі. Для партсеці выпрацоўваліся пытаньні да заняткаў, а таксама кіраўнікі забясьпечваліся бюлетэнем АПАД ЦК КП(б)Б. У некаторых тэмах распрацоўваўся мясцовы матэрыял.

Арганізаваны сэмінар групавых агітатараў, дзе распрацоўваліся пытаньні чарговых задач партыі да кожнай кампаніі, праводзяцца групавыя кансультацыі і дакладчыкі забясьпечваюцца матэрыяламі, як агульнага зьместу, так і мясцовым. Па галоўным кампаніям робяцца вырэзкі з газэт, гэтыя вырэзкі канцэнтрыруюцца ў папках.

Арганізаваны АПА-куток на заводзе № 7. Таксама арганізаваны два АПА-Габінэты па раёнах, адзін у Жлобіне, і адзін у Слуцку.

Цеснай сувязі з пропагандыстымі раёнаў АПА-Габінэту яшчэ не ўдалося ўстанавіць, хаця дасылаліся мэтадычныя распрацоўкі для школ і гурткоў, але мэтадычнае кіраўніцтва кіраўнікамі яшчэ нельга прызнаць здавальняючым.

Перад АПА-Габінэтам стаіць задача рэорганізацыі ў Дом Партыйнае Асьветы. Прыведзеныя моманты працы гавораць, што гэта пытаньне жыцьцёвае, але ў нашых умовах пакуль цяжка правесьці (адсутнічае належнае памяшканьне). Організаваць АПА-Габінэты ў больш буйных раёнах і заводах. Правесьці ў жыцьцё пастанову Бюро ЦК. Зрабіць габінэт цэнтрам лябараторнай прапрацоўкі пытаньняў, кіраўніцтва партпрацай, падбору матэрыялаў і інструктаваньня ў гэтых пытаньнях раёнаў, першыя крокі ў гэтым напрамку зроблены, але трэба гэта поўнасьцю правесьці ў жыцьцё.

Б. М.

## Мэтад працы Барысаўскай ВСПШ.

Апошняя АПА-нарада пры ЦК КПБ паказала ўвесь разнабой у мэтадах выкладаньня ў нашых школах партсеці. Асабліва вялікі разнабой назіраецца ў працы вячэрніх саўпартшкол. Гэта выклікае неабходнасьць вывучэньня мэтадаў працы нашых вячэрніх саўпартшкол і скарыстаньня лепшых мэтадаў.

У вячэрняй саўпартшколе ёсьць 2 курсы. На першым выкладаецца гісторыя ЎсеКП, палітэканомія і бягучая палітыка, на другім—гістмат, ленінізм, эканамічная палітыка. Школа працавала 2 разы ў тыдзень па палітычных дысцыплінах. Дзеля агульна-адукацыйных прадметаў быў уведзен 3-ці дзень. Школа працавала па лябараторнаму мэтаду, які зводзіцца к наступнаму.

Слухачы першага курса атрымлівалі адначасова 2 заданьні, адно па гісторыі ЎсеКП, другое па палітэканоміі, па групах робіцца ўступная гутарка, хвілін на 10, пасьля чаго слухачы ідуць працаваць у лябараторыі. Кожны мае магчымасьць атрымаўшы абодва заданьні на 2 тыдні, на працягу гэтых 2-х тыдняў працаваць у лябораторыях па свайму ўласнаму выбару, скончыўшы працу па заданьню слухач мае кансультацыю з сваім кіраўнікам. Часьцей такія кансультацыі праводзяцца групамі у 3—5 чал.

На працягу працы ў лябораторыях слухач карыстаецца дапамогай кіраўніка або яго намесьніка. Пасьля прапрацоўкі заданьняў, праводзяцца групавыя канфэрэнцыі, дзе ўжываецца жывая гутарка. Другі курс атрымлівае 3 заданьні на 3 тыдні. Вучот наведваньня вядзецца не агульны, а па колькасьці часу прапрацаванага ў кожнай лябараторыі, кожны слухач, атрымліваючы заданьне, забясьпечан падручнікамі і дапаможнікамі.

У канцы году была дадзена адна пісьмовая праца, якая паказала даволі добрае разуменьне прапрацованага матар'ялу, праграму сваю школа скончыла поўнасьцю.

Нарэшце я лічу мэтазгодным, склікаць усебеларускую нараду вячэрніх Саўпартшкол, дзе можна было-б улічыць практыку месц. Гэтым артыкулам, я заклікаю выказацца на старонках часопісі „У дапамогу партвучобе“ аб мэтадах працы Менскай, Гомельскай, Бабруйскай і Віцебскай Саўпартшкол.

**Сярэбраны.**

---

## Рэзалюцыі ўсебеларускай агітпропнарады зацьверджаныя сакратарыятам ЦК КП(б)Б ад 29-V—1929 г.

### Рэзалюцыя па дакладу т. Стасевіча аб становішчы і чарговых задачах агітацыйна-масавай працы.

1. Агітацыйна-масавая праца ў сучасных умовах зьяўляецца адным з важнейшых сродкаў па арганізацыі шырокіх пролетарскіх колаў і працоўных мас у агуле навакол яскравай ленінскай лініі ў справе індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня вёскі і наогул узьняцьця вытворчых сіл сельскае гаспадаркі, у справе арганізацыі партмас для барацьбы супроць усялякіх хістаньняў і ўхілаў і асабліва правага ўхілу і прымірэнчаства і канкрэтных праяў і насіцелей гэтых ухілаў, для далейшага, больш рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, барацьбы з бюрократызмам, за палепшаньне савецкага апарату і шырокае прыцягненьне лепшых перадавых рабочых у шэрагі партыі.

„Ва ўмовах перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі політычная агітацыя павінна мобілізаваць шырокія колы рабочае клясы для актыўнага і сумленнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, накіраваць энергію мас на перамогу цяжкасьцяй гэтага будаўніцтва, яна павінна разьвіваць рэволюцыйную бдзіцельнасьць пролетарыяту, навучыць разумець асобыя формы клясавай барацьбы пераходнага пэрыяду ў іх канкрэтным праяўленьні, паказаць аблічча клясавага ворагу, навучыць змагацца з непролетарскім уплывам, маючымся сярод самае рабочае клясы. Канкрэтныя дробныя падчас пытаньні адносін да працы і вытворчасьці неабходна падымаць на політычную вышыню, на жывых злабадненўных фактах з жыцьця данага прадпрыемства, адносін рабочых да сваіх абавязкаў, посьпехах і недахопах вытворчасьці выхоўваць клясавую сьвядомасьць рабочых, давая адпор праявам групавых і цэхавых інтарэсаў асобных груп рабочых, асабліва паважнай задачай агітацыі становіцца шырокі абхват сваім уплывам новых колаў рабочых, прыносячых з сабой на соцыялістычныя прадпрыемствы навыкі і погляды дробна-буржуаз-

нага сялянскага асяродзьдзя“ (з пастановы ЦК ВКП(б) аб агітацыі сярод рабочых).

Ва ўмовах БССР асаблівае значэньне набывае справа організацыі пролетарскіх мас для барацьбы за ленінскую лінію на ідэолёгічным фронце, чым узмацняюцца позыцыі пролетарыяту на фронце культурнага будаўніцтва і правядзеньне нацыянальнай політыкі.

Паміж тым, ня гледзячы на тое, што за апошнія два гады партыя дабілася некаторых посьпехаў у выкананьні пастаноў Пленумаў ЦК КП(б)Б (сакавік 1928 г.) аб масавай працы, маецца колькаснае і якаснае палепшаньне гэтае працы, але-ж усё такі агітацыйна-масавая праца яшчэ і да гэтага часу зьяўляецца найбольш слабым вучасткам партыйнае працы: ня мае патрэбнае ўвязкі з чарговымі задачамі социялістычнага будаўніцтва, пры наяўнасьці вялікага спазьненьня ў растлумачэньні гэтых задач, і слаба прыстасавана да ўмоў працы рабочых (вытворча-бытавых і нацыянальных асаблівасьцяй), а таму недастаткова здавальняе ўзросшыя палітычна-культурныя запатрабаваньні.

Яшчэ да гэтага часу мае мейсца адсутнасьць пляну вытворчай агітацыі на прадпрыемствах, слабая концэнтрацыя сіл і ўвагі ўсіх грамадзкіх організацый навакол канкрэтных мерапрыемстваў социялістычнага будаўніцтва з прыстасаваньнем усёй растлумачальнай працы да мясцовых умоў, слабая популярызацыя асобных дасягненьняў (рэжым эканоміі, рацыяналізацыя вытворчасьці, падняцьцё працоўнай дысцыпліны, вынаходзтва і інш.) па асобным прадпрыемствам, адсутнасьць масава-тэхнічнай літаратуры і зусім недастатковае скарыстаньне тэхнічных сіл і ініцыятывы рабочых. Усё гэта не дае належнага вытворчага эфэкту і патрэбных вынікаў на прадпрыдмствах.

Найбольш слабым зьвяном агітацыйна-масавай працы зьяўляецца індывідуальна-групавая агітацыя на прадпрыемствах. Гэтая праца праводзіцца без сталага сыстэматычнага кіраўніцтва з боку парт‘ячэек і кіруючага партворгана. Кадры агітатараў падбіраюцца выпадкова, бяз вучоту партыйна-дзелавой якасьці і часамі недастаткова аўтарытэтны на прадпрыемствах, адсутнічае сыстэматычная праца па падняцьцю тэорытычнага ўзроўню агітатараў, адсюль няма належнага пералому ў палепшаньні зьместу індывідуальна-групавой агітацыі згодна пастаноў сакавіковага пленуму ЦК КП(б)Б.

Ня гледзячы на некаторае пашырэньне клюбнае сеці, большы абхоп рабочых ёю, некаторае палепшаньне зьместу гэтае працы, аднак і да гэтага часу яшчэ маецца несуадпаведнасьць паміж узростам патрэбнасьці і разгортваньня клюбнай сеткі (мала ўцягнуты ў клюбную працу дарослыя рабочыя, памяшканьне не прыстасована да клюбнае працы, няма належнае ўвязкі з чарговымі гаспадарчымі і політычнымі

мерапрыемствамі партыі, слабы падбор клюбных працаўнікоў, малая сетка чырвоных куткоў і невыстарчальнае скарыстаньне імі форм і мэтадаў клюбнае працы, непрыстасаваньне да зьменнага абслугоўваньня рабочых, слабае ўнядрэньне нацмомантаў, захапленьне паказнасьцю без належнага прыстасаваньня усей працы да палітычнага выхаваньня мас).

Праведзеная праца па пашырэньню агра-коопэрацыйнай прапаганды ў вёсцы: популярызацыя закону аб аграмерапрыемствах, камсамольскі паход за падвойны ўраджай, конфэрэнцыя актыву, прыняцьце аграмінімуму, усебеларускі конкурс на лепшы сельска-гаспадарчы раён, організацыя інстытуту аграўпаўнаважаных і сельска-гаспадарчых саветаў пры Райвыканкомах не атрымала належнага замацаваньня з боку нізавых партыйных ячэек: няма ўвязкі ў правядзеньні гэтай працы з чарговымі задачамі партыі па перабудове сельскае гаспадаркі і недастатковы вучот мясцовых асаблівасьцяй, слабае выкарыстаньне асобных прыкладаў, няма ўвязкі паміж організацыямі праводзячымі гэтую працу, маюць месца спробы пралязаньня ў якасьці аграўпаўнаважаных кулакоў і былых людзей, з мэтай зрыву грунтоўных мерапрыемстваў партыі і савецкае ўлады па перабудове сельскай гаспадаркі.

Хаты-чытальні і нардамы і да гэтага часу не зьяўляюцца яшчэ грунтоўнымі культурнымі асяродкамі навокал якіх павінна аб'яднацца ўся культурна-масавая праца на вёсцы і груціравацца культурныя сілы, якія працуюць у вёсцы. Маецца недаацэнка ролі хаты-чытальні з боку нізавых партыйных організацый, ня выяўлен і не скарыстоўваецца беспартыйны актыў, слаба прыстасавана работа да абслугоўваньня батрацтва, беднаты, ня выжыта цякучасьць пры ўсё яшчэ недастатковай кваліфікаванасьці загадчыкаў хат-чытален, адсутнічаюць сродкі на непасрэдную працу хаты-чытальні, слаба забясьпечаны масава-папулярнай літаратурнай бібліотэкі, няма кіраўніцтва з боку хат-чытален чырвонымі куткамі, а самае галоўнае—адсутнасьць належнае ўвагі і праламленьня ў працы праводзімых гаспадарча-палітычных і культурных мерапрыемстваў партыі на вёсцы і амаль што поўная адсутнасьць кіраўніцтва працай хат-чытален з боку акруговых і раённых інструктароў палітасьветы і НКА, а таксама нізавых парт'ячэек.

Пашыралася праца па ліквідацыі няпісьменнасьці і павялічыўся абхоп ёю няпісьменных, але справа ліквідацыі няпісьменнасьці і зараз зьяўляецца першачарговай задачай партыі, бо няпісьменнасьць на Беларусі большая, чымся ў іншых рэспубліках. Яшчэ маецца вялікая раскіданасьць організацый, якія праводзяць гэтую працу (ЦСПСБ, ТПН і Наркамасьветы) пры недастатковай увазе да ліквідацыі няпісьменнасьці з боку коопэрацыі: адсутнічае сталая праца з малапісьменнымі,

у зьвязку з чым атрымоўваецца значны рэцыдыў няпісьменнасьці і нездавальняючы соцыяльны склад слухачоў.

Пашыралася масавае абслугоўваньне друкам шырокіх колаў працоўных: за апошні год тыраж цэнтральных і акруговых газэт узрос больш чым у два разы, значна ўзрасла колькасьць насьценгазэт, амаль што ўсе буйныя прадпрыемствы маюць шмат-тыражныя друкаваныя газэты, павялічылася армія рабселькораў (толькі адны цэнтральныя газэты аб'яднаюць 13 тысяч рабселькораў), аднак усё яшчэ слабая работа з імі, дрэнна пастаўлена кіраўніцтва насьценгазэтамі, слабая ўвага шматтыражным вытворчым газэтам, налічча няўважлівых адносін да іх з боку асобных парторганізацый (зачыненьне ўсіх шмат-тыражных газэт у Гомелі), вялікая каштоўнасьць і недастатковая колькасьць масава-папулярнай літаратуры выданьня БДВ пры наяўнасьці часам ідэолёгічных скажэньняў.

Значнае пашырэньне кіно-сеткі і далейшы рост яе, пасьпяховае разьвіцьцё савецкае кіно-вытворчасьці ўтварае магчымасьць шырока выкарыстоўваць кіносправу, як магутны фактар агітацыйна-масавай працы. Адначасова яшчэ слабае кіраўніцтва кіно-справай з боку мясцовых, партыйных і савецкіх органаў, комерцыйны ўхіл кінопрацы ў большасьці клюбаў і раёнаў, кіно ў рабочых клюбах часта замяняе ўсю культурна-масавую працу. Нездавальняючы зьмест кіно-фільм, слабая папулярызацыя пляну кінофікацыі, слаба выкарыстоўваюцца кіно-перасоўкі праз прасоўваньне іх у глухія куткі Беларусі.

Побач з пашырэньнем радыёфікацыі гораду і вёскі наглядаецца нізкая якасьць радыё-перадач, неорганізаванасьць радыё-слухачоў і слабае задавальненьне радыё-апаратурай асабліва праз сетку коопэрацыі на вёсцы.

Больш арганізавана праводзіцца абслугоўваньне працоўных дзяржаўнымі тэатрамі з адначасовым паляпшэньнем ідэёвага зьместу рэпэртуару, тэатру, але профорганізацыямі тэатры не выкарыстоўваюцца для паглыбленьня культурна-масавае працы.

Рост організацыі ТСА-Авіяхіму, павялічэньне колькасьці ячэек і сяброў, пры няўважлівых адносінах да гэтае працы з боку проф. і партарганізацый, слабае ўцягненьне жанчыны і моладзі і недастатковасьць належных кадраў актыву. Няма ўвязкі працы ТСА-Авіяхіму, працай па хэмізацыі сельскае гаспадаркі і разьвіцьцю хэмічнай прамысловасьці, не скарыстоўваюцца належным чынам малодшы камсклад і дэмабілізаваныя чырвонаармейцы.

1. У пытаньні вытворчае агітацыі на прадпрыемстве галоўнае месца павінна заняць справа папулярызацыі пяцігодкі разьвіцьця народнае гаспадаркі ў разрэзе канкрэтнага прэламленьня яе ва ўмовах данага прадпрыемства, а так-

сама ліквідацыя тэхнічнай няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, якая павінна зьяўляцца аднэй з галоўных задач масавае працы на прадпрыемствах, праз вывучэньне навейшых дасягненьняў тэхнікі, арганізацыю гурткоў „тэхніка ў масы“, скарыстоўвая дзеля гэтае працы старых, вопытных і прыкладных рабочых і спэцыялістых. Падняцьцё вытворчай дысцыпліны, рацыяналізацыя вытворчасьці праз складаньне грамадзка-адмоўнай думкі навокал канкрэтных насіцелей зла (прагульшчыкаў, п'яніц і інш.) шырока папулярызуя асобныя канкрэтныя дасягненьні ў гэтай галіне і заахвочвая ўсялякія пачынаньні па разьвіцьцю вынаходзтва, як сярод рабочых, так і тэхнічнага пэрсаналу.

2. Аднэй з лепшых форм масавае працы зьяўляецца соцыялістычнае спаборніцтва, якое знайшло вялікае падтрыманьне сярод шырокіх працоўных мас Беларусі. Аднак, гэтая праца яшчэ часта носіць характар парадняасьці, а іншы раз казённых і няўважлівых адносін да гэтай справы з боку асобных гаспадарнікаў і прафэсыяналістых, слабае прыцягненьне ў гэтую працу культурна-тэхнічных сіл пры слабым вытворчым эфэкце. Недастатковае яшчэ скарыстаньне ініцыятывы і самадзейнасьці шырокіх колаў рабочых. Для прэадаленьня цяжкасьцей соцыялістычнага будаўніцтва, далейшага разгортваньня наступленьня на капіталістычныя элемэнты, выкананьня пяцігадовага пляну, неабходна шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, праводзячы яго на заводах, фабрыках чыгунках, саўгасах, калгасах, школах і інш. установах і організацыях. Паміж асобнымі раёнамі, цэхамі, майстэрнямі, асобнымі рабочымі. „Соцыялістычнае спаборніцтва павінна быць накіравана ў напрамку барацьбы—за зьніжэньне сабекошту, за падняцьцё вытворчасьці працы, за палепшаньне працоўнай дысцыпліны, за пашырэньне пасеўнай плошчы, за падняцьцё ўраджайнасьці, за ўцягненьне сялянства ў калгасы і коопэрацыю, за спрашчэньне дзяржапарату і замацаваньне сувязі з працоўнымі, за палепшаньне культурна-бытавых устаноў, абслугоўваючых працоўныя масы“ (з адозвы Ўсесаюзнай партконфэрэнцыі). Парт. і проф. арганізацыі павінны строга сачыць і складаць належныя ўмовы да поўнага выкананьня рабочымі ўзятых абавязкаў у час спаборніцтва, больш шырока ўцягваючы ў яго культурна-тэхнічныя сілы гораду і вёскі, шырока высьвятляючы ход спаборніцтва ў друку і вынікаў па асобным прадпрыемствам з гэтым самым падымая яшчэ большы інтарэс рабочых.

3. Асяродкам для правядзеньня ўсяе агітацыйна-масавае працы на прадпрыемствах павінен зьявіцца цэх з прыстасаваньнем да асаблівасьцей розных груп рабочых (новыя рабочыя, моладзь, жанчыны), да ўмоў прадпрыемства (сэзоньнікі, зьмены, паравозьнікі) і правільнага скарыстаньня вольнага

часу з мэтаю разумнага адпачынку. Прыдаць асаблівую ўвагу разгортваньню ўпаўне апраўдаўшых сябе форм агітацыйна-масавай працы на прадпрыемствах, індывідуальна-групавой агітатацыі, для чаго неабходна палепшыць партыйна-дзелавую якасьць агітатараў, падымая іх тэорэтычны ўзровень праз сыстэматычнае і сталае кіраўніцтва імі з боку партыйных ячэек, праз організацыю пры больш буйных колектывах і райкомах агітколектываў, забясьпечыўшы іх мэтадычна-ідэёвым кіраўніцтвам, не дапускаючы ні ў якім разе перагрузкі агітатараў і забясьпечвая іх літаратурай і матар'яламі па бягучым пытаньням партыйнае палітыкі.

4. Разам з правядзеньнем новага клюбнага будаўніцтва, прыдаць асаблівае значэньне справе стварэньня ўюту і добрага абсталяваньня ўжо існуючых клюбаў з мэтай павялічэньня колькасьці дарослых рабочых і іх утрыманцаў; катэгарычна напомніць усім гаспадарчым органам і жактам аб выкананьні дырэктывы ЦК КП(б)Б, каб пры пабудове новых фабрык, заводаў і новых пасёлкаў абавязкова ўлічвалася неабходнасьць будаўніцтва новых клюбаў і чырвоных куткоў. У зьмесьце клюбнае працы галоўнай задачай паставіць: барацьбу за якасьць, выжываньне халтуршчыны, разьвіцьцё ініцыятывы і самадзейнасьці сяброў клюбу, з больш рашучым унясеньнем ва ўсю клюбную працу элемэнтаў палітычнага выхаваньня, выцякаючых з чарговых задач партыі.

5. Улічваючы слабую пастаноўку і непрыстасаванасьць агітацыйна-масавае працы сярод рабочых, якія жывуць у вясковых мясцовасьцях, і адсутнасьць якой-бы то ні была работы сярод новых рабочых. Акругкомам і райкомам разгарнуць гэтую працу ў напрамку ўзмацненьня клясавай сьвядомасьці гэтых рабочых праз шырокае ўцягненьне і ва ўсю палітычна-выхаваўчую работу, організуючы ў гэтых мясцовасьцях сець чырвоных куткоў—аддзяленьні клюбаў, прыцягвая да гэтае працы адказных парт. і проф. працаўнікоў.

6. Устанавіць скліканьне (1—2 разы ў месяц) мітынгаў на прадпрыемствах па канкрэтным пытаньням (у буйных прадпрыемствах па цэхах).

7. Шырока прыцягваць кіруючых работнікаў парторганізацый да сыстэматычнага ўдзелу ў масавай агітацыі (выступленьне на мітынгах, правядзеньне вечароў пытаньняў і адказаў, гутарак у цэху, у клюбах, казармах, інтэрнатах, рабочых пасёлках, у вёсцы з конпактнымі масамі жывучых там рабочых); гэтыя выступленьні адказных партыйных працаўнікоў лічыць важнейшымі і першачарговымі партыйнымі заданьнямі.

8. Прапанаваць мясцовым партыйным організацыям устанавіць адзін раз у тыдзень дзень для масавых рабочых

сходаў (мітынгі, вечары пытаньняў і адказаў у клубах і г. д.) з удзелам у іх кіруючых партпрацаўнікоў.

9. Агранамічна-коопэрацыйная прапаганда у вёсцы павінна групавацца навокал пытаньняў організацыі мас да справы колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня, пашырэньня агранамічных ведаў сярод усяго насельніцтва і асабліва калгасьнікаў, пашырэньне пасеўнага кліну, падняцьцё ўраджайнасьці праз ужываньне, ўсімі гаспадаркамі прасьцейшых культурных аграмерапрыемстваў і выкарыстоўваньня мясцовых рэсурсаў і магчымасьцяй (торф, адбросы і інш.). Уся грамадзкая масавая, праца на вёсцы павінна быць насычана пытаньнямі вытворчага коопэраваньня і масавых агра-культурных мэрапрыемстваў. Даручыць Белдзяржвыдавецтву і Наркамзему ў бліжэйшы час выдаць папулярна-масавую аграграмату, у якой даць канкрэтны матар'ял дзеля шырокіх колаў працоўнага сялянства з растлумачэньнем бліжэйшых задач партыі па перабудове сельскае гаспадаркі. Усю агра-коопэрацыйную працу праводзіць гнездавым мэтадам (калгас, пасёлак), шырока выкарысоўвая для агракоопэрацыйнай прапаганды ўсе курсы перападрыхтоўкі (настаўнікаў, палітасьветпрацаўнікоў і інш.), пашыраючы сетку і павялічваючы колькасьць і час заняткаў склікаемых сялянскіх курсаў па БССР. Для большага кіраўніцтва ўсёй агра-прапагандай, пры АПА АК скласьці практыкова-пэрыядычнае скліканьне нарад па агра-коопэрацыйнай прапаганды, а ў раёнах усю гэтую працу канцэнтраваць навакол райпалітасьветкомаў. Забясьпечыць гэтую працу неабходнымі сродкамі як па мясцоваму, так і па дзяржаўнаму каштарысу.

10. Ва ўсёй сыстэме агітацыйна масавае працы асаблівае месца павінна быць аддадзена справе інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных мас і рашучае барацьбы з праявамі нацыянал-дэмакратызму і асабліва антысэмітызму, а таксама рашучаму змаганьню з фактамі замазываньня клясавае лініі, асабліва на вёсцы. Усё гэтае патрабуе лепшай пастаноўкі працы Мопраўскіх організацый, большага ўнядрэньня беларусізацыі і прыстасаваньня ўсяе агітацыйна-масавае працы да асобных нацыянальных груп на прадпрыемстве альбо вёсцы.

11. Выкананьне задач ліквідацыі няпісьменнасьці і ўсеагульнага абавязковага навучаньня дзяцей будзе вырашана „калі ў барацьбу за пісьменнасьць будуць уцягнуты шырокія масы, калі гэтая задача будзе не задачей выключна Наркамасьветы, тут патрэбен сапраўды масавы культурны паход“ (з дакладу т. Гамарніка—на XII зьезьдзе КП(б)Б. Усё гэта патрабуе ад усіх арганізацый форсіраванага тэмпу ліквідацыі няпісьменнасьці, прыцягненьне ініцыятывы і сродкаў самага насельніцтва, палепшаньня працы таварыства „Прэч няпісьменнасьць“, надаючы ў працы апошняга канкрэтны зьмест, практыкуючы

мэтад канкрэтных заданьняў (ліквідаваць няпісьменнасьць 5—10—15 чалавек у залежнасьці ад моцнасьці ячэйкі). Даручыць АПА разглядзець пытаньне аб патрэбнасьці канцэнтрацыі ўсяго мэтадычнага кіраўніцтва па ліквідацыі няпісьменнасьці выключна ў органах Наркамасьветы, з сродкаў у т-ве „Прэч няпісьменасьць“, праз заключэньне паміж арганізацыямі і т-вам належных умоў, што адначасна ня здымае адказнасьці за ліквідацыю няпісьменнасьці з іншых арганізацый. Унесьці ў практыку аплату ліквідатарам за кожнага ліквідаваўшага няпісьменнасьць. Разам з гэтым пашырыць арганізацыю школ для малапісьменных. Культурны паход камсамолу павінен стаць культурным паходам усіх арганізацый і мець асноўнай задачай—ліквідацыю няпісьменнасьці. У вёсцы зьвярнуць асаблівую ўвагу на соцыяльны склад слухачоў лікпунктаў і гурткоў з мэтай большага абхопу ў першую чаргу батрацтва, саўгаскіх рабочых, сялян калгасьнікаў і беднякоў. Шырока выкарыстаць Саратаўскі вопыт ліквідацыі няпісьменнасьці, паставіўшы сваёй задачай ліквідацыю няпісьменнасьці на працягу бліжэйшага навучальнага году ў акруговых гарадох і рабочых асяродках.

12. Хаты-чытальні, нардамы павінны зьяўляцца асноўным асяродкам культурна-масавае працы на вёсцы, навокал якіх павінна аб'ядняцца ўсе культурыя сілы і беспартыйны сялянскі актыў. Катэгарычна забараніць парторганізацыям праводзіць перакідку хатнікаў. На працягу бліжэйшых двух гадоў прапусьціць усіх загадчыкаў хат-чытальняў праз курсы і палітасьветны тэхнікум. З будучага бюджэтнага году прадугледзець павялічэньне асыгнаваньняў на забясьпечаньне хат-чытален літаратурай і папаўненьне бібліотэк кнігамі. Узмацніць кіраўніцтва хатамі-чытальнямі з боку партыйных органаў Наркамасьветы і інструктароў палітасьветы ў акругах і раёнах, а з боку хат-чытален кіраўніцтва над чырвонымі куткамі, пашыраючы іх сетку.

13. Зьвярнуць асаблівую ўвагу нізавых парт. і проф. арганізацый на палепшаньне кіраўніцтва насьценгазэтамі, шматтыражнымі газэтамі, рабселькораўскім рухам і далейшага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі, што будзе садзейнічаць агульнаму палепшаньню ўсяе агітацыйна-масавай працы. Аднаčасова неабходна ўзяць рашучы курс на падвышэньне распаўсюджваньня газэт „Правда“, і „Зьвязда“, як асноўных кіруючых ворганаў УсеКП(б) і КП(б)Б, на сталую дапамогу кнігагандлюючым організацыям па распаўсюджваньню кнігі ў шырокія колы працоўных. Павялічыць выданьне Белдзяржвыдавецтвам масава-популярнай літаратуры, асабліва с.-г. літаратуры. Шырэй скарыстаць друк у мэтах высьвятленьня вопыту масавае працы на старонках друку ў прыватнасьці больш скарыстаць у гэтым годзе выдаваемы журнал „У дапамогу партвучобе“.

14. Больш мэтазгодна выкарыстоўваць тэатр як сродак культурна-масавага выхаваньня працоўных, колектыўнае наведваньне тэатраў, організацыі дыспутаў, судоў, наконт асобных яго пастановак. Наркамасьветы рашуча дамагацца палепшаньня ідэёвага зьместу рэпэртуару тэатраў.

15. Далейшае пашырэньне радыёфікацыі павінна ісьці ў напрамку выкананьня пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б.

16. У галіне вайсковай прапаганды і падрыхтоўкі насельніцтва да абароны краіны неабходна палепшыць кіраўніцтва працай ТСА-Авіахіму з боку парторганізацый, узмацніўшы кіруючы склад гэтых організацый стала падрыхтаванымі партыйцамі. Сыстэматычна праверая выкананьне дырэктыў партыі з боку ўсіх організацый па пытаньню організацыі абароны краіны, увязаць усю працу ТСА-Авіахіму з праводзімымі мерапрыемствамі па хэмізацыі сельскае гаспадаркі і разьвіцьцём хэмічнай прамысловасьці, шырэй уцягвая ў працу ячэек ТСА-Авіахіму дэмабілізаваны комсклад і чырвонаармейцаў, павялічыць асьвятленьне пытаньняў вайсковае небясьпекі і практычнай працы па абароне краіны ў друку і забясьпячэньне бібліотэк вайсковай політычнай і мастацкай літаратурай. Паскорыць тэмп ваенізацыі школ і навучальна-палітасьветных установ. Прапанаваць НКАсьветы перагледзець усе праграмы школ у мэтах пасіленьня ваенізацыі.

17. Работа кіно павінна праводзіцца сыстэматычна па пэўнаму пляну, увязана з задачамі ўсяе агітацыйна-масавае працы. Усю кіно-працу, галоўным чынам, у рабочым клюбе і на вёсцы трэба прыстасаваць да чарговых задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Мясцовыя партыйныя і савецкія органы павінны ўзмацніць свой удзел у справе кінофікацыі гораду і вёскі на падставе пяцігадовага пляну кінофікацыі БССР. Шырэй популярызаваць сярод працоўных мас пяцігодку кінофікації БССР. Зьвярнуць асаблівую ўвагу Белгоскіно на палепшаньне ідэолёгічнага зьместу кінофільм.

18. Палепшаньне масавай працы саветаў у выніку перавыбарнай кампаніі зможа быць замацаваным і пашыраным толькі пры ўмове ўзмацненьня ўвагі да гэтай працы ўсёй КП(б)Б, большага разгортваньня агітацыйна-масавай працы навакол саветаў і больш рашучае ўцягненьне ў працу саветаў і сэкцый рабочых, батракоў, сялян-калгасьнікаў і беднякоў.

19. Шэфпрацу над вёскай накіраваць у напрамку „ўзмацненьня абшчэньня пралетарыяту гораду і вёскі, як мэтад узмацненьня кіруючай ролі рабочае клясы ў краіне“ (пастанова XVI усесаюзнай конфэрэнцыі па дакладу т. Калініна). З гэтай мэтай неабходна ажывіць шэфтаварыства праз складаньне добраахвотных аб'яднаньняў (проф. фаб. зав. організацыі) дзеля сыстэматычнай дапамогі вёсцы ў яе коопэра-

цыйна-соцыялістычным разьвіцьці, пашыраючы організацыю рабочых таварыстваў па садзейнічаньню колектывізацыі вёскі і падвышэньню ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі.

Рабочыя брыгады, організацыя якіх ужо мае некаторы вопыт на Беларусі, павінны зьявіцца аднэй з форм сувязі рабочае клясы з сялянствам і замацаваньня кіруючай ролі рабочае клясы ў вёсцы.

20. Пашырыць організацыю і работу таварыства „Барацьбы з алкагалізмам", набліжаючы працу яго непасрэдна да асобных прадпрыемстваў і вёсак. Там, дзе такія таварыствы яшчэ не арганізаваны, арганізаваць іх правёўшы належную растлумачальную работу і аформіўшы іх да восені 1929 г.

21. Падрыхтавацца да распачатку работы жаночых дэлегацкіх сходаў з мэтай большага ўцягненьня ў іх батрачак, сялянак, калгасьніц і беднячак, узмацняючы кіраўніцтва імі з боку нізавых партыйных ячэек, пераглядзеўшы зьмест програмы апошніх з мэтай увязкі іх з чарговымі задачамі партыі і большага скарыстаньня мясцовых матар'ялаў з прыцягненьнем дэлегатак да практычнага ўдзелу ў справе соцыялістычнага спаборніцтва, колектывізацыі вёскі і г. д.

22. Зьвярнуць увагу належных організацый на павялічэньне ў каштарысах сродкаў адпускаемых на агітацыйна-масавую працу, дабіваючыся каб рост гэтых сродкаў ішоў разам з ростам усяго каштарысу.

Адзначаючы амаль што поўную адсутнасьць масавае працы ў калгасах і савгасах і, улічываючы неабходнасьць мабілізацыі ўсіх сіл і сродак розныя організацый навокал работы ў калгасах і саўгасах, каб апошнія сапраўды зьяўляліся культурнымі асяродкамі вёскі, даручыць АПАД разам з вясковым аддзелам вывучыць і распрацаваць пытаньне аб разгортваньні і палепшаньні агітацыйна-масавай працы ў калгасах і саўгасах.

### Рэзалюцыя па дакладу „Становішча і задачы партасьветы".

1. Канец навучальнага году мы сустракаем пры далейшым росьце тэорытычнага ўзроўню ўсёй партыі і ў прыватнасьці, пры значна ўзросшай марксыцка-ленінскай падрыхтоўцы і актыўнасьці ўсёй КП(б)Б. Дзякуючы гэтаму тэорэтычнаму ўзросту партыя стала лепш орыентыравацца ў правільнай ленінскай лініі, ва ўсіх ухілах ад гэтае лініі, стала яшчэ больш адзінай і згуртаванай, здолела даць такі рашучы адпор ухілу і прымірэнцтву да яго, як і раней трацкізму.

Гэтаму тэорытычнаму ўзросту партыі, а тым самым барацьба за ідэолёгічную вытрыманасьць і ленінскае адзінства яе, ня мала садзейнічала і партвучоба.

2. Партыя стаіць у сучасны момант перад вырашэньнем цэлага шэрагу складанейшых задач — задача ўзмоцненьня тэмпу індустрыялізацыі краіны, індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, наступленьне на капіталістычныя элемэнты нашае гаспадаркі на кулакоў і нэпманаў, узьняцьце ўраджайнасьці, задачы культурнай рэвалюцыі. Гэтыя задачы прыходзіцца вырашаць пры ўзросшай ваеннай небясьпецы і пры абвостранай клясавай барацьбе, асабліва на вёсцы. У гэтых умовах асабліва небясьпечным становіцца правы ўхіл і прымірэнцтва да яго.

Гэтыя задачы вымагаюць ад кожнага партыйца яшчэ большай тэорэтычнай марксыцка-ленінскай выучкі, большай падрыхтоўкі да практычнага выкананьня гэтых складаных задач.

3. Ня гледзячы на цэлы шэраг дасягненьняў у гэтым напрамку, трэба канстатаваць, што наша партвучоба яшчэ ня ідзе ў нагу з задачамі партыі і запатрабаваньнямі асобных партыйцаў. Партвучоба недастаткова ўвязана з практычнымі задачамі партыі, недастаткова дапамагае партыі ў вырашэньні практычных задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Ня мала ў нашай партвучобе яшчэ ідэолёгічных скажэньняў, упрашчэнства, якасьць партвучобы недастатковая на вёсцы.

4. Дабраахвотнасьць партвучобы сябе апраўдала. Першапачатковае камплектаваньне партсеці дало значнае павялічэньне колькасьці займаючыхся параўнальна з мінулым годам. Пры некаторым павялічэньні агульнага ліку партыйцаў ў сеці партасьветы (усяго на 7%), мы маем значнае павялічэньне ліку беспартыйных і камсамольцаў,—амаль што на 63%. Аднак, трэба канстатаваць, што % партыйцаў у сеці партасьветы ў параўнаньні да ўсёй партарганізацыі паменшыўся. З боку парторганізацый ня было належнай увагі да вярбоўкі рабочых, с.-г. рабочых і батракоў у сець партвучобы. З боку парторганізацыі наогул ня зьвернута належнай увагі папулярызацыі вучобы і камплектаваньню партсеці.

Разам з гэтым адзначыць, што ў правядзеньні добраахвотнасьці мелі мейсца цэлы шэраг скажэньняў; ня толькі нізавыя кіруючыя парторганы, але і раённыя і нават некаторыя акруговыя не ўявілі сабе цалком прынцыпаў добраахвотнасьці партвучобы. Добраахвотнасьць партвучобы з аднаго боку зразумела, як добраахвотны выбар форм вучобы, а ня поўная добраахвотнасьць вучобы. З другога боку камплектаваньне сеці праходзіла зусім стыхійна, ня ўлічвалася важнасьць партвучобы, як моцнага фактару ўзьняцьця тэорэтычнага ўзроўню партыі і ролі і значэньня партвучобы, у падрыхтоўцы партыйцаў да выкананьня бягучых практычных задач. Ня ўлічвалася падрыхтоўка асобных

партыйцаў, іх запатрабаваньні ўмовы працы. Уся работа па камплектаваньні праходзіла без усякага ўдзелу прапагандыстых, што бязумоўна дрэнна адбілася на камплектаваньні. Мелі мейсца факты прымусу, аўтаматычнага сьпісачнага залічэньня ў школы і гурткі. У тым ліку і тых, якія па 2-3 гады наведвалі ўжо тую-ж самую школу палітграматы. Усе гэтыя памылкі камплектаваньня ў далейшай працы школ зьявіліся важнейшымі прычынамі адсеву.

5. Значна большае мейсца ў сыстэме партасьветы занялі сярэднія ступені, у горадзе ўзрасла колькасьць вечпартшкол, асабліва з 2-х гадовым курсам, у першыню арганізаваны совпартшколы ў большасьці вясковых раёнаў, разьвілося далей і пашыралася завочнае навучаньне. Адчыніліся завочныя курсы партактыву, пачалася завочная падрыхтоўка да Камунівэрсытэту, палепшылася работа Ўсебеларускай завочнай савпартшколы. Аднак трэба канстатаваць, што да гэтага часу ўстановы завочнага навучаньня яшчэ ня наладзілі добраякаснага своечасовага кіраўніцтва, з боку-ж партарганізацый ня было праяўлена выстарчальнай ўвагі разгортваньню гэтых форм вучобы і не забясьпечаны адпаведныя ўмовы для вучобы залічаных.

Недастатковае разьвіцьцё прадметных гурткоў, асабліва па самаадукацыі, слабае распаўсюджваньне гурткоў бягучай палітыкі і амаль што поўная адсутнасьць эпізодычных гурткоў, гурткоў па вывучэньню асобных праблем і г. д. у значнай ступені тлумачыцца недастатковым мэтадычным абслугоўваньнем, адсутнасьцю належнай добраякаснай своечасовай консультацыі і рэцэнзаваньня, скліканьня конфэрэнцый займаючыхся. Ня мала таксама перашкаджала гэтай рабоце адсутнасьць дастатковай матар'яльнай базы: малы лік платных кансультантаў—рэцэнзентаў, нязначная аплата і бесплатная работа рэцэнзентаў.

6. АПА габінэты ў акругах за апошні год лепш сталі абслугоўваць партасьветы (дзе ні дзе падбор і спробы апрацоўкі мясцовага матар'ялу, кансультацыі і г. д.), усё-ж яны да гэтага часу яшчэ не зьяўляюцца цэнтрам прапрацоўкі мэтадычных пытаньняў, належнай апрацоўкі неабходных для вучобы матар'ялаў, асабліва матар'ялаў па гаспадарчаму, культурнаму, партыйнаму, савецкаму, прафэсыяльнаму будаўніцтву данай мясцовасьці.

7. Адзначаючы значны рост нашых прапагандысцкіх кадраў (каля 95%) трэба прызнаць усё яшчэ слабую тэорэтычную і мэтадычную падрыхтоўку пераважнай большасьці прапагандыстых і адсутнасьць плянавай работы па падвышэньню іх кваліфікацыі ў працэсе працы. Толькі каля 30% скончылі савпартшколы, каля 8—9% Камвузы, яшчэ больш нізкая агульна-адукацыйная падрыхтоўка, дрэнна яшчэ ў большасьці выпадкаў працуюць сэмінарыі прапагандыстых. Адзна-

чаецца яшчэ вялікая цякучасьць прапагандыстых. Малы партыйны стаж працуючых і ўсё-ж недастатковая колькасьць у параўнаньні з узросшымі запатрабаваньнямі.

Ня гледзячы на тое, што рабочы прапагандыст, праяўляе сябе на прапагандысцкай працы цэлым шэрагам станоўчых бакоў, лік рабочых прапагандыстых вельмі нязначны. Ня створаны таксама спрыяючыя ўмовы для росту іх колькасьці і падвышэньня кваліфікацыі ўжо працуючых. Каротка-тэрміновыя курсы не змаглі ў дастатковай ступені і дастатковай колькасьці іх падрыхтаваць.

8. З выходам бюлетэню „У дапамогу партвучобе“ створана магчымасьць забесьпячэньня прапагандыста неабходнымі для работы матар'яламі і мэтодычнай дапамогай, але да гэтага часу бюлетэнь „У дапамогу партвучобе“ яшчэ не здавальняе прапагандыстых: прычыны — недабраякаснасьць некаторых матар'ялаў, малая колькасьць мэтадычных матар'ялаў і спазьненьне выхаду чарговых нумароў.

У аснову далейшай працы па партасьвеце Агітпропнарада лічыць неабходным пакласьці наступныя моманты:

1) Падвышэньне тэорытычнага ўзроўню партвучобы, забесьпячэньне марксыцка-ленінскага ідэолёгічнага зьместу, ідэолёгічнай вытрыманасьці, ідэолёгічнага ўзброеньня партыйных мас у барацьбе за адзінства партыі, супроць усялякіх ухілаў ад ленінскай лініі, у сучасны момант, асабліва супроць правага ўхілу і прымірэнцтва да яго. Аднэй з галоўнейшых задач усёй партвучобы, асабліва масавай (адзінай школы палітграматы ў горадзе і на вёсцы) на бліжэйшы час зьяўляецца сталая прапрацоўка пяцігадовага пляну, рацыяналізацыі вытворчасьці, неабходнасьці ўзмацненьня працоўнай дысцыпліны, соцыялістычнае спаборніцтва, папулярызацыя пытаньняў барацьбы з бюрократызмам; у вёсцы асноўную ўвагу зьвярнуць на прапаганду індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, узьняцьця ўраджайнасьці, уздыму бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, аграномізацыя, коопэраваньне.

2) Уся гэтая работа павінна насіць не адцягнены абстрактны характар, але праходзіць пад пунктам погляду вырашэньня канкрэтна задач данай акругі, раёну, прадпрыемства, вёскі. Максымальнае прыстасаваньне партвучобы да мясцовых умоў пры адначасовым захаваньні адпаведнага тэорытычнага ўзроўню.

3) Далей рашуча праводзіць прынцып добраахвотнасьці ў партвучобе, дабіўшыся пры гэтым максымальнага абхопу партыйцаў вучобай, у тым ліку агульна-адукацыйнымі ўстановамі.

4) Пашырыць сетку партасьветы, асабліва для поўнага абхопу рабочых прыймаемых у партыю. Дабіцца максымальнага ўцягненьня ва ўсю сетку партасьветы беспартыйных

рабочых, батракоў, с.-г. рабочых, калгасьнікаў, вясковай беднаты, а таксама лепшай часткі серадняцтва, дзеля чаго: зараз-жа пачаць сыстэматычна весьці шырокую растлумачыцельную работу па партвучобе, папулярызуючы ўсе віды, формы і мэтады партвучобы, скарыстоўваючы партсходы, сходы рабочых, с.-г. рабочых, беднаты, калгасьнікаў, друк, насьценгазэты, радыё, індывідуальныя і групавыя гутаркі, арганізуючы асобныя вечары папулярызацыі вучобы ў клюбах, нардамох, хатах-чытальнях і г. д., правільна растлумачыўшы сярод партыйных мас прынцып добраахвотнасьці. Вынікам гэтай работы павінна зьявіцца стварэньне належнай грамадзкай думкі навакол партвучобы, як сярод партыйных, так і сярод блізкіх да партыі колаў працоўных.

5) Камплектаваньне сеці партасьветы на далей праводзіць на працягу ўсяго навучальнага году, ствараючы школы і гурткі для ўноў завярбованых на вучобу, пры чым асаблівую ўвагу зьвярнуць на вярбоўку беспартыйных рабочых і на павялічэньне абхопу жанчын. Для ўноў уступаючых у партыю рабочых, с.-г. рабочых, калгасьнікаў павінна быць арганізуемы на працягу ўсяго навучальнага году школы і групы. Стварыць таксама школы палітграматы пры саўгасах і калгасах, прыцягваючы да іх як партыйцаў і камсамольцаў, так і батракоў, беднату, лепшую частку серадняцтва бліжэйшага раёну. Для раскіданых асобных партыйцаў і камсамольцаў на вёсцы, а таксама і беспартыйнага актыву з с.-г. рабочых, батракоў і беднаты і стварыць асобныя каротка-тэрміновыя школы (школы—перасоўкі, курсы, зьезды), забясьпечыўшы курсантаў інтэрнатам, харчаваньнем, аслабаняючы іх ад працы.

Наблізіць партвучобу да прадпрыемства, да розных зьмен, да ўжыцьця асобных груп партыйцаў і беспартыйных рабочых наогул. Дабіцца далейшага разгортваньня сярэдніх і вышэйшых ступеняй партасьветы, вечпартшкол, прадметных гурткоў, гурткоў бягучай палітыкі па вывучэньню асобных праблем, па групавому ці індывідуальнаму вывучэньню асобных твораў Маркса, Энгельса, Леніна і г. д., далейшага разгортваньня самаадукацыі і завочнага навучаньня. Парторганізацыям забясьпечыць адпаведныя ўмовы для разгортваньня гэтых форм вучобы. Разгрузіць у патрэбнай меры займаючыхся, захаваўшы адпаведныя дні для вучобы, ліквідуючы ўсякія зрывы заняткаў складаньнем розных пасяджэньняў, сходаў і г. д., у час заняткаў прыцягваючы да адказнасьці за зрыў партвучобы, забараніць скарыстоўваньне сродкаў партасьветы на іншыя патрэбы.

6) У галіне навочнага навучаньня дабіцца рашучага пералому ў адносінах да завочнага навучаньня і палепшаньня якасьці гэтае формы вучобы шляхам наладжваньня сыстэматычнага кваліфікаванага кіраўніцтва, для чаго сваячасова

забясьпечыць займаючыхся living рознымі заданьнямі, мэтадычнымі ўказаньнямі і інш. матар‘яламі, завастрыўшы ўвагу на палепшаньне якасьці ўсёй навучальнай дапамогі займаючыхся. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на пастаноўку кансультацыі і рэцэнзаваньня, для чаго высунуць пэўны лік лепш кваліфікаваных прапагандыстых па спэцыяльнасьцям, для якіх кіраўніцтва самаадукацыяй і завочным навучаньнем павінна зьяўляцца асноўнай работай. Вылучаць 2-3 добра кваліфікаваных прапагандыстых спэцыяльна для ўсебеларускай завочнай савпартшколы, а таксама адпаведны лік для завочнага Камвузу, завочных курсаў Райпартактыву, павялічыць аплату за рэцэнзіраваньне, адначасова дабіўшыся палепшаньня якасьці рэцэнзіраваньня.

7) Кароткі вопыт работы рабоча-сялянскага радыё-унівэрсытэту паказвае, што радыё-унівэрсытэт можа стаць новай формай завочнага навучаньня, а таму лічыць неабходным правесьці шырокую кампанію сярод рабоча-сялянскіх мас для папулярызацыі радыё-унівэрсытэту, забясьпечыць яго неабходнымі сродкамі і пэдагогічным пэрсаналам.

8) Дабіцца палепшаньня якасьці работы адзінай школы палітграматы і вечпартшкол, шляхам наладжваньня работы школьных саветаў, пастаноўкі работы прапагандысцкіх калектываў, сэмінарыяў, па асобным прадметам; прадметных камісій, большага ўжываньня самастойнай праработкі матар‘ялаў, мэтады практычных заданьняў і праэктаў; у адзінай школе палітграматы больш практыкаваць элемэнтарныя пісьмовыя заданьні (канспэктаваньне).

9) АПА габінэты павінны стаць цэнтрамі лябораторнай праработкі ўсіх мэтадычных пытаньняў і мэтадычнага кіраўніцтва, вучоту вопыта апрацоўкі мясцовых матар‘ялаў для ўсёй сеці партасьветы. Лічыць неабходным стварэньне партгабінэтаў у больш буйных раёнах, на буйных прадпрыемствах, забясьпечыўшы іх асноўнай марксыцка-ленінскай літаратурай, адпаведнымі сіламі, наладзіўшы сыстэматычнае кіраўніцтва з боку АПА ЦК і цэнтральнага АПА-габінэту іх работай.

10) Бюлетэнь „У дапамогу партвучобе“ павінен стаць сапраўдным дапаможнікам мэтадычнага кіраўніцтва і дапамогі ў рабоце ўсёй сеці партасьветы, зьмяшчаць у бюлетэні своечасова заданьні, мэтадраспрацоўкі, апрацаваныя навучальныя матар‘ялы па гаспадарчаму, культурнаму, партыйнаму і савецкаму і прафэсыянальнаму будаўніцтву, асабліва зьмяшчаць заданьні і матар‘ялы па канкрэтным бягучым пытаньням. Дабіцца палепшаньня якасьці друкуемых матар‘ялаў, прыцягнуць да ўдзелу ў бюлетэні, як цэнтральныя, так і мясцовыя прапагандысцкія сілы.

11) Лічыць неабходным падрыхтаваць да пачатку навучальнага году і выдаць на белмове наступныя падручнікі.

а) для адзінай школы палітграмоты ў горадзе і на вёсцы „Азбуку ленінізма“, адпаведным чынам апрацованыя і прыстасаваныя да мясцовых умоў;

б) для савпартшкол і прадметных гурткоў палітэканомію, гісторыю УсеКП(б), эканомпалітыку, матар'ялы па гісторыі КП(б)Б, аграграмату, заданьні і рабочы матар'ял па ленінізму, гісторыі клясавае барацьбы на Захадзе;

в) у працягу гэтага году падрыхтаваць і выдаць марксыцка-ленінскую бібліятэчку для актыву, а таксама сэрыю брашур па актуальным партыйным пытаньням для радавога партыйца.

12) Пакінуць на далей агульна-адукацыйныя прадметы ў сеці партасьветы, распрацаўваўшы канкрэтныя праграмы гэтых прадметаў, дабівацца ўвязкі іх з грамадзка-палітычнымі, шляхам падбору адпаведнага матар'ялу для агульна-адукацыйных прадметаў; заахвочваць шырокія колы партыі да паступленьня ў агульна-адукац. курсы і школы для дарослых, аднačасова дабіцца рашучага палепшаньня пастаноўкі грамадазнаўства і палітграматы ў агульна-адукацыйн. установах, сыстэматычнай работы над кваліфікацыяй і перакваліфікацыяй грамаведаў, больш увагі з боку парторганізацыі гэтаму пытаньню. У бліжэйшы час Наркамасьветы склікаць нараду грамадаведаў.

Для палепшаньня выбару формы вучобы камплектаваньне сеці партасьветы, правесьці аднačасова з сеткай агульна-адукацыйных устаноў.

13) Дабіцца палепшаньня пастаноўкі вывучэньня белмовы ў сеці партасьветы, лепш паставіць кіраўніцтва гэтай справай, як падборам адпаведных выкладчыкаў, кіраўніцтва імі, так і падборам ідэолёгічна-вытрыманых цікавых для дарослых слухачоў матар'ялаў з публіцыстыкі, мастацкай літаратуры і г. д. З будучага году перавесьці ўсю партвучобу як у горадзе, так і на вёсцы на белмову, аднačасова забясьпечыўшы ўмовы для партвучобы на мовах нацменшасьці.

14) Працягваючы на лета партвучобу, лічыць неабходным у летні час, асабліва разгортваць свабодныя формы партвучобы (гурткі бягучай палітыкі, эпізодычныя гурткі, эпізодычныя лекцыі), дабіўшыся поўнага абхопу летняй вучобай новых партыйцаў, сэзоньнікаў, адпускнікоў і г. д. Бліжэйшай задачай у летняй вучобе зьяўляецца вывучэньне рашэньняў XVI партконфэрэнцыі і XII-га зьезду КП(б)Б.

АПА ЦК у бліжэйшы час забясьпечыць адпаведнымі паказаньнямі для гэтага вывучэньня. Для кіраўніцтва гурткамі скарыстоўваць у парадку практыкі курсантаў цэнтральных і акруговых курсаў прапагандыстых.

15) Падрыхтоўку і перападрыхтоўку прапагандыстых лічыць важнейшай задачай усёй партыі, без чаго немагчыма далейшае паляпшэньне і рост партвучобы. Дабіцца больш

сыстэматычнасьці, плянавасьці, дыфэрэнцыяцыі ў справе падрыхтоўкі прапагандыстых (больш рашуча высоўваць прапагандыстых з рабочых ад варштату і с.-г. рабочых і батракоў у акругах), весьці падрыхтоўку прапагандыстых для працяглых вячэрніх курсаў 3—5 месячных, адзінай школы палітграматы ў горадзе і на вёсцы, ствараючы іх у акруговых цэнтрах. Трэці курс вечсавпартшкол з адпаведнай спэцыялізацыяй (прапагандыстых нізавых партработнікаў); у цэнтры—у сярэдніх ступяней партасьветы і раённых мэтадыстых, кансультантаў, рэцэнзэнтаў і г. д., з прыцягненьнем на гэтыя цэнтральныя курсы рабочых, зьвяртаючы ўвагу на палепшаньне якасьці работы курсаў. Ужываць таксама мэтад завочнай падрыхтоўкі прапагандыстых і наступнымі курсамі—канфэрэнцыямі. Лічыць неабходным лепш і больш сваячасова паставіць інфармацыю прапагандыстых па ўсім партыйным пытаньням, прымацоўваючы акрамя асноўных кіраўнікоў працкалектываў да іх асобных кіруючых сяброў Акругкомаў.

16) Даручыць АПА ЦК наладзіць экскурсіі прапагандыстых (кіраўнікоў школ і гурткоў, работнікаў АПА-габінэтаў, кансультантаў, рэцэнзэнтаў) у Ленінград, Маскву і інш. цэнтры для азнаямленьня з пастаноўкай партасьветы і прапаганды наогул.

## Рэзалюцыя па пытаньню аб палітадукацыі ў камсамоле.

1. Задача павышэньня політычнага узроўню камсамольскай масы высоўваецца зараз, як задача першасьцяпеннай політычнай важнасьці. Абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне, абвастрэньне клясавай барацьбы за моладзь, ускладненьне задач соцыялістычнага будаўніцтва настойліва патрабуюць узмацненьня ўвагі партыі і камсамолу ца падняцьця на неабходную вышыню політычнай вучобы. Політычная адукацыя павінна быць адным з важнейшых арудзій уцягненьня моладзі ў соцыялістычнае будаўніцтва і барацьбы супроць непролетарскіх уплываў. Партыйныя і камсамольскія організацыі павінны ўпарта перамагаць і зьнішчаць зьявішчы недаацэнкі значэньня політычнай вучобы ў справе класава рэволюцыйнага выхаваньня працоўнай моладзі, якія маюцца сярод часткі камсамольцаў і нават часткі кіруючага актыву.

2. Між тым сучаснае становішча камсамольскай палітвучобы не адпавядае ўзросшым задачам камсамолу і знаходзіцца ў большасьці выпадкаў у нездавальняючым становішчы; нізкая якасьць вучобы, значны адсеў з політшкол.

3. Асноўнымі прычынамі гэтага зьяўляюцца:

а) недастатковая падрыхтаванасьць камсамольскіх прапагандыстых асабліва на вёсцы, іх няўменьне ўвязаць

палітвучобу з практыкай штодзённага будаўніцтва, штодзённай работы партыі і камсамолу;

б) слабасьць штодзённага практычнага кіраўніцтва політадукацыяй з боку кіруючых органаў камсамолу, ячэек і парторганізацый;

в) недахопы ў сыстэме політадукацыі; нездавальненьне цягі да агульнай адукацыі, недастатковая ўвага да разьвіцьця такіх форм, як гурткі бягучай палітыкі, тэматычныя і г. д., слабае разьвіцьцё школьнай сеткі ў вёсцы.

г) зразуменьне некаторай часткай камсамольцаў прынцыпа дабраахвотнасьці вучобы, як дапускаючага адмаўленьне ад палітвучобы.

4. „Падцьвярджая пастанову ЦК аб дабраахвотнасьці ў політадукацыі, ЦК УсеКП у той-жа час прызнае яўна памылковым істалкаваньне прынцыпу добраахвотніцтва, як дапускаючага адмаўленьне ад палітвучобы. Абавязкам кожнага камсамольца зьяўляецца вывучэньне рэволюцыйнай тэорыі перш за ўсё па подлінным творам Маркса, Энгельса, Леніна“ (з рэзалюцыі ЦК УсеКП па пытаньнях аб задачах камсамолу).

Задачай кожнай арганізацыі зьяўляецца: пераканаць кожнага камсамольца аб неабходнасьці сыстэматычнай палітвучобы і работы з гэтай мэтай над сабой, ажыцьцяўленьне сапраўднага добраахвотніцтва ў выбары зьместу, парадку, форм палітвучобы, самае рашучае зьнішчэньне момантаў навязваньня камсамольцу тых ці іншых форм вучобы і мэханічнага камплектаваньня сеці.

### Політадукацыя ў гарадзкіх організацыях.

1. Аднэй з неабходнейшых умоў падняцьця палітвучобы на належную вышыню зьяўляецца павышэньне ўвагі ячэйкі да яе пастаноўкі. Абавязкова неабходна значна большая ініцыятыўнасьць і гнуткасьць ячэек у прыстасаваньні зьместу і форм палітвучобы да запатрабаваньняў розных груп камсамольцаў: камсамольцаў навічкоў, камсамольцаў, рыхтуючыхся да ўступленьня ў партыю, да камсамольцаў нядаўна прышоўшых на вытворчасьць, да няпісьменных і малапісьменных і г. д. у сувязі з гэтым вялікую ролю павінна адыграць разгортваньне ячэйкамі сеці такіх форм вучобы, як газэтныя, тэматычныя гурткі, гурткі па вывучэньню програмы і ўставу камсамолу, партыі, гурткі бягучай палітыкі, агульна адукацыйныя гурткі з элемэнтамі політграматы.

З боку кіруючых органаў партыі і камсамолу патрабуецца асаблівая дапамога ячэйкам у разгортваньні гэтых форм у падрыхтоўцы кіраўнікоў, у наладжваньні мэтодычнага кіраўніцтва. Гэтую задачу неабходна асабліва падкрэсьліць таму, што ў мінулым навучальным годзе гэтая

дапамога была вельмі слаба і таму гэтыя найбольш гнуткія формы вучобы не знайшлі досыць шырокага распаўсюджваньня.

2. Вучытваючы вялікую цягу рабочай моладзі да атрыманьня агульнай адукацыі, неабходна прадугледзіць такое пашырэньне сеці ВШРМ, якое найбольш поўна здаволіла-б запатрабаваньні ў гэтых школах. Адначасова неабходна рашуча палепшыць кіраўніцтва пастаноўкай грамадазнаўства ў гэтых школах, увязаць яе з бягучым політычным і гаспадарчым жыцьцём краіны. Нарада даручае Наркамасьветы і ЦК ЛКСМБ прыняць неабходныя меры да наступнага навучальнага году.

3. Адзіная камсамольская політшкола павінна быць захавана, як адна з форм палітвучобы. Школа павінна знаёміць камсамольцаў з партыяй і асноўнымі момантамі яе політыкі ў сучасны пэрыяд. У адпаведнасьці з гэтым трэба ўнесьці зьмены ў програму школы. У програму школы могуць уключацца агульна-адукацыйныя дысцыпліны па жаданьню слухачоў. Школы павінны будавацца па раёнам і пры найбольш буйных прадпрыемствах.

4. У мэтах далейшага падвышэньня політузроўню камсамольцаў, якія прайшлі пачатковую сетку політасьветы ў камсамоле альбо ў сеці НКА, неабходна ўцягненьне іх у павышаныя формы партыйнай сеці (гуртковую, школьную, самаадукацыйную). Парторганізацыі павінны прадугледзіць адпаведнае пашырэньне сеці з разьлікам на больш поўны абхоп гэтых груп камсамольцаў. Таксама магчыма ўтварэньне вячэрней савпартшколы з камсамольскім складам слухачоў.

5. Неабходна больш энэргічна прыступіць да высоўваньня і падрыхтоўкі прапагандыстых з шэрагаў рабочых камсамольцаў, організуючы з гэтай мэтай доўгатэрміновыя курсы, якія набліжаюцца па свайму тыпу да вячэрняй савпартшколы, організуючы сэкцыі пры адпаведных партыйных курсах. У летні час павінны быць праведзены каротка-тэрміновыя курсы па падрыхтоўцы з шэрагу найбольш політычна разьвітых камсамольцаў-кіраўнікоў газэтных, тэматычных гурткоў пры ячэйках. На працягу навучальнага году абавязкова павінны працаваць сэмінары, камсамольскіх прапагандыстых асобных зьвеньняў сеці.

#### Політадукацыя ў вясковых організацыях.

1. Неабходна пашырэньне сеці стацыянарных камсамольскіх школ, якія абслугоўваюцца, галоўным чынам, мясцовымі прапагандыстымі ў парадку парт. нагрузкі.

2. Неабходна організаваць да бліжэйшага навучальнага году ня менш, чым у палове раёнаў камсамольскія школы перасоўкі з платнымі кіраўнікамі. Парторганізацыі павінны

прадугледзець асыгнаваньні адпаведных сродкаў на сець перасовак, зараз-жа прыступіць да падбору кіраўнікоў гэтых перасовак. АПАД ЦК і ЦК ЛКСМБ вырашыць пытаньне аб форме іх перападрыхтоўкі.

3. Ва ўсіх раёнах правесьці ўвосені ня менш, як 2-тыднёвыя курсы па падрыхтоўцы кіраўнікоў палітчытак і газэтных гурткоў.

4. На праводзімых курсах перападрыхтоўкі вясковых прапагандыстаў партсеці забясьпечыць ня менш 25% для прапагандыстых камсамольскіх школ.

5. Практыкаваць час ад часу курсы, зьезды (раённыя альбо куставыя) на 1—2 дні вясковых камсамольцаў для распрацоўкі найбольш важных пытаньняў палітыкі партыі.

6. ЦК ЛКСМБ і НКА пераглядзець праграмы грамадазнаўства ў ВШК з пункту погляду ўвязкі з чарговымі задачамі партыі ў галіне сацыялістычнай перабудовы вёскі, бягучым грамадзка-палітычным жыцьцём краіны.

Нарада лічыць мэтазгодным больш шырокае ўжываньне ў працэсе палітвучобы мерапрыемств, якія заключаюць у сабе моманты спаборніцтва на лепшае ўцямленьне матар'ялаў вучобы. Напрыклад, палітбой у ячэйках паміж ячэйкамі, паліт-ціры, паліт-лётарэі, палітычныя „віктарыны". З мэтай-жа ажыўленьня палітвучобы павінны арганізоўвацца экскурсіі слухачоў школ і гурткоў у музэі, прадпрыемствы, саўгасы, вёскі, больш скарыстоўваць дыапозытывы.

### Аб вучобе актыву.

Нарада лічыць неабходным асабліва падкрэсьліць пытаньне аб задачы тэорытычнай падрыхтоўкі камсамольскага кіруючага актыву ў зьвязку з тым, што тэорытычны ўзровень значнай часткі гэтага актыву зьяўляецца нізкім і адмоўна адбіваецца на якасьці яго работы. Неабходна ўсямерна паляпшаць работу гадавых камсамольскіх курсаў пры Камвузе імя Леніна, пэрыядычна праводзіць курсы па перападрыхтоўцы раённых і акруговых камсамольскіх працаўнікоў. Так, курсы павінны быць праведзены ў гэтым годзе ў летні час. Нарада прапануе партыйным і камсамольскім камітэтам прыняць меры да ўцягненьня камсамольскага актыву ў завочны камвуз і савпартшколы і іншыя формы самаадукацыі. Неабходна таксама паашчраць арганізацыю розных тэорытычных гурткоў пры камітэтах, у якіх камсамольскі актыў распрацоўваў-бы больш глыбока праблемы камсамольскай працы.

### Кіраўніцтва.

Рашучае падвышэньне якасьці палітвучобы можа быць дасягнута толькі пры ўмове палепшаньня якасьці кіраўніцтва з боку партыйных і камсамольскіх камітэтаў. Партыйныя арганізацыі і камітэты павінны:

а) уключыць у пляны сваіх аглядаў і інструктажу камсамольскую сець політадукацыі;

б) выдзеліць для кіраўніцтва сэмінарыямі кіраўнікоў камсамольскіх політшкол, гурткоў, вопытных кваліфікаваных партыйцаў прапагандыстых;

в) організаваць пры АПА-габінэтах мэтодбюро па кіраўніцтву політадукацыяй у камсамоле, выдзяліўшы для гэтага сталага прапагандыста;

г) у журнале „У дапамогу партвучобе" павінен быць спэцыяльны аддзел у дапамогу камсамольскаму прапагандыстаму гарадзкой і вясковай сеці палітасьветы.

У той-жа час самі камсамольскія організацыі і камітэты павінны разгарнуць настойлівую, упартую працу ў галіне палепшаньня палітвучобы, утварэньня грамадзкай думкі мас камсамольцаў за неабходнасьць сыстэматычнай палітвучобы, рашуча асуджаючы і перамагая вузка-дзелячаскія настроі і адносіны часткі камсамольцаў і актывістых, якія не разумеюць і недаацэньваюць усёй важнасьці вывучэньня рэволюцыйнай тэорыі яе значэньня ў справе пролетарска-клясавага выхаваньня масы сяброў саюзу.

---

**Рэзалюцыя па пытаньню „Становішча і задачы антырэлігійнае работы".**

Заслухаўшы даклад тав. Карася аб становішчы і задачах антырэлігійнае работы, усебеларуская АПА-нарада канстатуе, што антырэлігійная прапаганда ва ўсёй сыстэме культурна-асьветнай працы не здабыла належнага мейсца, праводзіцца ад кампаніі да кампаніі, мае пераважна павярхоўны характар—без выстарчальнай увагі да паглыбленьня прапаганды ідэй ваінствуюшчага атэізму ў спэцыяльных антырэлігійных гурткох і ўсёй сыстэме культурна-выхаваўчай працы. АПА-нарада адзначае, што ў выніку пастановы XII-га зьезду КП(б)Б і дырэктыў ЦК толькі за апошні час маецца некаторы зрух у гэтай працы (за апошнія 2—3 месяцы павялічылася колькасьць членаў саюзу „Бязбожнік" з 10—15 тыс. да 50 тыс.); досыць значна разгорнута праца ў сувязі з анты-вялікоднай кампаніяй.

Разам з тым АПА-нарада канстатуе, што працэс адыходу ад рэлігіі асноўных мас сялянства, новых пластоў рабочых і жанчын усё яшчэ зьяўляецца надзвычайна марудным. За лік гэтае часткі насельніцтва, галоўным чынам, адбываўся некаторы рост сэктанства, які толькі за апошні (28 г.) трохі прыпыніўся, а мейсцамі і зусім адсутнічае. Выходзячы з паказанага, антырэлігійную працу, параўнача з маючымся, неабходна значна ўзмацніць. Гэта неабходна выходзячы з таго, што рэлігія як сьветапогляд, які знаходзіцца ў прамой

працівалегласьці да пролетарскай ідэолёгіі, і рэлігійнасьць мас зьяўляюцца значнай перашкодай у справе актыўнага ўдзелу ўсіх пластоў працоўных у социялістычным будаўніцтве і што бяз зьнішчэньня рэлігійнасьці ня можа быць выканана задача соцыялістычнага перавыхаваньня працоўных, стварэньня новага чалавека. Неабходнасьць узмоцненай антырэлігійнай прапаганды выцякае яшчэ з такога факту, як абвастрэньне клясавае барацьбы, выкліканай пасьпяховым соцыялістычным будаўніцтвам і ўзмоцненым наступленьнем на капіталістычныя элемэнты. У сувязі з гэтым ажывілася і дзейнасьць рэлігійных арганізацый,—апошняга аплоту рэакцыі, якія карыстаюцца сваёй легальнасьцю, вядуць проці-савецкую контр-рэвалюцыйную працу, скарыстоўваюць цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва для таго, каб нацкаваць супроць савецкае ўлады і мерапрыемстваў кампартыі рэакцыйную і маласьвядомую частку насельніцтва.

Выходзячы з памянёнага, АПА-нарада лічыць, што галоўнейшая ўвага ў антырэлігійнай працы павінна быць зьвернута на вёску, дзе маецца больш за ўсё ўплыў рэлігіі з прычыны ўсё яшчэ значнай залежнасьці эканомікі вёскі ад стыхійных сіл прыроды, культурнай адсталасьці насельніцтва вёскі і слабасьці культурна-асьветнай працы сярод яго. Правядзеньне антырэлігійнай працы ў вёсцы неабходна будаваць на блізкіх і зразумелых для селяніна прыкладах, мясцовым матар'яле, шчыльна зьвязваючы з задачамі ўзьняцьця ўраджайнасьці, колектывізацыі вёскі, узьняцьця культурнасьці, вайсковай небясьпекай, санітарнай асьветай і інш., прычым гэтая праца ні ў якім выпадку не павінна весьціся выключна ў выглядзе славеснай агітацыі, а павінна праводзіцца пераважна прыкладам, праз мерапрыемствы гаспадарчага і культурнага значэньня, дапамогу беднаце, ліквідацыю няпісьменнасьці, організацыю і пабудову грамадзкіх калодзежаў, пажарных дружын, грамаадводаў, удзельнічаньня ў барацьбе з п'янствам, змаганьня за новы быт, сьвяткаваньня рэволюцыйных сьвят, організацыю дзетпляцовак, ясьляў і іншае. Зьвярнуць таксама ўвагу на організацыю антырэлігійнае працы ў саўгасах і калгасах з тым, каб праз іх, у прыватнасьці, праводзіць антырэлігійную працу ў акаляючых вёсках.

АПА-нарада лічыць, што пасьпяховае змаганьне з рэлігіяй будзе толькі ў тым выпадку, калі ў антырэлігійную працу будуць уцягнуты самыя шырокія пласты працоўных; калі яна будзе праводзіцца на цьвёрдай марксысцкай глебе, будзе непарыўна зьвязана з агульнымі задачамі будаўніцтва соцыялізму і бягучым момантам; калі пры яе правядзеньні будуць улічвацца мясцовыя асаблівасьці і калі яе будуць праводзіць усе масавыя грамадзкія організацыі і ўстановы (саветы, прафсаюзы, камсамол, коопэрацыя, ТСА-Авіахім, МОПР, шэфтаварыствы і інш.).

Організуючы змаганьне з рэлігіяй усіх гатункаў і адценьняў, як аднолькава шкодных у справе соцыялістычнага будаўніцтва, зьвярнуць увагу на:

а) барацьбу з сэктанствам, якое пераважна за часы рэволюцыйі узросло ў межах БССР і распаўсюджана сярод сялянства з прычыны развалу старой царквы, дыскрэдытацыі паасобных працаўнікоў рэлігійнага культу і інш. прычын, сярод якіх не малую ролю адыгрывала матар'яльная дапамога з боку сэктантаў, права адхіленьня ад нясеньня вайсковай службы і г. д., якія вядуць асабліва актыўную антысавецкую працу.

На ачагі асаблівага распаўсюджваньня сэктанства (Магілеў, Гомель, Бабруйск, Мазыр) зьвярнуць асаблівую ўвагу з тым, каб праз шэраг мерапрыемстваў гаспадарчага і культурнага значэньня зьнішчыць базу распаўсюджваньня сэктанства;

б) барацьбу з уплывам каталіцкага духавенства, якое, зьяўляючыся агентурай польскага фашызму, імкнецца ў сувязі з прыкардоннасьцю падпарадкаваць палякаў па нацыянальнасьці і наогул насельніцтва каталіцкага вераспавяданьня з тым, каб стварыць базу на выпадак вайны з СССР, пры чым неабходна ўлічыць, што да гэтага часу амаль ніякае працы не праводзілася сярод каталікаў-беларусаў, якіх па БССР налічваецца каля 400.000 і сярод іх у працавалегласьць нам ксяндзы праводзяць узмоцненую працу, пераходзячую ў шэрагу выпадкаў да ўжываньня беларускай мовы і інш.;

в) барацьбу з уплывам яўрэйскага клерыкалізму на працоўную частку мястэчак і саматужнікаў у гарадох, растлумачваючы клясавую сутнасьць рэлігіі наогул і організацый, якія аказваюць матар'яльную дапамогу клерыкалізму.

Пры правядзеньні ўсёй гэтай працы павінен быць строга клясавы падыход, неабходна ня толькі змагацца за адваёву з-пад уплыву рэлігіі асноўных мас працоўных, але і растлумачваць ім клясавую сутнасьць рэлігійных організацый і яе кіруючай верхавіны. Трэба строга памятаць, што, організуючы змаганьне з рэлігіяй, як з гэткай і яе служыцелямі, мы не разглядаем кожнага веруючага як клясавага ворага, бо сярод іх маецца шмат працоўных, якія ў моц сваёй несьвядомасьці, культурнай адсталасьці і іншых прычын, застаўшыхся ў спадчыну ад старажытнасьці, да гэтага часу знаходзяцца пад уплывам рэлігіі. Антырэлігійную прапаганду пры строгім клясавым падыходзе пры яе правядзеньні неабходна таксама

скарыстаць у мэтах інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных.

Праводзячы антырэлігійную прапаганду, трэба мець на ўвазе неабходнасьць адначасовага вядзеньня і антыклерыкальнай працы, змагаючыся з аўтарытэтамі служыцеляў рэлігійных культаў, высьвятляючы сутнасьць філантропіі праводзімай імі і інш.

Практычна ў мэтах узмацненьня антырэлігійнай работы АПА-нарада лічыць неабходным:

1. Організацыйнае замацаваньне маючыхся вынікаў антырэлігійнае працы з тым, каб яна ў працягу летняга часу, зараз-жа пасьля вялікаднёўскіх сьвят, ня зьнізілася, а, наадварот, набыла пэўныя формы і зьмест і праводзілася ня з меншай напруджанасьцю, як і ў апошнія часы, пераключыўшы яе з кампанейскіх рэяк працы на рэйкі штодзённай паглыбленасыстэматычнай работы з вучотам прадстаячага летняга часу з тым, каб з пачатку зімы яе яшчэ больш разгарнуць. Організацыя саюзу «бязбожнікаў» павінна быць масавай, абхопліваючай як мага большы лік працоўных і галоўнае, павінна быць ваінственна-атэістычнай організацыяй, у якой-бы кожны член зьяўляўся сапраўдным бязбожнікам, г. зн., ня толькі ня веруючым ва ўсялякія забабоны, але і быў-бы актыўным змагаром за пролетарскую ідэолёгію, марксысцкі сьветапогляд, соцыялістычнае будаўніцтва, для чаго ў прыватнасьці неабходна ў самы бліжэйшы тэрмін організацыйна аформіць СБ і ўмацаваць падрыхтаванымі і працаздольнымі партыйнымі і непартыйнымі сіламі, лічачы кіруючую працу ў СБ для партыйцаў за асноўную партнагрузку. Выканаць пастанову сакратарыяту ЦК ад 17/VII-28 г. аб вызначэньні пры АК КП(б)Б адказных працаўнікоў за вядзеньне антырэлігійнае працы ў акрузе. Асабліва на ўзмацненьне антырэлігійнае працы павінны зьвярнуць увагу нізавыя зьвеньні парторганізацыі (РК, ячэйкі), шмат з якіх яшчэ да гэтага часу на антырэлігійную працу не зварочваюць увагі. АПА-нарада таксама лічыць неабходным паказаць на неабходнасьць узмоцненай працы сярод жанчын (жонкі рабочых і служачых, хатнія работніцы), сярод якіх амаль не вядзецца антырэлігійная праца, з прычыны чаго, як гэта паказалі сходы па адабраньню царквей і сынагог, значная колькасьць жанчын знаходзіцца пад уплывам рэлігіі. Для таго, каб гэтая праца сапраўды праводзілася, неабходна організаваць пры Жакт'ах ячэйкі СБ, на кіраўніцтва якімі акруговыя саветы «бязбожнікаў» павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу.

2. Укараніць ва ўсю культурна-масавую працу элемэнты антырэлігійнай працы. Антырэлігійная прапаганда ў клюбах, нардамах, хатах-чытальнях павінна быць прадугледжана плянамі працы і мець цьвёрдыя бюджэтныя асыгнаваньні, а да

новага бюджэтнага году адпаведныя організацыі вызначаюць з маючыхся сродкаў неабходную суму для вядзеньня антырэлігійнае працы. Антырэлігійную прапаганду неабходна праводзіць больш сыстэматычна праз організацыю на прадпрыемствах, установах, клюбах, хатах-чытальнях і інш. антырэлігійных гурткоў, уключэньня антырэлігійных элемэнтаў у маючыяся клюбныя с. г. і іншыя гурткі, праз наладжваньне антырэлігійных лекцый, вечароў пытаньняў і адказаў, кінопастаноўкі і спэктаклі антырэлігійнага зьместу, экскурсіі, правядзеньне антырэлігійных гутарак у абедзены перапынак, групавую і організацыйную індывідуальную агітацыю, вядзеньне якой павінна быць абавязкам кожнага партыйца, камсамольца, бязбожніка і наогул усіх сьвядомых працоўных. Ва ўсіх культурна-асьветных установах і на прадпрыемствах павінны быць утвораны куткі „бязбожнікаў"; неабходна таксама скарыстаць усе агульныя і мясцовыя рэлігійныя сьвяты для правядзеньня масавай антырэлігійнай працы. Правядзеньне дыспутаў, як сталае формы працы, ня раіцца, пры неабходнасьці-ж правядзеньня неабходна папярэдняя адпаведная падрыхтоўка і прыцягненьне падрыхтаваных сіл.

3. Улічваючы тое, што антырэлігійная праца ў значнай ступені ўпіраецца ў адсутнасьць падрыхтаваных кадраў прапагандыстых антырэлігійнікаў, лічыць неабходным арганізацыю на працягу гэтага году акруговых і цэнтральных курсаў тэрмінам на адзін паўтары месяцы для падрыхтоўкі антырэлігійных прапагандыстых і організатараў антырэлігійнае работы. Для падрыхтоўкі нізавога антырэлігійнага актыву лічыць неабходным стварэньне раённых і гарадзкіх сэмінараў. У сыстэму партыйнай і камсамольскай асьветы таксама неабходна ўключыць антырэлігійныя элемэнты, а таксама ўтварэньне антырэлігійных гурткоў пры ячэйках СБ, клюбах і інш. культурна-асьветных установах гораду і вёскі, прадпрыемства і г. д. Усялякія антырэлігійныя курсы павінны быць забясьпечаны аднатыповымі програмамі, мэтадычнымі і наогул антырэлігійнымі падручнікамі. Даручыць Наркамасьветы ў тых-жа мэтах скарыстаць усе курсы па перападрыхтоўцы настаўнікаў і палітасьветпрацаўнікоў і канфэрэнцыі інспэктароў, уключаючы ў іх пляны пытаньні мэтадычных паказаньняў па вядзеньню антырэлігійнае працы ў школе і па-за ёю. Для працы ў галіне антырэлігійнай павінны быць больш прыцягнуты культурныя сілы і асабліва настаўніцтва і аграномы.

4. ЦСПСБ і АСП павінны прыняць усе меры, каб, як гэта прадугледжана ў пастанове VIII Зьезду профсаюзаў, па лініі профсаюзнай праводзілася адпаведная антырэлігійная работа, асабліва ў нізавых зьвеньнях профсаюзаў (ФЗМК), большасьцю з якіх гэтая праца да сучаснага моманту право-

дзіцца слаба, а некаторымі зусім не праводзіцца. У праводзімыя курсы па перападрыхтоўцы культасьветпрацаўнікоў павінны быць уключаны антырэлігійныя элемэнты—мэтодыка і організацыя антырэлігійнае работы. Па лініі профсаюзнай павінны быць забясьпечаны максымальна магчымыя сродкі для вядзеньня антырэлігійнай работы і дапамога СБ у падрыхтоўцы прапагандыстых антырэлігійнікаў. У летні час працы профарганізацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на антырэлігійную працу сярод сэзоньнікаў. Для таго, каб забясьпечыць сапраўднае правядзеньне антырэлігійнае працы ва ўсіх зьвеньнях профарганізацый, неабходна вызначэньне асоб, адказных за правядзеньне гэтае працы.

5. Праводзіць у школах не безрэлігійнае, а антырэлігійнае выхаваньне. Выходзячы з гэтага, Наркамасьветы неабходна перапрацаваць навучальныя програмы ўсяе асьветнае сеткі і зьвярнуць больш увагі на антырэлігійную падрыхтоўку пэдагогаў, выпушчаемых Тэхнікумамі і БДУ. Пры КУБ, савпартшколах, ВНУ і тэхнікумах організаваць з будучага навучальнага году сталыя сэмінары па падрыхтоўцы кваліфікаваных антырэлігійнікаў.

6. ЦСПСБ і політворганам Чырвонай арміі зьвярнуць належную ўвагу на організацыю і правядзеньне антырэлігійнай працы ў частках Чырвонай арміі і сярод дапрызыўнікоў, з тым, каб па дэмабілізацыі чырвонаармейцы былі здольны весьці антырэлігійную прапаганду ў вёсцы.

7. Паставіць задачу перад Белдзяржкіно аб хутчэйшым стварэньні антырэлігійнага фільму на мясцовым матар'яле, а таксама зьвярнуць больш увагі на набыцьцё антырэлігійных фільмаў іншых кіно-організацый.

8. Паставіць перад дзяржтэатрамі, і ў прыватнасьці вандроўнымі, задачу пастаноўкі ў бліжэйшы час у сваім рэпэртуару п'ес антырэлігійнага зьместу.

9. Менскай і Гомельскай радыё-станцыі працягваць організацыю цыклю антырэлігійных вечароў, лекцый, зьвяртаючы ўвагу мастацкім антырэлігійным нумарам (музыка, вершы і г. д.). Працу радыё-станцый у гэтым напрамку неабходна больш сыстэматызаваць, як і самыя лекцыі, а не праводзіць ад выпадку да выпадку і без адпаведнай увязкі з папярэднім.

10. Лічыць неабходным адчыненьне ў Менску цэнтральнага антырэлігійнага музэю і ў акруговых, прамысловых і культурных цэнтрах музэяў, выставак, габінэтаў і антырэлігійных аддзелаў пры існуючых музэях, аб чым НКА зрабіць адпаведныя загады і вызначыць для гэтай справы пэўную колькасьць сродкаў.

11. Антырэлігійную прапаганду праз газэты ні ў якім разе ня зьніжаць параўнаўча з маючымся, разам з тым газэтам неабходна ад мэтадаў агітацыі паступова пераходзіць

да больш паглыбленай прапаганды атэізму. Усім мэтадычным кіруючым часопісам профсаюзаў і НКА сыстэматычна асьвятляць пытаньні антырэлігійнае прапаганды. У насьценных газэтах павінны быць утвораны куткі „бязбожнікаў“. Лічыць таксама неабходным узмацненьне працы па распаўсюджваньню цэнтральных бязбожных пэрыядычных выданьняў і газэт („Безбожник“, часопісі „Безбожник у станка“, „Антирелигиозник“ і інш.).

12. Камсамольскім організацыям неабходна зьвярнуць больш увагі на пастаноўку антырэлігійнае працы сярод працоўнай моладзі і піонэраў, організуючы пры школах групы юных бязбожнікаў, уключаючы ў сетку палітасьветы антырэлігійныя элемэнты, высьвятляючы антырэлігійную працу сярод моладзі ў камсамольскім, піонэр. друку, інструктаваньне і агляд антырэлігійнае працы ў нізавых зьвеньнях камсамолу і піонэр - організацыі. Камсамолу правесьці ў жыцьцё пастанову ЦК УсеЛКСМ аб утварэньні пры саветах СБ сэкцыі моладзі.

13. Даручыць БДВ і ЦССБ на працягу году выдаць бібліотэку з папулярных брашур і абавязкова да восені выдаць падручнікі для антырэлігійных гурткоў (паасобна для гораду, вёскі і чырвонаармейцаў, у асаблівасьці вясковых), пры чым улічыць неабходным выданьне брашуры аб сэктантах; БДВ разам з НКАсьветы і пры ўддзеле ЦССБ выдаць антырэлігійныя кніжкі для чытаньня ў школах. Неабходна таксама зьвярнуць больш увагі на выданьне мастацкай антырэлігійнай літаратуры.

14. ЦСПСБ і НКА прадугледзець у гэтым бюджэтным годзе і наступным неабходнасьць набыцьця антырэлігійных бібліотэчак усімі клюбамі, нардамамі, хатамі-чытальнямі, чырвонымі куткамі, усімі навучальнымі ўстановамі і г. д.

15. У кожнай з акруг і пры НКАсьветы з будучага бюджэтнага году ўвесьці платную адзінку організатара антырэлігійнае працы.

---

*Адказны рэдактар* **Б. Стасевіч.**

*Рэдкалегія:* **Гольдзін, Мэерзон, Некрашэвіч, Ратнэр, Цэнцыпэр.**

# ЗЬМЕСТ.

